Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 21 (4565) 28 мая 2010 г.

# У нумары:





Імя нашага выдатнага сучасніка Васіля Зуёнка вядома, пэўна, кожнаму аматару беларускага слоўнага мастацтва. Пазначанае на вокладцы, яно нязменна з'яўлецца гарантам высокага эстэтычнага ўзроўню, своеасаблівым знакам мастацкай якасці. Пачаўшы з вершаў, пісьменнік адметнага творчага тэмпераменту і шматграннага таленту пастаянна асвойвае новыя абсягі. Акрамя шматлікіх лірычных зборнікаў, у яго мастакоўскім набытку — паэмная пенталогія "Пяцірэчча", празаічныя элегіі, эцюды, эсэістыка, пераклады і літаратурна-крытычныя нататкі...



# Лёсам вызначаны шлях

Сёння В. Зуёнак — прызнаны майстра, адзін з лідэраў літаратурнага працэсу, творчая біяграфія якога стала неад'емнай часткай гісторыі ўсёй нацыянальнай літаратуры. Некалі ж, у школьныя гады, пад уплывам кніжнай рамантыкі ён думаў пра іншы шлях — хацеў падацца ў капітаны дальняга плавання. Юначая мара, тым не менш, не замінала яму практыкавацца ў вершатворчасці, першыя спробы якой былі дасланы ў газету "Літаратура і мастацтва", адкуль прыйшоў ліст з парадай "яшчэ шмат павучыцца". Рэкамендацыя некага з тагачасных лімаўцаў аказалася лёсавызначальнай. Бацька будучага паэта ўспрыняў яе літаральна: выправіў сына ў Барысаўскае педагагічнае вучылішча, пасля заканчэння якога В. Зуёнка як выдатніка без уступных экзаменаў прынялі на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ.

Другая палова 1950-х гадоў была "залатым векам" філалагічнага факультэта. Напэўна, ніколі ў яго сценах не збіралася разам столькі перспектыўнай творчай моладзі: Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Кастусь Цвірка, Барыс Сачанка… У такім яркім асяроддзі не мог не праявіцца закладзены прыродай лірычны дар Васіля Зуёнка. У 1966 годзе нарэшце выйшла кніга лірыкі "Крэсіва" (годам раней ёй папярэднічаў зборнік вершаў для дзяцей "Вясёлы калаўрот" — прадвесце прыходу ў літаратуру новай яркай асобы). Кнігу прыхільна сустрэлі і крытыкі, і калегі па творчым цэху, прынамсі, шчыра віталі нараджэнне сапраўднага паэта У. Караткевіч і Г. Бураўкін.

Нельга не захапляцца тым, наколькі сур'ёзна і адказна В. Зуёнак з самага пачатку ставіўся да сваёй справы: першы лірычны зборнік атрымаўся настолькі прадуманым, цэласным, канцэптуальным, што яго можна разглядаць як разгорнуты паэтычны анонс усёй далейшай творчасці. Контурна абазначаныя ў "Крэсіве" пытанні жыцця і смерці, маральнай чысціні асобы, узаемаадносін чалавека з прыродай, захавання нацыянальнай самабытнасці народа паспяхова даследуюцца пісьменнікам і зараз, атрымліваючы ўсё большую ідэйна-сэнсавую аб'ёмнасць, шматграннасць і глыбіню.

Многія з прадстаўленых у зборніку вершаў разышліся на цытаты і з'яўляюцца трапнымі самахарактарыстыкамі ідэйна-творчых і маральных імператываў паэта: "зямля – мая аснова", "усіх пачаткаў я — працяг і ўсіх працягаў я — пачатак", "сябра кожнай птушцы", "маё сэрца — у жыце б'ецца перапёлчыным боем"… Візітнай карткай В. Зуёнка таксама лічыцца менавіта "крэсіваўскі" верш — "Ніхто не пачуў…": "Ніхто не пачуў: // Яблык упаў дасвеццем — // Ля Халапеніч, на Беларусі. // Ніхто не пачуў — // Ні людзі, ні травы, ні вецер... // Ніхто. // А шар зямны // Здрыгануўся..."

Выяўленая ў творы надзвычайная чуйнасць вызначае адметную зуёнкаўскую рэцэпцыю быцця. Вытокі такой выключнай пільнасці, відаць, трэба шукаць у нялёгкім, абпаленым вайной, маленстве. "Хто-хто, а я ўжо ж (ды, пэўна, і не толькі я), — разважае В. Зуёнак, — ведаю: бывае, прахопішся ў будане пад яблыняй, калі раптам гупне па даху ці нават па доле яблык, які гэта землятрусны выбух, асабліва калі ўспомніць назапашаную нашым пакаленнем крытычную масу падчас ваеннага дзяцінства". (Цікава, што ў сербалужыцкага мастака слова Кіта Лоранца верш "Ніхто не пачуў…" суадносіцца не толькі з канкрэтным беларускім аўтарам, а выклікае асацыяцыі з Беларуссю ўвогуле — зямлёю, якая не можа забыць жахі вайны: у якасці эпіграфа да нізкі вершаў, прывезенай з падарожжа па нашай краіне, ён выкарыстаў згаданыя радкі).

Уласцівая творам В. Зуёнка аднолькавая ўвага да самых простых з'яў і да быційных праблем, уменне, засяродзіўшыся на знешне нязначным, выйсці да глабальных абагульненняў дазваляе называць гэтага аўтара лірыкам з эпічным светабачаннем. Сам паэт з добрым гумарам абыгрывае навешаны на яго "ярлык": "Радню паэзію з прозай, // Лірыку з эпасам. // Жыву, як шпак на бярозе. // А песня? З жыцця і лепіцца".

Жыццёвасць, пазнавальнасць, нават побытавасць твораў В. Зуёнка спалучаецца з мастацкасцю і праблемна-тэматычнай важкасцю. У зуёнкаўскім паэтычным космасе асобнымі планетамі паўстаюць сапраўдныя, зямныя вёскі, мястэчкі, мясціны: Мачулішча, дзе 3 ліпеня 1935 года будучы пісьменнік з'явіўся на свет ("афіцыйная" дата 3 чэрвеня ўзнікла падчас аднаўлення знішчаных у вайну дакументаў), Халопенічы, Узбор'е, Узнацк…

Паказальная ў гэтых адносінах пенталогія "Пяцірэчча", сапраўдны народны эпас XX стагоддзя, буйная як па аб'ёме, так і найперш па ідэйна-эстэтычнай значнасці, ахопу ўзнятых праблем, кніга, над якой В. Зуёнак працаваў з 1965 па 1990 год. У першай паэме "Сяліба" (яе праблемна-тэматычная дамінанта — экалогія, духоўная і навакольнага асяроддзя) лірычны герой вяртаецца да берагоў рачулкі Начы, да мясцін юнацтва. Наступны твор "Прыцягненне", лірычны роздум пра чалавека і яго месца ў Сусвеце, прысвечаны земляку – касманаўту Уладзіміру Кавалёнку. У паэме "Лукам'е" аўтар праз вобраз уладара Лукомскага княства, што некалі існавала на тэрыторыі яго малой радзімы, раскрывае трагедыю лёсу змагароў за Беларускі Дом.

Прататыпам галоўнага героя "Маўчання травы" з'яўляецца бацька пісьменніка Васіль Захаравіч, просты селянін, жыццё якога суаднесена з трагічнымі перыядамі нацыянальнай гісторыі. Паэмай "Падарожжа вакол двара" В. Зуёнак ушаноўвае памяць маці Куліны Канстанцінаўны, аднак лейтматыўнае адчуванне асабістай страты пашыраецца да адчування страты агульнабеларускай (страта мовы, самабытнасці, Радзімы). Лакальная геаграфічная прывязка не перашкаджае, а, наадварот, дапамагае выяўленню маштабнага мастацкага мыслення, пастаноўцы агульнанародных і — больш за тое — агульнасусветных праблем.

Любоў да малой радзімы — канстанта творчасці В. Зуёнка. "Жытнёвая памяць" упэўнена вядзе В. Зуёнка па адзіна правільным, толькі ягоным шляху ўжо амаль пяць дзесяцігоддзяў. Няхай жа і надалей гэты шлях будзе багатым на знаходкі, лёгкім і шчаслівым.

Наталля ЗАЯЦ

## Пункцірам

• Савет па набыцці музычных твораў кампазітараў створаны Міністэрствам культуры Беларусі. Мастацка-экспертны орган будзе даваць ацэнку новым творам і разглядаць магчымасць іх набыцця Міністэрствам культуры.

• Беларуска-шведскае літаратурнае супрацоўніцтва працягваецца. У выдавецтве Логвінава на беларускай мове выйшаў сатырычны раман шведскага пісьменніка Міхаэля Ніемі "Папулярная музыка з Вітулы".

• Сёння ў сталіцы на Маскоўскіх могілках адбудзецца цырымонія адкрыцця помніка публіцысту і пісьменніку-фантасту Аляксандру Патупе, які раптоўна памёр 1 чэрвеня мінулага года. Да гадавіны смерці ўжо выйшаў зборнік яго паэзіі, прозы і публіцыстыкі "Рыпучае кола фартуны", а таксама планецца выпусціць кнігу "Растеряшки" з вершамі для дзяцей.

• Выстава "Свято стагоддзяў", што адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, прымеркавана да юбілейных дат вядомых асветнікаў беларускай зямлі – Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Будната, а таксама да 825-годдзя з часу стварэння "Слова пра паход Ігаравы". На выставе прадстаўлены факсімільныя выданні літаратурных помнікаў, сучасныя даследаванні, работы мастакоў С. Агуновіча, В. Барабанцава, Я. Куліка, А. Марыкса.

• 2 чэрвеня ў Музычнай зале Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета адбудзецца прэзентацыя-семінар "Як захаваць культурную самабытнасць?". На сустрэчы будуць абмяркоўвацца шляхі канструктыўнага міжкультурнага дыялогу. Мерапрыемства арганізаванае пры ўдзеле пасольства ЗША ў Беларусі.

• Сёння ў Полацку адкрыецца бюст кінарэжысёру Юрыю Тарычу, які ў 1926 годзе паставіў першы беларускі ігравы фільм "Лясная быль" (паводле аповесці М. Чарота). Нарадзіўся рэжысёр у 1885 годзе ў Полацку.

• У берлінскім доме мастацтваў "Тахелес" у межах фестывалю беларускага мастацтва "Дах-10" дзейнічае выстава жывапісу і графікі. Беларускае выяўленчае мастацтва ў Германіі прадстаўляюць Алесь Суша, Алесь Родзін, Віталь Герасімаў, Андрэй Савіч ды іншыя.

• Мастак Мікола Купава і навуковец, геральдыст Анатоль Цітоў ажыццявілі рэканструкцыю харугвы, пад якой беларускія войскі дасягнулі перамогі пад Грунвальдам у 1410 годзе. Пад гэтымі рэканструяванымі харугвамі дэлегацыі з Беларусі прымуць удзел у паездцы на Грунвальдскае поле 15 — 18 ліпеня 2010 года.

• У музеі-сядзібе "Пружанскі палацык" працуе выстаўка авіямадэляў "Эскадрылля Перамогі". Экспануецца больш як 50 папяровых самалётаў, змайстраваных пружанскімі школьнікамі пад кіраўніцтвам мастака Эдуарда Валасевіча.

• Помнік-часоўня героям Айчыннай вайны 1812 года аднаўлены ў Полацку. Ён пастаўлены на месцы манумента, спраектаванага архітэктарам Фіксенам у 1850 годзе і дэманціраванага ў 1932-м.

• У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава жывапісу ізраільскай мастачкі Малкі Цэнцыпер "Вясенняя мелодыя". Яе жывапіс, графіка і скульптура заўжды прысвечаныя яўрэйскай тэматыцы, галоўныя і любімыя персанажы – жыхары яўрэйскага мястэчка.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



СЕНАТАРАВА Надзея Іванаўна. Крытык.

Нарадзілася 29 ліпеня 1957 года ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці. Скончыла бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры.

З 2006 года яе артыкулы актыўна друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы: часопісах "Полымя", "Нёман", "Маладосць" і "Роднае слова", штотыднёвіку "ЛіМ", газеце "Мінская праўда". Сярод аўтараў, чыя творчасць была прааналізавана ў яе артыкулах, можна адзначыць М. Башлакова, М. Шабовіча, К. Камейшу, Г. Пашкова, У. Мазго, Ю. Фатнева і інш.



ПЯТРОВІЧ Дзмітрый Леанідавіч. Паэт.

Нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў г. Заслаўе Мінскай вобласці. Скончыў музычна-педагагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка. Магістрант кафедры беларускага мовазнаўства гэтай ВНУ.

Друкаваўся ў штотыднёвіку "ЛіМ", газетах "Настаўнік", "Мінская праўда" і "Настаўніцкая газета", часопісах "Маладосць" і "Роднае слова" і інш. У 2010 г. убачыў свет паэтычны зборнік "Белая квецень кахання".



ШЫМАНСКІ Міхаіл Мікалаевіч. Публіцыст.

Нарадзіўся 7 жніўня 1935 года ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Скончыў журфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Заслужаны дзеяч культуры БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры.

Аўтар 21 кнігі нарысаў і публіцыстыкі, выданых, акрамя беларускай і рускай, на англійскай, французскай, нямецкай, польскай, іспанскай мовах. Па яго сцэнарыях знята некалькі дакументальных фільмаў. Найбольш вядомыя кнігі Міхаіла Шыманскага — дакументальна-публіцыстычная трылогія "Здравствуй, Китай", "Китай с открытым сердцем", "Близкий Китай", "Это нужно живым" і інш.

## Вечарыны

# Галасы Прыдняпроўя

Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне гісторыка-краязнаўчага клуба "Спадчына", які дзейнічае пры Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна. Яно мела назву "Прыдняпроўя звонкія галасы". Завіталі сюды члены абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, літаратурных аб'яднанняў абласнога цэнтра.

Нагода была слушная: пяцьдзесят год таму было створана Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ.

Вядучыя вечарыны, супрацоўніцы аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры абласной бібліятэкі Наталля Багданава і Наталля Карытка, склалі змястоўны сцэнарый, з якога прысутным чыталі з дапамогай кніжнай выставы і мультымедыйнай прэзентацыі фотаілюстрацый быў яскрава прадстаўлены літаратурны працэс у Магілёўскім Прыдняпроўі за апошнія пяць дзесяцігоддзяў. Гучалі вершы паэтаў-землякоў, вёўся аповед пра былых кіраўнікоў пісьменніцкага аддзялення, празаікаў Пятра Шасцерыкова і Івана Аношкіна, паэтаў Васіля Матэвушава і Аляксея Пысіна.

Старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Дуктаў распавёў прысутным пра сённяшнія клопаты і набыткі пісьменніцкай сябрыны, пра своеасаблівы творчы падарунак, які зрабілі да юбілею пісьменнікі. Маецца на ўвазе выдадзеная нядаўна кніга-альманах "Прыдняпроўе — мае натхненне" з творамі сённяшніх членаў пісьменніцкага аддзялення. З цікавасцю слухалі ўдзельнікі вечарыны выступленні творцаў: свае новыя вершы дэкламавалі паэты Віктар Кунцэвіч і Тамара Аўсянікава, новае гумарыстычнае апавяданне прачытаў празаік Мікалай Падабед. Пра сваю працу над апавяданнямі расказаў празаік Аляксандр Цераxаў. На шматлікія пытанні прысутных адказвалі пісьменнікі-дакументалісты Мікалай Барысенка, Мікалай Хобатаў, Яўген Соцікаў.

Стала ўжо добрай традыцыяй у кіраўніцтва абласнога аддзялення СПБ і абласной бібліятэкі імя У. Леніна разам рыхтаваць і праводзіць масавыя мерапрыемствы. Да прыкладу, адбылася сумесная паэтычная вечарына "Пяшчотаю прасветленае слова", прысвечаная жыццю і творчасці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужанага работніка культуры рэспублікі Аляксея Пысіна, якому сёлета споўнілася б 90 год.

Уладзімір САСНОЎКІН

## За падзеяй

Паэтычна-акустычны канцэрт "Рытмы і рыфмы", што адбыўся ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, бадай, адна з самых паўнавартасных культурных імпрэз апошняга часу. Тонкае ўзаемапранікненне музыкі і паэзіі нараджае непаўторнае адчуванне сапраўднага мастацтва.



# Гармонія рытмаў і рыфмаў

Яшчэ Адам Міцкевіч заўважыў, што сапраўднай лірыкі проста не існуе без музыкі. І канцэрт гэта пацвердзіў. Вядучы вечарыны, сцэнарыст і рэжысёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Мюр Фарыдовіч (Васіль Дранько-Майсюк) памайстэрску пераплятаў літаратурную і музычную плыні. Сваю кранальную лірыку чыталі Віка Трэнас (дарэчы, Віка з'явілася аўтаркай праекта) і Юлія Новік. Пісьменніца Людміла Рублеўская расказала пра новыя павевы ў развіцці сучаснай беларускай літаратуры, акрэсліла найбольш значныя тэндэнцыі.

Пад пільным позіркам беларускага песняра на імправізаваную сцэну выходзілі сапраўдныя зоркі сучаснай бардаўскай песні — Тацяна Беланогая, Юры Несцярэнка і Віктар Шалкевіч. Кожны з трох выступоўцаў выявіў свой непаўторны стыль з падсветкай уласнага прыроднага таленту і майстэрства: Тацяна — у рокавых рытмах, Юры — у беларускім блюзе, Віктар — у непаўторным выкананні. Інтымнае, даверлівае светаўспрыманне адлюстроўвалася ў пошуках гармоніі рытмаў і рыфмаў.

Урэшце ўсё гэта скончылася эйфарычным зліццём музыкі і паэзіі. Па заканчэнні канцэрта спагадлівы позірк песняра зларадзіў агульныя глядацкія ўражанні.

Ганна ГРЫНКЕВІЧ

На здымку: выступае Віктар Шалкевіч.

Фота Настассі Котавай

## Не абмініце

# Выхадны ў Азярцы

У нядзелю, 30 мая, у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту адбудуцца незвычайныя, захапляючыя падзеі.

Усе рыхтуюцца да вяселля. Вяселле — справа сур'ёзная і непрадказальная. Толькі вы, паважаныя наведвальнікі музея, можаце зрабіць так, каб яно атрымалася! Вас чакаюць сапраўдныя рупар апошніх мясцовых вестак — усім вядомая Трындычыха, сялянскі староста Нічыпар і.... "знаходка для шпіёна" — Папандопула.

Кабеты змогуць уступіць у "бабскі батальён" былога аўстрыйскага ваеннапалоннага Яшкі-артылерыста, навучыцца моднаму танцу "У той стэп". Мужчыны праявяць сваю моц і спрыт у атрадзе бясстрашнага чырвонаармейца Назара. І дзецям знойдзецца справа! Яны дапамогуць знайсці скарб пана Чэчэля…

Усіх удзельнікаў свята чакаюць цудоўныя песні, танцы, а таксама знаёмствы з іншымі вядомымі героямі культавага кінафільма "Вяселле ў Малінаўцы".

Прыходзьце ўсе, і свята абавязкова адбудзецца! Побач з Малінаўкай. У чатырох кіламетрах ад Мінска, адразу за вёскай Азярцо. Праезд у Музей на прыгарадных аўтобусах ад аўтастанцыі "Паўднёва-Заходняя" па накірунках Мінск — Музей народнай архітэктуры і побыту, Гарадзішча, Дубенцы, калгас імя Калініна, Чыкі.

Ці адбудзецца "вяселле" ў музеі? Ніхто не ведае. Відавочна адно — у гэты дзень усіх чакае шмат прыгод і сюрпрызаў.

Ірына МАРЧАНКА

## Імпрэзы

# Змаганне за талент

Вядомы беларускі раманіст Кузьма Чорны не быў на фронце. Першыя тры гады вайны ён правёў у эвакуацыі ў Маскве, а пасля вярнуўся ў вызвалены Мінск. Імпрэза ў Дзяржаўным музеі гісторыі літаратуры, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, у першую чаргу асвятляла ваенны перыяд, на які прыпалі апошнія гады жыцця Мікалая Карлавіча Раманоўскага.

"Я мог бы звацца не Чорны Кузьма, а чорнарабочы. Колькі прыходзілася працаваць на кавалак хлеба!.. Пісаць няма як і жыць няма як. Цёмная кватэра, як тая камера ў турме, бруд, цемень", — занатаваў Мікалай Раманоўскі ў дзённіках 1944 года. Тыя запісы нібы крык адчаю спакутаванага хворага чалавека, які марыць толькі аб тым, каб пасля вайны ў "ціхім жыцці" напісаць нарэшце ўсё тое, што задумаў. Але надзеі на гэта няма. "Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што!" — такі запіс Кузьма Чорны зрабіў у апошні дзень жыцця.

Старэйшына беларускай літаратуры, паэт Мікола Аўрамчык прыгадаў свае сустрэчы з Кузьмой Чорным:

— У дзевятым класе я адправіў сваё апавяданне ў "Кабінет маладога аўтара" Саюза пісьменнікаў. У адказ атрымаў ад Кузьмы Чорнага пакет, у якім быў ліст старонак на пяць уборыстым почыркам і мой сшытак з апавяданнем, пакрэслены простым алоўкам, з пазнакамі на палях. Цяпер думаю: "Якое магло быць сэрца ў гэтага чалавека, які на вучнёўскі твор пісаў такія адказы!" Шкада, што гэты ліст у мяне забралі, калі Кузьму Чорнага арыштавалі. Першы раз убачыў яго на Рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў. Мікалай Карлавіч быў у шэрым касцюме, сам вельмі светлы з выгляду, здаваўся чалавекам, які ніколі не бывае на сонцы.

Калі вучыўся ў інстытуце, вельмі сябраваў з яго любімым вучнем Уладзімірам. Аднойчы ён паклікаў мяне на сустрэчу з Мікалаем Карлавічам, гэта было ў 1939 годзе, пісьменнік толькі выйшаў з турмы… Ён быў у тым жа шэрым касцюме. Валодзя спытаў: "Ну як вы?" Ён сказаў: "Нічога". Хуценька расшпіліў два гузікі пінжака і паказаў вялікую зашытую складку на поясе штаной. Напэўна, не толькі месяцы ў адзіночнай камеры, дрэннае харчаванне давялі яго да такога стану, але і тое, што там з ім рабілі. Больш я Кузьму Чорнага ўжо ніколі не бачыў".

Саша ДОРСКАЯ

## Літ-абсягі

# Мы ўсе — з Багушэвіча

Вёску Кушляны, што на Смаргоншчыне, можна смела назваць беларускай літаратурнай Меккай. Сюды з усіх канцоў краіны часта наведваюцца паэты, пісьменнікі, мастакі, каб атрымаць запал натхнення, каб прайсціся дарогамі бацькі беларускай нацыі, паэта Францішка Багушэвіча. У гэтым годзе тут асабліва людна. Прычына таму — 170-годдзе з дня нараджэння песняра.

Зусім нядаўна ў Кушлянах прайшло свята, прысвечанае юбілею нацыянальнага паэта, з удзелам літаратараў, мастакоў, даследчыкаў літаратуры, дырэктараў музеяў, акцёраў.

Лідзія Макарэвіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, выказала словы ўдзячнасці Міністэрству культуры Беларусі, кіраўніцтву Смаргонскага раёна, супрацоўнікам музея-сядзібы Ф. Багушэвіча "Кушляны" і асабіста яго дырэктару Аляксандру Жамойціну, які ўжо амаль два дзесяцігоддзі захоўвае сядзібу песняра.

Музей-сядзіба Ф. Багушэвіча для Беларусі унікальны, бо гэта, бадай, адзіны ў нашай краіне выпадак, каб захаваліся тыя сцены, падлога, аўтэнтычныя шасцігранныя шалёвачныя цвікі, якія яшчэ памятаюць скрып ботаў нацыянальнага паэта. На гэты момант звярнуў увагу даследчык Язэп Янушкевіч.

Як адзначыў пісьменнік Анатоль Бутэвіч, свята Францішка Багушэвіча — сведчанне нашай пашаны да папярэднікаў. Кожнае пакаленне беларусаў спрабуе разгадаць загадку паэта, адказаць на пытанне: хто ён? І кожнае пакаленне знаходзіць новы на яго адказ, спрабуе тым самым пазнаць і сябе, ацаніць сваю гісторыю.

На свяце былі падведзены і вынікі творчага конкурсу "Наша мова для нас святая", арганізаванага сярод школьнікаў са Смаргоні і Смаргонскага раёна з нагоды юбілею песняра. Ініцыятарамі конкурсу выступілі Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, аддзелы адукацыі і культуры Смаргонскага райвыканкама, музей-сядзіба Ф. Багушэвіча "Кушляны", Саюз пісьменнікаў Беларусі. Паэт Міхась Башлакоў падвёў вынікі конкурсу, адзначыўшы, што школьнікі валодаюць мастацтвам слова, умела выказваюць свае думкі. Такім чынам, пераможцамі творчага спаборніцтва былі названы Сяргей Трацціяк, вучань 11 класа Крэўскай сярэдняй школы, і Анастасія Шукеловіч, вучаніца 5 класа Сольскай сярэдняй школы. Акрамя падарункаў, маладыя творцы атрымалі яшчэ і літаратурны майстар-клас у выглядзе выступленняў паэтаў Міхася Башлакова і Анатоля Вярцінскага.

Вяртаючыся ў Мінск, удзельнікі святкавання ўсклалі кветкі да помнікаў Францішку Багушэвічу ў Смаргоні і Жупранах, наведалі магілы, на якіх пахаваны паэт і яго сваякі, дзе па каталіцкім звычаі XIX ст. прачыталі малітву "Анёл панскі" за супакой душы бацькі беларускай нацыі.

Марына ВЕСЯЛУХА



На здымку: даследчык літаратуры Язэп Янушкевіч выступае з прамовай.

Фота аўтара

## З-пад пяра

**Музей Якуба Коласа** разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі запачаткавалі добрую традыцыю: тут цёплым майскім надвячоркам ладзілі чарговае папаўненне шэрагаў пісьменніцкай арганізацыі. Уганароўваліся пасведчаннямі прафесіяналаў слова паэт, бард Дзмітрый Пятровіч і крытык Надзея Сенатарава. Вядома ж, у цэнтры ўвагі быў лірык. Дз. Пятровіч сабраў у Коласавай гасцёўні сваіх чытачоў і слухачоў — таксама "заўзятых славеснікаў" (вызначэнне В. Гардзея), якіх у артыкуле і не пералічыць. Рэпрэзентантамі Дз. Пятровіча былі аўтарытэты ў літаратуры — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі М. Башлакоў, які вёў рэй, і старшыня Мінскай секцый СПБ М. Пазнякоў, які ўручаў білеты. Не абмінуў імпрэзу і настаўнік Дз. Пятровіча — М. Шабовіч, які сёння ўжо "трансфармаваўся" ў яго сябра. У той вечар бард прадставіў таксама свае новыя творы. Прадэманстраваў ён і крэатыўныя здольнасці ігры на стогадовым мемарыяльным раялі.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**У Цэнтральнай** навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася прэзентацыя выдання, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі. Адно з іх — "Энцыклапедыя Победы: Беларусь — Москва". Гэта сумесны праект выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" і ўрада Масквы. Па словах галоўнага рэдактара выдавецтва Уладзіміра Саламахі, у стварэнні энцыклапедыі прынялі ўдзел усе супрацоўнікі (70 чалавек), і кніга была падрыхтавана ўсяго за пяць месяцаў. У прэзентацыі прынялі ўдзел ветэраны вайны — Герой Савецкага Саюза Іван Кустоў, ганаровы грамадзянін Мінска, акадэмік НАН Беларусі Ігнацій Антонаў, а таксама дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Каваленя, галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё Навум Гальпяровіч. На мерапрыемстве дэманстравалася юбілейная экспазіцыя "Паклонімся вялікім тым гадам". Было прадстаўлена 178 дакументаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Ганна БАСОРЫНА

**Вам не надакучыла** пісаць вершы? Гэта адно са шматлікіх пытанняў, якое дзеці (друкакласнікі матэматычнай гімназіі № 50 г. Мінска) задалі падчас сустрэчы пісьменніцы, журналісту, тэатральнаму крытыку Таццяне Мушынскай. "Калі надакучае пісаць вершы, пішу крытычныя артыкулы, казкі, апавяданні", — адказала яна. Многа цікавага пачулі дзеці пра тое, як стваралася кніга Т. Мушынскай "Вожыкі ў футбол гуляюць". Вучні задавалі самыя розныя, часам складаныя пытанні, напрыклад: для чаго вы пішаце? Пісьменніца адказала, што піша для таго, каб адрозніваць добрае ад дрэннага, вызначыць героя, з якіх можна браць прыклад, і не паўтараць іх памылак.

Валянціна СМАНЦАР

**Спрэчку лірыкаў і фізікаў** паспрабавалі нядаўна вырашыць супрацоўнікі аддзела гуманітарна-асветніцкай работы Фундаментальнай бібліятэкі БДУ Людміла Янковіч і Ірына Шкіронак, наладзіўшы на фізічным факультэце сустрэчу з паэтэсай Валянцінай Паліканінай. Назву ж ёй даў вершаваны радок госці "Дзеля думак на ўзлёце…" Паэтэса, прызнаўшыся, што першы верш напісала ў пяцігадовым узросце, распавяла пра свой творчы шлях, пра ўдзел у грамадскім жыцці краіны, у прыватнасці, у шматлікіх дабрачынных акцыях, якія праводзіцца Беларускім Саюзам жанчын, і, вядома ж, чытала творы з выдадзеных кніг.

Анатоль ПАТАПАЎ

## Арт-лінія

# Дуда ў Дудутках

Дзесяты дударскі фэст прайшоў у музейным комплексе старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі». Упершыню фестываль такога кшталту адбыўся ў далёкім 1992-м. Тады на Беларусі было толькі 5 традыцыйных дудаў і ўсяго 5 майстроў-дудароў. Зараз жа дуды маюць больш за 50 чалавек.



Арганізатары Андрэй Захаранка (арт-дырэктар "Дудутак") і Зміцер Сасноўскі (удзельнік гурта "Стары Ольса"; заснавальнік "Дударскага клуба" ў Беларусі) не памыліліся з месцам правядзення фестываля. Шпацыруючы па гандлёвых радах, зазіраючы ў ганчарную ці ткацкую майстэрні, цэх дрэваапрацоўкі ці ў майстэрню саломапляцення, адчуваеш атмасферу часоў Вялікага княства Літоўскага. І дуда арганічна ўплятаецца ў гэты ўзор. Але не трэба думаць, што дуда — гэта справа выключна архаічная і экзатычная. Вядомы музыка, мастак, археолаг Тодар Кашкурэвіч, які цяпер вырабляе дуды паводле аўтэнтычных традыцый, адзначыў: "Мы не аднаўляем нейкія лапці, а ствараем сучасны інструмент". І сапраўды, фэст даказаў, што дуда можа спалучацца з разнастайнымі музычнымі накірункамі.

Але спачатку — пра традыцыйную частку фэсту. Падчас камернага канцэрта "Адраджэнне аўтэнтычнае традыцыі" дудары распавядалі пра свае дуды, гралі абрадавыя песні, а Тодар Кашкурэвіч пасля свайго выступу прэзентаваў чаканы другі нумар этнакасмалагічнага альманаха "Druvis", галоўным рэдактарам якога з'яўляецца.

Канцэрт "Сярэднявечны баль" праходзіў ужо на свежым паветры. Тут гралі гурты "Стары Ольса", "Testamentum Terra", "Расалія", "Келі Кёль", а перад сцэнай, на прасторнай пляцоўцы, адбываліся сярэднявечныя скокі. Вялікай гнуткай рознакаляровай змяёй кружыў карагод, у які не трапілі толькі самыя пасіўныя ці надта важныя і сталыя асобы.

Пасля пачаліся эксперыменты. Спачатку гурт "Testamentum Terra" паспрабаваў сябе ў якасці металёвага рокавага калектыва. У гэтым музыкам дапамагалі запрошаныя рок-выканаўцы. А калі на сцэне з'явіліся прадстаўнікі беларускага псіхафолку — гурт "Кашлаты Вох", то пачаўся, як добра падмецілі самі выступоўцы, сапраўдны псіха-дуда-драйв.

Інтрыгай вечара стала імправізаванае шоу, у якім дудары спрабавалі граць разам з дыджэем Пятром Балцэвічам.

Феерычным акордам закрываў фэст у Дудутках гурт "Літвінтроль", які зарадзіў прысутных такой моцнай, высакавольтнай і пазітыўнай энергіяй, што абыякавым не застаўся ніхто!

І апошняе. Кажуць, той, хто хоць раз пачуў дуду, абавязкова пажадае пачуць яе зноў. Дударства — манія, у якой ёсць нешта магічнае. А дудары, па іх асабістым прызнанні, — людзі-фанатыкі, якія ў былыя часы атаясамліваліся з чарадзеямі ці вешчунамі… І як не паверыць у гэта, калі ў сталіцы і ў рэгіёнах лілі дажджы, а ў Дудутках цэлы дзень свяціла сонца. Быццам загаварыў, зачараваў нехта…

Ніна ШУЛЯКОВА

Фота аўтара

## Повязі

# Масты літаратурнага пабрацімства

Сёння ў Маскве ў рамках VII з'езда Саюза перакладчыкаў Расіі пачаў сваю работу семінар перакладчыкаў "Краіны СНД і Балтыі: адзіная міжкультурная прастора"



Галоўная тэма сустрэчы, якая праводзіцца пры падтрымцы Міждзяржаўнага гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельнікаў СНД (МФГС), — узнаўленне і развіццё творчых сувязей перакладчыкаў краін постсавецкай прасторы. Ідэя праекта належыць прэзідэнту Саюза перакладчыкаў Расіі Леаніду Гурэвічу. Ініцыятыву падтрымаў МФГС. У праекце ўдзельнічаюць усе 15 былых саюзных рэспублік. "Зараз асабліва востра стаіць праблема інтэграцыі краін СНД і Балтыі: губляюцца былыя стасункі, страчваецца мова ўзаемапаразумення, — дзеліцца развагамі намеснік старшыні аргкамітэта семінара доктар філалагічных навук Алена Зейферт (Масква). — Руская мова наймоцна страчвае ролю мовы міжнацыянальных зносін. Напрыклад, многія юныя грузіны ці літоўцы лепей гавораць зараз на англійскай, чым на рускай. Мастацкі пераклад з рускай і на рускую ў многім здольны ўзнавіць узаемасувязі паміж колішнімі рэспублікамі".

Можна прывесці цэлы шэраг прыкладаў, калі ініцыятыва перакладчыкаў Расіі з падтрымкі МФГС скіравана на развіццё прасторы нацыянальных культур у межах СНД, краін Балтыі, дзе яшчэ могуць пачуць голас іншанацыянальных літаратур. Як прыклад — серыя "Класіка літаратур СНД" выдавецтва "Художественная литература". Ужо выйшлі ў свет фальклор і літаратурныя помнікі Азербайджана, Беларусі, Малдовы, Узбекістана, Расіі, Казахстана, Туркменістана — першыя цаглінкі будучай бібліятэкі класікі народаў СНД, калекцыі літаратур Усходу і Захаду. Серыя задумана 60-томнай. Кожная краіна будзе прадстаўлена некалькімі тамамі. Нязменную цікавасць да перакладчыкаў СНД і Балтыі праяўляюць часопісы "Дружба народов" (галоўны рэдактар — Аляксандр Эбанаідзэ) і "Мир перевода" (галоўны рэдактар — Леанід Гурэвіч). Уважлівыя да краін постсавецкай прасторы часопісы "Литературная учёба" (галоўны рэдактар — Максім Лаўрэнцьеў) і "Дети Ра" (галоўны рэдактар — Яўген Сцяпанаў). Адзін з бліжэйшых нумароў апошняга са згаданых выданняў будзе прысвечаны Грузіі. Будзем спадзявацца і на "беларускія" нумары аўтарытэтных часопісаў.

На семінары "Краіны СНД і Балтыі: адзіная міжкультурная прастора" Беларусь будзе прадстаўляць рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Нёман", вядомы паэт і перакладчык, генератар многіх творчых ініцыятыў, укладальнік серыі кніг "Библиотека всемирной литературы", якая выходзіць у РВУ "Літаратура і Мастацтва", член Саюза пісьменнікаў Беларусі Юрый Сапажкоў.

Мікола БЕРЛЕЖ

# Вачыма будучыні

З прафесарам факультэта германістыкі і славістыкі ў канадскім горадзе Ватэрлоо Зінай Гімпелевіч — нашай суайчынніцай, народжанай у Мінску, кваліфікаваным вучоным, прадстаўніком Беларусі ў англамоўным свеце, сустрэўся няштатны карэспандэнт.



— Спадарыня Зіна, вы даўно вядомыя ў Беларусі як паспяховы навуковец. Дзякуючы вам Беларусі паболела ў свеце. Але ж гмах узводзіцца з падмурку. Уяўляю напластаванні часу: Мінск, руская філалогія ў педагагічным універсітэце. 1979 год – вы ўжо ў Канадзе. Выжыванне, урастанне. Прыватныя ўрокі музыкі… А што ад айчыма, вашага другога бацькі, беларускага кампазітара Дзмітрыя Камінскага "гучыць" і па сёння?

— У Канадзе ёсць добрае выслоўе: пеўнік заўсёды вернецца на свой першы насест. Як у любога чалавека, мой насест — гэта сям'я, дзяцінства і юнацтва на радзіме. Майго роднага бацькі Якава Гімпелевіча не стала, калі я была яшчэ маленькай. Ён, хутаранін з Заходняй Беларусі, страціў здароўе на вайне і памёр, не дажыўшы да 52 гадоў.

А Камінскі прыйшоў у сям'ю, калі мне было адзінаццаць, і вельмі паўплываў на маё выхаванне. У гэтым сэнсе ён, сапраўдны дэмакрат (нягледзячы на расійскае дваранства; бацьку яго хрысціў сам Пётр Чайкоўскі) і па-старому фундаментальна адукаваны інтэлігент, быў найлепшым прыкладам для тыповай савецкай піянеркі з замашкамі Паўліка Марозава, якой я была ў той час. Айчым практычна і настойваў на маёй эміграцыі, дзякуючы яму, я лічу сёння Канаду сваёй краінай, як і яго – сваім бацькам. У Канадзе Бог даў магчымасць вывучыць беларускую мову. У мой час у Беларусі ўжо панавала абыякавае стаўленне да роднага слова, але ў Канадзе, дзякуючы беларусам, якіх тут сустрэла, я змяніла свае погляды.

— Як вас сёння можна прадставіць чытачам газеты? Вы — прафесар кафедры славянскіх і германскіх даследаванняў універсітэта Ватэрлоо (штат Антарыю), доктар навук, прэзідэнт Канадскай асацыяцыі славістаў, сябар Канадскай асацыяцыі беларусістаў, з 2002 года ўзначальваеце канадскае аддзяленне Інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ). З 2005 года — у выканаўчай радзе Паўночна-амерыканскай асацыяцыі беларусістаў. Пералік, разумею, няпоўны…




— Гэтыя пасады, якія вы пералічылі, прыходзяць самі. Як і ўсе іншыя, хто напружана працуе, я не марную часу на пошукі славы і пасад.

У Канадзе людзі жывуць па правілах — простых і для большай часткі насельніцтва прымальных. Ва універсітэце працую згодна з тымі нормамі, якія атрымала, калі прайшла конкурс на пасаду малодшага прафесара: 40 працэнтаў займае выкладчыцкая праца, 40 працэнтаў — навуковая і 20 працэнтаў — адміністрацыйная. Вельмі люблю вучыць і на працягу двух вучэбных семестраў (у нас гэта восень-зіма і зіма-вясна) большую частку часу выкладаю, рыхтуюся да заняткаў, правяраю працы студэнтаў. Навуковай працай займаюся вечарамі і ў выхадныя. Трэці семестр, лета, цалкам аддаю навуцы і магу больш працаваць з аспірантамі. Не так даўно атрымала вышэйшае тут званне — поўны прафесар.

— На адной з сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі вы выступалі з дакладам "Васіль Быкаў: памяць майго сэрца". А праз год выйшла першая напісаная вамі англамоўная манаграфія пра ўлюбёнага пісьменніка "Васіль Быкаў: Яго жыццё і творы". Сярод водгукаў на вашу працу ўразілі словы Арнольда МакМіліна пра тое, што вы зірнулі на Быкава вачыма будучыні. У чым жа арыгінальнасць гэтага даследавання? І якія адкрыцці для сябе зробіць праз "вашага" Быкава англамоўны чытач?

— Кожны чалавек — кніга, што пішацца ім самім, але не кожны заслугоўвае, каб пра яго пісалі кнігу. У гэтым сэнсе Васіль Быкаў стаіць асобна ў маім успрыняцці свету. Ён — узор чалавечага сумлення. Спадзяюся, што мне хаця б крыху ўдалося перадаць галоўныя рысы яго "кнігі" англамоўнаму чытачу. Водгукі добрыя. Цяпер па заказе маскоўскага выдавецтва перакладаю манаграфію на рускую мову. Праца ідзе добра, адно толькі — не стае часу.

— Вы служыце "дыфузіі" культур. Пімен Панчанка пісаў пра "донарства" беларускай нацыі і адзначаў, што "мы — народам усім сваякі". Як выяўляецца гэтае глыбіннае сваяцтва ў вашай кнізе "Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі дваццатага стагоддзя", якая толькі што выйшла?

— Я сабрала факты аб беларуска-яўрэйскіх пісьменніках дваццатага стагоддзя, каб расказаць пра вялікую павагу і шчырую любоў беларусаў розных канфесій да жыцця і чалавека. Гэта двухмоўная праца — па-беларуску і па-англійску. Галоўная мэта — паказаць суайчыннікам і чужынцам, які вялікі беларускі дух, як ён стаяў супраць расізму і антысемітызму ў часы, калі іншыя, што лічылі сябе мацнейшымі, не вытрымалі. Гэтая праца пісалася, каб беларусы памяталі, а чужынцы даведаліся, якімі мы былі.

— На Дзісеншчыне нарадзіўся Элізар Бэн Іегуда (1857—1922), які аднавіў іўрыт. У беларускай прэсе з пашанай пісалі пра паважанага земляка. Мы выяўляем беларуска-яўрэйскае сваяцтва па-рознаму. Вось газетныя загалоўкі: "Талачынскі "адрас" гімна ЗША" (пра кампазітара Ірвіна Берліна); "Мінчанін" Харысан Форд прызнаны самым дарагім акцёрам у свеце" (высветлілі, што яго бабуля нарадзілася ў Мінску)… Але пра больш сур'ёзнае. Кастусь Ладуцька ў адным з нумароў часопіса "Маладосць" змясціў артыкул "Тры браты Чарныя з Дукоры". Размова ідзе пра Шмуэля, Баруха, Даніэля, кожны з якіх вылучаўся літаратурнымі здольнасцямі. У прыватнасці, К. Ладуцька згадвае нарыс Д. Чарнага "Дукор", напісаны ў Таронта ў 1951 годзе: "Вось бы перакласці!" Памёр Д. Чарны ў 1959 годзе. Рукапісы ў Новым Свеце не гараць?

— Так, мы шчаслівыя, што маем шмат сваякоў. І мая праца, як і артыкул Кастуся Ладуцькі, заклікае не забывацца пра гэтае сваяцтва. Аднак кожная кніга сама піша сябе, нягледзячы на пакуты і радасці аўтара. (Вы як паэт павінны разумець). У кніг, як і ў людзей, бываюць розныя лёсы: у каго лягчэйшы, у каго цяжэйшы… Знайсці добрага перакладчыка ці выдавецтва цяжка і ў Новым Свеце. Напрыклад, я знайшла перакладчыка для кнігі Быкава, каб самой мець больш часу на іншыя справы. Прачытала працу перакладчыка — першы раздзел, заплаціла і пачала перакладаць сама.

— Прафесар Адам Мальдзіс выявіў імёны ці не шасці лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, выхадцаў з Беларусі. Вылучаліся на прысуджэнне гэтай узнагароды і Васіль Быкаў, і Рыгор Барадулін. Закранула выказванне філосафа В. Акудовіча: "Пакуль беларуская літаратура не загучыць на самых розных мовах, датуль мы не будзем мець свайго Нобеля". З гэтай нагоды — якія рэцэпты ёсць у вас як у навукоўца, доктара навук?

— Рэцэптаў не маю, гадаць не люблю. Тое, што прэмію не далі Быкаву і Барадуліну, – вельмі баліць. Мяркую, Акудовіч мае рацыю, але гэта толькі адна праблема, хаця і вялікая. Большая частка перакладаў Быкава на англійскую такая дрэнная, што лепей бы іх не было ўвогуле. А лірыку Барадуліна перакласці на англійскую амаль немагчыма. Але я ўпэўнена, што цяпер, калі б Быкаў быў жывы, ён бы прэмію атрымаў. З'яўляюцца новыя пераклады, неўзабаве выйдзе двухмоўная беларуска-англійская кніга "Мёртвым не баліць" (таксама ў Канзасе), чытаюць і маю кнігу.

Гутарыў Сяргей ПАНІЗНІК

На здымку: Зіна Гімпелевіч.

Рэзананс

# «З цэлым народам гутарку весці»

Прачытала артыкулы Ірыны Шаўляковай "Культурны двубой, або Сеціратура = літаратура?" (ЛіМ № 39/09) і Ірыны Бажок "А сеціратура павісла!" (ЛіМ № 42/09) і ў "культурным двубоі" не бачу галоўнага — інтарэсаў чытача, на якога і скіравана літаратурная дзейнасць.

Ірына Шаўлякова: "Паказальна, што колькі-небудзь значныя мастацкія творы (асабліва празаічныя) не толькі моладзь, але і іх старэйшыя калегі ў Сеціве, як правіла, не змяшчаюць, у крайнім выпадку, стараюцца "прадубліраваць" іх у звычайных часопісах ці зборніках".

Прадубліраваць, можа, і нялішне, але твор, размешчаны ў Сеціве, мае значна большую чытацкую аўдыторыю. Не кожны можа кнігу купіць, а ў бібліятэцы колькасць абмежавана.

І. Ш.: "Той паэт, хто кніжку мае. А хто не мае — у чаргу".

Браць у рукі друкаваную кніжку прыемна, але ў чарзе за ёй можна прастаяць шмат часу. Добры твор заўсёды будзе запатрабаваны чытачом незалежна ад таго – друкаваны ён альбо электронны. Нецікавы твор не стане запатрабаваным, якую б форму ён не меў. А цікавы і электронны захочацца ўзяць у рукі надрукаваным. Напрыклад: доўгі час вершы Наталлі Батраковай магла чытаць толькі ў Інтэрнеце, а пасля і кнігу набыла.

А. Несцярэнка: "Чытач, а не аўтар павінен атрымліваць задавальненне ад тэксту. Чытач — у першую чаргу". І кніжны рынак таксама павінны арыентавацца на чытача. Калі ў так званым Сеціве будуць размешчаны творы беларускіх пісьменнікаў, то гэтыя творы стануць больш вядомымі і папулярнымі. Не выходзячы з дому, карыстаючыся сеткай Інтэрнет, чытач вырашыць сам, якую кнігу трэба набыць у друкаваным варыянце (бо добры твор заўсёды хочацца перачытаць).

І. Ш.: "Дагэтуль у "віртуальнай прасторы" не з'явілася насамрэч новага жанру. Прынамсі, гэтыя жанравыя формы… аказваюцца максімальна "выгнутымі" пад запатрабаванні сённяшняга спажыўца культурнага прадукту, выгадаванага інфармацыйным грамадствам".

А чаму ж не арыентавацца на запатрабаванні сучаснага грамадства? Альбо вы лічыце, калі ў віртуальнай прасторы не з'явілася новых жанраў, то існуючым нельга там быць. Лічу, што сеціратура павінна развівацца побач з літаратурай, нават сябраваць. Але змяшчэнне твораў у Сеціве трэба зрабіць больш якасным, каб яно не саступала друкаванаму слову. Гэта можа выклікаць новыя праблемы: з-за даступнасці якасных віртуальных кніг попыт на выдавецкую прадукцыю зменшыцца. Было, ёсць і застанецца лідэрам друкаванае слова, і кожная з сеці — літа — ратур знойдзе свайго чытача. На старонках часопіса "Нёман", матэрыялы якога штомесяц разам з іншымі беларускімі перыядычнымі выданнямі распісваю ў бібліяграфічны паказальнік, зацікавіў мяне дзённік-успамін Віктара Шніпа "Дарога да храма", асабліва ўспамін пад назвай "Бібліятэка": "Библиотека — это Храм, где нет святых. Библиотека — это кладбище, где есть жизнь. Библиотека — это тюрьма, в которую мы приходим, чтобы, надышавшись пылью столетий, узнать, что всё это — "суета сует и томление духа под солнцем". Библиотека — это Ноев ковчег, который собирается плыть, не понимая, что давно утонул. Библиотека — это ад и рай, где мы боги. Библиотека — это мечта мальчика, который научился читать".

Згодна. Бібліятэка — гэта храм, кніжны, і святых тут увогуле не назіраецца, бо кнігі пішуць звычайныя, але таленавітыя простыя смяротныя, сярод якіх і Віктар Шніп. Але…. Які ж гэта могільнік з існуючым жыццём? Няўжо вы пішаце свае творы дзеля таго, каб іх затым пахаваць? Большасць твораў беларускіх пісьменнікаў упершыню паўстае перад чытачом са старонак літаратурных часопісаў, затым кніг, калі не памылюся, то 80 % ад гэтай колькасці знаходзіцца ў бібліятэках, дзе твор, прабачце, не пахаваны нябожчык, а навароджанае дзіця, якое пачынае сваё актыўнае жыццё побач з чытачамі ў залежнасці ад зацікаўленасці ім. Калі пад "могільнікам" разумець творы незапатрабаваныя чытачом — то я ўсё роўна з вамі не згодна, у кожнага тавара — свой спажывец, нават у сельскай бібліятэцы нябожчыкаў няма.

Што ж гэта за турма, у якой вы вяршылі зладзейства над кніжкай Міхася Чарота разам з сябрам Сашкам? Дзякуй, што на большае не адважыліся. Зборнік вершаў маглі скарыстаць шмат чытачоў, але вы яго напраўду пахавалі на сваёй кніжнай паліцы.

Шаноўны, бібліятэка нікуды не збіраецца плыць, яна не Ноеў каўчэг. "Лекі для душы" — надпіс над уваходам у бібліятэку Рамзеса II — дастаткова яе характарызуе. Спакон веку яна з'яўляецца скарбніцай ведаў, кнігасховішчам. Плыве чытач — па кніжным моры і з вялікім задавальненнем. Камплектуючы бібліятэкі творамі беларускага, расійскага друку, дзяржава іх не хавае, а робіць даступнымі шырокаму колу чытачоў. Набыць кнігу ў магазіне таксама не кожны можа, ёсць навінкі беларускага друку, якія каштуюць 50— 70 тысяч рублёў, для многіх гэта дорага. На парозе XXI стагоддзя сельскі чытач актыўна карыстаецца бібліятэкай, тым больш, што дзяржава шмат зрабіла ў гэтым накірунку. Я, звычайная вясковая дзяўчына, яшчэ пешкі пад стол хадзіла, а мае бацькі не толькі вадзілі мяне ў сельскую бібліятэку, а нават выпісвалі "Вясёлку" і куплялі кніжкі. Дзядуля і бабуля, якія скончылі тры класы пасля вайны, сяляне, увечары абавязкова што-небудзь чыталі, тата да гэтага дня чытае. На аснове сваіх назіранняў я, сельскі бібліятэкар, магу зрабіць выснову, што да вашага сябра не хадзілі чытачы таму, што ён "зачытваўся як прафесар" і яму не хапала часу на наведвальнікаў, якім патрэбна ўвага, пастаянны аналіз і пошук новых падыходаў абслугоўвання.

Калі так адмоўна ставіцца да сеціва і бібліятэкі рабіць могільнікамі, то я не ўпэўнена што, купіўшы кнігі за ўласныя сродкі, чытач будзе лепш ведаць творы айчыннай літаратуры, сярод якіх і вашы. Мне вельмі спадабаліся радкі Ірыны Шаўляковай: ".. многія пісьменнікі так званага сярэдзіннага і старэйшага літаратурных пакаленняў шчыра перакананыя ў тым, што і сёння можна з цэлым народам гутарку весці..". Можна, пытанне ў тым — як? Нядаўна ў маёй бібліятэцы адбылася сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам, творчасць якога мне падабаецца. Але, будучы прадстаўніком старэйшага літаратурнага пакалення, ён падчас літаратурнай вечарыны пачаў актыўна арыентаваць моладзь не цікавіцца сучаснай музычнай культурай, падвергнуў крытыцы нават песенную творчасць Сафіі Ратару. Скажу шчыра, моладзь не засталася задаволенай. Таму, каб з цэлым народам гутарку весці, літаратарам старэйшага пакалення трэба арыентавацца і на моладзь, бо яна пераважае ў чытацкім асяроддзі, за ёй будучае нашай краіны. Інтарэсы моладзі ідуць побач з часам, сучаснасць фарміруе іх светапогляд, і, на маю думку, пісьменнік павінен перш за ўсё арыентавацца на гэта, каб заўсёды быць запатрабаваным. Галоўнае — інфармацыя, і няважна адкуль яе атрымалі — з друкаванага выдання ці з сеціва, галоўнае — змест. Не крыўдуйце, гэта мая асабістая думка, і, упэўнена, не толькі мая…

Вольга ПАЛУЧАНКА

Калі вам пашчасціць пазнаёміцца з гэтым чалавекам у жыцці, то вы зразумееце… Што ўсё геніяльнае проста. Яно побач, трэба толькі азірнуцца ці, можа, прыслухацца. Я ўпэўнілася ў гэтым пасля сустрэчы з Андрэем Скарынкіным. Паэт, вершы якога прасякнуты непаўторным водарам сапраўднага жыцця з яго ўсмешкамі, смуткам, прароцтвамі і магчымасцю дыхаць паветрам свабоды, зараз, тут, побач… Размова з ім, нібы музыка, пачуўшы гучанне якой, хочацца слухаць бясконца…



# Андрэй Скарынкін: «Душа і талент не належаць чалавеку…»

— Мара паэта… Якая яна ў вас, Андрэй Уладзіміравіч?

— Галоўнае, каб я змог апраўдацца перад Богам на Судзе за ўсё, што было зроблена. Душа і талент не належаць чалавеку. Ён не можа выхваляцца глыбінёй сваёй душы, а толькі заставацца на вузкай сцяжынцы і апраўдваць тое, што дадзена яму прыродай. Да таленту трэба далучыць лёс, у першую чаргу. Прысутнічае таксама нейкі гістарычны момант, які павінен спрыяць развіццю творчай асобы. Сваю ролю адыгрывае адукацыя і самаадукацыя. Не гаворачы ўжо пра працавітасць, інтуіцыю, якія проста неабходныя творчаму чалавеку. Патрэбен жыццёвы вопыт, які з'яўляецца падчас творчасці альбо перaймаецца ў лепшых майстроў, што былі да цябе.

— Каго для сябе ў якасці такіх майстроў вы вылучаеце?

— Гэта імёны ўсім вядомых Гётэ, Шылера, Байрана. У рускай паэзіі я для сябе заўсёды вылучаў Пушкіна, Лермантава, Цютчава. Яны ва ўсе часы былі для мяне ўзорам як у адносінах да паэзіі, так і ў адносінах да жыцця. Цютчава, магчыма, нават варта адасабляць, бо ён лічыў сябе толькі аматарам у паэзіі. Акрамя напісання вершаў, гэты чалавек меў шмат іншых здольнасцей. А вось Пушкін, Лермантаў ішлі традыцыйным шляхам, яны атрымалі ў спадчыну з еўрапейскай літаратуры, з грэчаскай, рымскай самае лепшае, але пры гэтым спрабавалі співаць свае песні. Яны былі геніямі. І змаглі непасрэдна праз свае мелодыі расказаць не толькі пра сваю долю, але і пра тое, чаго не казалі іх папярэднікі і не гавораць нашчадкі. У сувязі з гэтым я іх лічу сваімі сучаснікамі і больш блізкіх, чым Пушкін і Лермантаў, не знаходжу.

— Ці ёсць нейкія прынцыпы, якія складаюць аснову вашай творчасці?

— Я лічу, што патрэбна расці ў творчым плане, а не імкнуцца прыстасоўвацца да нейкіх новых густаў сучаснага грамадства ці чытача. Патрэбна заставацца самім сабой. Не тое апаганьваe душу, што ўваходзіць у яе, а тое, што выходзіць адтуль. Калі пачынаеш гэта разумець, то імкнешся быць стрыманым. Лепш няхай будзе, як у Цютчава, мала, але сумленне будзе чыстым. Мастацва павінна ўзвышаць душу чалавека. Важна не тое, чым ты займаешся і пры якіх абставінах, а менавіта як ты робіш сваю справу. У сваёй творчасці я, бывае, перагдядаю нешта з таго, што было напісана раней, і разумею, што кожны радок шчыры. Нават калі, магчыма, некалі і памыляўся, не думаў аб выніках, але гэта таксама было шчыра. Я ніколі не хварэў нейкімі графаманскімі настроямі, каб пісаць, пісаць… Усё заўсёды нараджалася ўва мне. Кожны твор нібы дзіця, якое выношваеш у сабе, удасканальваеш, не думаючы часам пра тое, а ці ўбачыць яно свет… Уся мая творчасць — гэта барацьба дабра і зла, святла і цемры. Паэзія патрабуе самаадданасці. І патрэбна быць асобай, каб нешта ствараць.

— Вера — шлях да вечнасці ці гэта толькі самападман?

— Вера — справа асабістая. Але нават калі тое, да чаго імкнешся, толькі міраж, то вера дапамагае зрабіць яго рэальнасцю. Толькі Богу вядома, хто будзе выратаваны. Чалавеку патрэбна надзея, што на гэтую зямлю ён прыйшоў невыпадкова. Творчы чалавек пры гэтым разумее, што нават калі жыццё падыдзе да завяршэння, то застанецца яго слова. Слова, у якім захоўваецца энергія чалавечага духу. У гэтым бессмяротнасць кожнага паэта.

— Свабода — стан душы. А як вы вызначаеце для сябе гэтае паняцце?

— Чалавек можа быць дзейсна свабодным, калі ён вольны ад граху, ад спакус гэтага свету. У творчасці ты свабодны, калі пішаш для сябе і выказваеш свой погляд сучасніка на нейкія пераломныя падзеі свайго часу. Сумленны мастак проста не можа абыходзіць такія моманты і маўчаць пры гэтым. Бо задача творчага чалавека перайменаваць гэты свет, убачыць яго па-свойму, але пры гэтым застацца непаўторным.

— Вам удалося адкрыць сакрэт шчасця?

— Кожны атрымлівае ў гэтым жыцці тое, што заслугоўвае. Толькі патаемныя мары здзяйсняюцца. Я лічу сябе шчаслівым чалавекам у тым сэнсе, што мне выпала жыць і тварыць у часы, калі руйнавалася жыццё ў нас на вачах, калі ўсе нашыя арыенціры ставіліся пад сумненне. Свечка павінна гарэць у цемры, каб дапамагчы тым, хто побач, убачыць святло.

— Што натхняе на творчасць?

— Кожны выпадак асаблівы… Здараецца, прачнешся раніцай — і так лёгка пішацца, нейкі рух унутры. А бывае, што, наадварот, пакутуеш, не ведаеш з чаго пачаць… Якія тэмы, такія і вершы. І кожнаму з іх патрэбна сваё месца, свой час. Натхненне часам наведвае тады, калі зусім яго не чакаеш. Яно можа ўзнікнуць пасля нейкіх жыццёвых усплескаў, успамінаў. Як вынік перажытага…

— Пра пачуццё любові напісана так многа, але ці існуе яно?

— Усё залежыць ад значэння, якое мы ўкладваем у гэтае слова. Любоў — гэта Бог. І ў кожным чалавеку таксама ёсць частачка Бога. Любіце Бога ў кожным чалавеку ці то блізкі вам чалавек, ці незнаёмы, нават калі гэта вы самі. Галоўнае — не дапусціць разбурэння.

— Сіла жанчыны ў яе слабасці. На ваш погляд, у чым павінна праяўляцца сіла мужчыны?

— Мужчына проста павінен быць дужым, стрыманым, цярплівым, клапатлівым і нешматслоўным.

— Ці варта судзіць пра чалавека па яго ўчынках?

— "Па пладах іх спазнаеце іх", — напісана ў Біблії. І добры чалавек можа ўчыніць нешта дрэннае, але ён потым пашкадуе пра гэта і раскаецца. А ў будучым, калі будзе сутыкацца з сітуацыяй, праз якую ўжо даводзілася праходзіць, то, напэўна, прыкладзе намаганні, каб не памыліцца.

— Якія жыццёвыя ўрокі вы лічыце найбольш каштоўнымі?

— Я ўсе цаню: малыя, жорсткія, крывавыя… Кожны ўрок — гэта шчасце, таму што ёсць магчымасць выправіць памылкі. Бо зноў жа, як сказана ў Біблії: "Каго любіць Бог, таго і карае. І гора таму, чый суд пераносіцца на нявызначаны тэрмін". Лепш быць адразу пакараным і прыняць пакаранне як належнае, зрабіць высновы і быць падрыхтаваным да больш суровых выпрабаванняў. Калі ў жыцці ўсё без пакарання, то, магчыма, варта задумацца: а што ж чакае наперадзе?

Шчасце, калі можаш пакутамі выправіць здзейсненае. І такія ўрокі галоўныя.

— Скажыце, калі б жыццё было імгненнем, то якім бы яно было?

— Какое счастье —
видеть небеса!
В земле такой
возможности не будет…
Но почему на землю
смотрят люди?
Что ищут на земле
людей глаза?..

Я гляджу на неба. Я бачу яго. Хіба гэта не шчасце? Сёння мы спынілі час. І наша размова — гэта таксама імгненне сапраўднага жыцця. Нават калі, здавалася б, нічога і не адбываецца.

Алена ДРАПКО

Фота Кастуся Дробава

# Лаўрышаўскае Евангелле: факсімальнае выданне

Нядаўна "ЛіМ" расказваў аб надзіва змястоўных планах Выдавецтва Беларускага Экзархата на сёлетні год, але нечакана з'явілася нагода зноў вярнуцца да гэтай тэмы. Падставай паслужыў тэлефонны званок ад тых, хто гэтак нястомна рупіцца ў нашай краіне пра выпуск духоўна-асветніцкай літаратуры праваслаўнага накірунку. Радасны голас супрацоўніка выдавецтва паведаміў:

— Будзем выпускаць Лаўрышаўскае Евангелле.

— Знакаміты беларускі рукапісны помнік першай паловы XIV стагоддзя? — вестка настолькі ўразіла, што захацелася перапытаць.

— Так-так, — пачулася ў тэлефоннай трубцы, — на яго факсімільны выпуск прыйшоў дазвол з Кракава, з музея імя Чартарыйскіх. Евангелле ж гэтае, як вядома, зберагаецца ў тамашняй бібліятэцы.

— Абавязкова паведамім пра такую прыемную навіну чытачам "Ліма", — паабяцаў я, падумаўшы, што нялішнім будзе расказаць пра гісторыю Лаўрышаўскага Евангелля.



Як няцяжка здагадацца, назву сваю яно атрымала ад месца, дзе было створана. Лаўрышаўскі манастыр — адзін з найбольш старажытных на тэрыторыі Беларусі. Ён існаваў у вёсцы Лаўрышаў каля Наваградка ў IX — XIII ст. Першапачатковыя звесткі пра з'яўленне яго можна напаткаць у летапісах Вялікага княства Літоўскага, у знакамітай "Хроніцы" Мацея Стрыйкоўскага, а пазнейшыя — у працах праваслаўных, уніяцкіх і каталіцкіх гісторыкаў XVII ст.

Праўда, у згаданых крыніцах няма адзінай думкі наконт таго, хто ж усё-такі заснаваў гэтую святую абіцель у Лаўрышаве. Калі верыць летапісным крыніцам, дык яна з'явілася ў XIII ст. дзякуючы вялікаму князю літоўскаму Войшалку (у манастве Лаўрыш). Паводле ж царкоўнай версіі, манастыр з'явіўся дзякуючы прападобнаму Елісею Лаўрышаўскаму.

Абедзве пастаці — і князь Войшалк, і манах Елісей Лаўрышаўскі — у гісторыі праваслаўнай царквы на Беларусі дый нацыянальнай гісторыі ў цэлым — надзіва прыкметныя.

Войшалк, які з'яўляўся сынам Міндоўга, у свой час з летапіснай Літвы ўцёк у Наваградак разам з бацькам і многімі яго баярамі, а потым ахрысціўся паводле праваслаўнага абраду і, як гэта рабілася, памяняў сваё імя — стаў Лаўрышам.

Елісей жа Лаўрышаўскі паводле жыццяпісу, які пераказаў гісторык, геральдык, рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай Альберт Каяловіч, быў сынам князя Траняты, а пасля займаў высокую пасаду пры двары вялікага князя літоўскага Міндоўга. Аднак развітаўся са свецкім жыццём, адасобіўся. Там і напаткаў яго праваслаўны манах, імя якога, на жаль, не дайшло да нас. З гэтым манахам яны ўдвух і заснавалі ў 1225 годзе ў Лаўрышаве святую абіцель.

Верай і праўдай Госпаду Елісей Лаўрышаўскі служыў дваццаць пяць гадоў, пакуль у ноч на 23 кастрычніка 1250 года (па ст.ст.) не быў забіты сваім слугою. Паводле паданняў, мошчы Елісея валодалі цудатворнай сілай і вылечвалі ад душэўных і цялесных хвароб. Праз два з паловай стагоддзі ўвогуле адбыўся цуд.

Каля 1505 года татары, ажыццявіўшы свой чарговы набег, спустошылі ваколіцы Навагрудка і наблізіліся да Лаўрышаўскага манастыра. Здавалася б, лёс яго насельнікаў вырашаны і ім марна спадзявацца на літасць з боку гэтых жорсткіх захопнікаў. Аднак раптам заваёўнікі кінуліся ўцякаць, бо ім падалося, што двор абіцелі запоўнены конніцай, якая значна пераўзыходзіць іх войска. Гэта прыйшоў на дапамогу Елісей Лаўрышаўскі.

У 1511 годзе ён быў кананізаваны мітрапалітам Іосіфам ІІ Солтанам. Шкада, што сёння пакланіцца мошчам прападобнага Елісея Лаўрышаўскага немагчыма. Атрымалася гэта з-за таго, што ў час адной з войнаў яны былі пахаваны ў зямлю, але месца пахавання цягам часу згубілася. Ды паранейшаму ён знаходзіцца сярод жывых. Цяпер Елісей Лаўрышаўскі ўваходзіць у Сабор Беларускіх святых, а ў 1996 годзе ў Лаўрышаве яму адкрыты помнік.

У XIII стагоддзі Лаўрышаўскі манастыр з'яўляўся адным з цэнтраў летапісання на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Што да самога Евангелля, дык яно, па думку гісторыкаў, было створана каля 1329 года. Напісана Евангелле на пергаменце царкоўна-славянскай мовай. Мае 374 нумараваныя старонкі, на якіх у дзве калонкі пададзены кананічны тэкст чатырох евангельскіх кніг Новага запавету. Лаўрышаўскае Евангелле аздоблена вялікай колькасцю па-мастацку выкананых ініцыялаў, а таксама 19 мініяцюрамі на евангельскія сюжэты. Пераплёт зроблены з дошак, абцягнутых аксамітам. Адметнасць пераплёту ў тым, што на ім замацаваны адзін з самых старажытных беларускіх абкладаў. У цэнтры ж абклада на сярэбранай пласціне знаходзіцца выява святога з дзідаю і шчытом. Па адной версіі — правобразам яго стаў князь Войшалк, па другой — гэта Дзмітрый Салунскі. Паколькі час не прайшоў бясследна, Лаўрышаўскае Евангелле ў 1887 годзе даваўлося рэстаўрыраваць.

— Факсімільнае выданне Лаўрышаўскага Евангелля, — як сказаў дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў, — плануецца выпусціць накладам 200 асобнікаў. Паколькі падрыхтоўка яго — работа працаёмкая, то кніга выйдзе прыкладна праз год.

Юрась СНЯГОВІЧ

На здымку: Елісей Лаўрышаўскі.

# Хоку ці трохрадковік?

Традыцыі японскай паэзіі сёння карыстаюцца папулярнасцю сярод прадстаўнікоў розных пакаленняў паэтаў. Некаторыя з іх прамаўляюць сваё першае літаратурнае слова са старонак перыядычнага друку менавіта ў духу традыцый японскай літаратуры, спрабуючы, магчыма, прыцягнуць большую ўвагу да ўласнай персоны праз выкарыстанне яшчэ не зусім звыклай для беларускага чытача формы. Звяртаюцца да хоку і творцы, якія ўжо заявілі пра сябе ў літаратуры не адным паспяховым зборнікам.

Адным з першых да японскага трохрадкоўя звярнуўся прызнаны майстар верлібраў Максім Танк. Яго трохрадковыя вершы, напісаныя ў розны час, былі змешчаны ў зборніку "Круглы год: Хоку беларускіх паэтаў", выдадзеным у Мінску ў 1996 годзе. Знаёмства з вершамі дазваляе сказаць, што аўтар здолеў перадаць дух японскай паэзіі, культуры ўсходняй краіны ў беларускім вершы:

Над Фудзіямай —
драконы бліскавіцаў.
Цвіце сакура.

Гэты верш адпавядае аднаму з самых галоўных эстэтычных патрабаванняў да хоку, калі першая частка твора павінна стаць невялікай асацыятыўнай загадкай, мэта якой — разварушыць фантазію чытача, а пасля ў апошнім радку даецца нечаканы адказ-параўнанне.

Яшчэ адзін, на мой погляд, вельмі ўдалы твор, які дэманструе талент Максіма Танка як стваральніка хоку:

Набыў ракаўку.
Цяпер я — не самотны.
Гавару з морам.

Можна з упэўненасцю аднесці прыведзены верш да хоку, бо, паершае, строга захоўваецца пэўная колькасць складоў у вершарадах: у першым і трэцім — пяць, у другім — сем; па-другое, твор вызначаецца дасканаласцю паэтычнага, вобразнага выказвання; таксама ўдала аўтар выкарыстаў пуант (нечаканая, рэзкая канцоўка твора, якая часта бывае ў дасціпнай афарыстычнай форме).

Хоку ў беларускай літаратуры распрацоўваў і Адам Глобус, які ў сваёй творчасці дастаткова часта звяртаўся да апісанняў прыроды, што адпавядае традыцыям японскага верша. Нягледзячы на тое, што ў Адама Глобуса не заўсёды вытрымліваюцца кампазіцыйныя



патрабаванні да хоку, але усё ж такі, на мой погляд, аўтару хапае нечаканых і цікавых вобразаў, аналогій, каб прыцягнуць увагу чытача. Важнай асаблівасцю твораў Глобуса можна лічыць яго адчуванне колераў, адценняў (такія адносіны да выключнага значэння колеру ў паэзіі былі перанесены з іншай сферы дзейнасці творцы — з жывапісу), бо гэта надае глыбіню, насычанасць яго ным вершам:

Навальніца, дождж,
плачуць-плачуць ліхтары
светлымі слязьмі.

Калі звярнуцца да творчасці Мірaслава Шайбака, які таксама праявіў сябе ў напісанні хоку, то варта адзначыць, што і ён дэманструе надзвычайнае адчуванне пераносных значэнняў, трапных параўнанняў, уважлівы да кожнага слова і вобраза ў творы:

Цыгарэтны дым:
у паветры паплылі
шэрыя кветкі.

Але нельга не заўважыць, што сучасныя беларускія стваральнікі хоку лічаць, нібыта японскі верш — усяго толькі форма, за якой не хаваецца душа твора. Таму аўтары часта прапануюць проста семнаццаціскладовую фразу, якая, па сутнасці, нічога не нясе, а называе нейкую статычную з'яву, у якой няма ніякай паэзіі. Напрыклад, творы Адама Глобуса:

Гартаю кнігу,
не чытаю, а гляджу
рэпрадукцыі.

Сліва на стале,
побач востры нож ляжыць;
зараз сліву з'ем.

Калі прааналізаваць перыядычныя выданні апошніх гадоў, кнігі, выдадзеныя па выніках розных моладзевых конкурсаў, то можна заўважыць, што хоку карыстаецца папулярнасцю сярод маладых аўтараў, якія дэбютуюць у літаратуры. Але варта адзначыць, што моладзь карыстаецца не толькі набыткамі старэйшага пакалення і арыентуецца на традыцыі японскай паэзіі, але і прыўносіць штосьці новае, сваё ў хоку, часам ствараючы на базе японскага хоку яго ўсходнеславянскі варыянт, больш блізкі для беларускага чытача.

Мяркую, што невыпадкова Андрэй Хадановіч, які папулярызуе розныя жанры, звярнуўся ў сваёй творчасці да хоку. Пры гэтым Хадановіч не змяняе сваёй прыхільнасці да паэтычнай гульні нават у хоку — у такой неадпаведнай для гульні форме верша, што патрабуе ў першую чаргу філасофскай заглыбленасці, развагі. Але А. Хадановіч насычае хоку гумарам, што можна лічыць новай з'явай у развіцці жанру:

Пісанне хоку:
Хоць навучуся лічыць
Да семнаццаці!

"Цытатнае мысленне" яскрава праяўляецца на працягу ўсёй творчасці А. Хадановіча, пры гэтым ён выкарыстоўвае розныя першакрыніцы, сярод якіх і іншаземны матэрыял (напрыклад, лацінскія выразы), і знаёмыя з дзяцінства радкі беларускіх класікаў. Прыклад інтэртэкстуальнасці ў хоку выявіўся спасылкай на творчасць Максіма Багдановіча:

"Зорка Венера
Узышла над зямлёю".
М. Багдановіч.

Але, тым не менш, сучасніі нашы не абыходзяць і дастаткова сур'ёзных тэм, нават закранаюць рэлігійную тэматыку ці характэрныя для яе сімвалы. Напрыклад, працяг твора Арцёма Арашонка:

Асенняя раніца.
У пакінутым храме
Моліцца вецер.

Быццам сэрца,
Свечка затрымцела,
Калі ты ўвайшла.

Хаця аўтар і публікуе свае творы пад назвай "хайку", але, тым не менш, яны ўжо не адпавядаюць кананічнай схеме 5-7-5: у першым выпадку гэта структура 7-7-5, а ў другім — 4-6-5. Што важней для вызначэння жанравай пэўнасці хоку: змест ці структура верша? Творцы мадэрнізуюць класічны жанр ці ствараюць абсалютна іншы від паэзіі? Пры вызначэнні жанру трэба браць пад увагу і змест, і структуру, а значыць, пад вызначэнне "хоку" прыведзеныя творы А. Арашонка і вялікая колькасць твораў іншых аўтараў не трапляюць. Гэтыя вершы набліжаны да менш патрабавальных у плане пабудовы паэтычных форм, напрыклад, да мініяцюры ці да трохрадковіка.

Паводле В. Рагойшы, мініяцюра — невялікі па сваім аб'ёме празаічны або вершаваны твор, завершаны па форме і па думцы, трохрадковік — верш, які складаецца з трох радкоў, завершаных па метрычным, інтанацыйна-сінтаксічным малюнку і па думцы.

Калі ўлічыць той факт, што хоку з'яўляецца адным з відаў трохрадковіка, то, думаю, лепш вызначаць жанравую прыналежнасць твора больш асцярожна, а не ісці за папулярнай назвай, падманваючы чытача.

Тое ж самае можна сказаць і пра Юлію Шастак, якая таксама называе творы "хайку", але іх структура не супадае з патрабаваннямі жанру:

Шэрым ценем змярканне
Цалуе твар.
Вочы сумуюць.

Тэматыка твораў набліжана да хоку: вельмі цікавыя, кранальныя вобразы і сімвалы выкарыстоўвае паэтэса, але, тым не менш, варта называць рэчы сваімі імёнамі.

Адным з найбольш удалых прыкладаў беларускага хоку можна прызнаць паэзію Віялеты Пачкоўскай, фіналісткі конкурсу маладых літаратараў імя Францэскі Петраркі. У яе творах вытрымліваюцца фармальныя патрабаванні, рэалізуюцца самыя незвычайныя метафары, нечаканыя параўнанні, якія насамрэч здольныя абудзіць фантазію чытача:

Цалую цябе
у ракавіну вуха.
Слухаю мора.

Вецер распусціў
на ніткі павуціну.
Вяжу шкарпэткі.

Вішня ў квецені
скрала ў зімы эпітэт.
Постмадэрністка.

У гэтых хоку мы сустракаемся нарэшце з пуантам, нечаканай канцоўкай. Аўтарка дае нам асацыятыўную загадку першымі двума радкамі, прапануе нашаму ўяўленню пэўны малюнак, а потым дае назву яму, знаходзіць параўнанне, нечаканае, вобразнае, больш змястоўнае за тое, што паспявае нарадзіцца ў нашай галаве. Хіба гэта не сапраўднае хоку, вытрыманае ў японскіх традыцыях, але адаптаванае да сённяшняга часу?!

Таксама хацелася б звярнуць увагу на творчы эксперымент Алеся Сушчэўскага, які стаў адным з пераможцаў конкурсу маладых літаратараў, прысвечанага 75-годдзю з дня нараджэння У.С.Караткевіча. А. Сушчэўскі стварыў не проста хоку, а невялічкі цыкл пад назвою "хоку~неба". Ён складаецца з пяці асобных хоку, аб'яднаных вобразам неба, што характарызуецца з розных бакоў:

Замілаваны,
Назіраю нябёсаў
Непакорлівасць.

Кожная хмарка —
Вечнай непаўторнасці
Аскепак вольны.

Пранізлівая,
Звонка, першасная
Сінеча неба...

Наталяюся,
Нагбом хачу праглынуць
Невычарпальнасць.

...Глядзяць нябёсы —
Семнаццаць складоў на іх!
Пакрыўдзіў хайкер...

У дадзеным творы ўсе структурныя часткі адпавядаюць класічным патрабаванням, але заслугоўвае асаблівай увагі аўтарскі вобраз неба. Вобразы неба, зор вельмі часта сустракаюцца ў стваральнікаў хоку розных пакаленняў у нашай літаратуры.

Ганна МОЎЧАН

Розгалас

# Боскасць, босасць і Паэзія

Ніхто не заклікае пісаць неарыгінальныя, кепскія вершы. Але паэтычных падборак, якія вылучаліся б выразнай, а не "нейкай" своеасаблівасцю, — у друку бракуе. Найноўшыя творы выканаўцаў адвечнай лірычнай замовы почасту не ствараюць катастрафічнага ўражання, тым больш нараджаюць жаданне прыўлашчыць, сумаўлёчыся, аўтарскі эстэтычны набытак.

Некалі, за савецкім часам, у паэзіі агульным месцам была даведзеная ледзь не да абсурду турбота пра мір. Цяпер, як па мне, іншая фатыга — а-ля па-хрысціянску кленчыць, вымольваючы дараванне, навязліва рупіцца ў агучванні рэлігійных дагматаў, жагнацца, класці і ставіць крыжы, маліцца... І прыкладаў таму — хоць каўшом бяры. Не кажу, што гэта дрэнна, але калі без такту, густу і меры, то міжволі скрушыць...

Здаецца, ранейшыя паэтычныя канцэпты Ленін і Мір неяк механічна замяніліся на іншыя — Бог і Любоў. І яны ўжо як навязлівае клішэ правяць баль і задаюць тон у радках юных, сталых і нават лядашчых паэтаў. Раней зразумела: паэты былі камуністамі да ідэалогія вымагала... А цяпер што? Вершапісцы дабраходзь пасталі нейкімі "літпастырамі"!?

Знічу пакіньце Знічава!!!

Хворасць на эксплуатацыю сучасных дамінуючых калярэлігійных штампаў праявіла сябе і ў лімаўскай падборцы за 30 красавіка гэтага года. Мяркуйце самі:

За грахі, Усявышні, нам, // дзецям свaім, Ты прабач (Генадзь Раманаў "Божы дождж");

Звужаецца прастора для маны... // І пачынаю разумець так ясна: // Ад Бога — праўда, фальш — ад Сатаны (Аркадзь Нафрановіч "Любіць-кахаць — пазнаць жыцця асновы...");

З непадуладнасцю і гонарам // язычніцкай багіні, // На капішчы якой аднойчы апынуўся, // Маіх пачуццяў, думак, // мрояў ты зямная гаспадыня, // Табе адзінай я, дзівак, малюся (Алесь Емяльянаў "Крывічанка").

Гэта што? Можна адказаць нібыта панавукоўму, а значыць, амаль безадэначна і канстатацыйна: актыўнае ўвядзенне ў лірычную тканіну рознага ўзроўню хрысціянскіх рэмінісцэнцый. Няхай бы і так. Ды, вось бяда, не заўсёды верыцца ў шчырасць такіх аўтарскіх пасылаў.

Закрадаецца падазрэнне: а можа, тут паэтычнае шальмоўства?

Памятаеце, як дружна, хорам "плакалі" ледзь не ўсе нашаніўскія паэты аб гаротнай мужыцкай долі? Але ж далёка не ўсе з іх яе (долю) не толькі па-мастацку назіралі, але і рэальна прачулі (хоць і не звездалі!). Так і цяпер? Відавочна, дзе ёсць знарочыстае несардэчнае пазёрства, там мусібыць паэзіі — як панюхаць. Таму і атрымліваецца як у прыказцы — служкі ў лапцях, а пан босы. Самі паэты, спадзяюся, маюць хоць які — ды абутак, а іх паэзія, хоць і насычана адпаведнай вобразнай атрыбутыкай, нібы прыхінута царкоўным аблачэннем-апранахамі, — нярэдка голая і босая. І маем замест Боскасці — Босасць.

Зрэшты, пра сумнеўныя вынікі і спосабы творчай рэцэпцыі біблейна-хрысціянскага матэрыялу, здаецца, неяк ужо пісалася ў тыднёвіку. Аднак дагэтуль фрагменты "секулярызаваных кантычак" займаюць немалы аб'ём у цалкам сведкіх літаратурна-мастацкіх выданнях, а псеўдатворчы сверб іх прадукавання, відаць, не сціхае, а ўсё больш вярэдзіць.

Цяпер пра іншае. Нашы паэты, мабыць, не заўсёды ўсведамляюць, якой мазольнай чорнай працы вымагае дарэчнае збіранне вершаў у адзін фокус, тое майстэрства архітэктонікі, якое абумоўлівае логіку раскрыцця зместу. У друку рэдкасць сапраўды ўдалая нізка вершаў, аб'яднаных хаця б скразной ідэяй, калі мазаічнае стварае адзінае цэлае. Калі адсутнічае абагульняючы вектар, то асобныя лірычныя карцінкі-кадры цяжка спалучаюцца, каб стварыць канкрэтны і запамінальны паэтычны вобраз, які можа набываць і значны метафарычны сэнс.

На мой погляд, у гэтых адносінах з цытаваных ужо лімаўскіх аўтараў прэтэндаваць на сінтэзуючае паэтычнае абагульненне могуць перадусім пяць вершаў Генадзя Раманава. Мяркую, што вартая паэзія найперш здзіўляе (памысным вобразам? рытмікай? чымсьці няўлоўным?), затым усталёўвае душэўную суладнасць з мастаком — эмацыянальнае, а потым — рацыянальнае хаценне: даўмецца, зразумець, скеміць... Прызнаюся, вершы мяне здзівілі.

У першым з іх — "Як цудоўна быць росым..." — у чарговы раз раскрываецца так званая вечная праблема творцы і натоўпу, якая ўвасабляецца ў адстойванні лірычным героем натуральнага права быць не такім, як усе. Гэта і дэкларуецца ў заключным трохрадкоўі:

Я не буду пакорным
і не стану я катам,
хачу роўным быць з вамі,
хоць крывым і гарбатым.

Не буду спрачацца, што ў мінулым, у аналах літаратуры такіх крэда — не абабрацца. Але лічу верш надзвычай удалым па рытмічным малюнку, выкарыстанні сумежнай рыфмоўкі, алітэрацыі (паўтарэнне гуку р). Яны ўзмацняюць інтанацыйна-гукавую выразнасць, ствараюць і перадаюць эфект усеагульнага маршу:

Роўным шыхтам, бадзёра
ў рытм зміняючы ногі,
Крочыць разам з усімі
да адной перамогі.

Герой не скараецца і адмаўляецца "разам з усімі" шыхтавацца і бяздумна чаканіць крок да нейкай неакрэсленай мэты.

А далей у строгай паслядоўнасці-цыклічнасці размешчаны вершы, адпаведныя порам года: лету — "Божы дождж", "Залатая восень", зіме — "Белы верш" і "Позняя вясна". Усе яны прасякнуты пафасам спадзявання на лепшае, хаця і адлюстроўваюць розныя адчуванні ды чаканне перамен не толькі ў духоўным свеце лірычнага героя. Ён прагне, каб летні дождж, якога большасць байца, змыў людскія грахі, каб не спяшалася яго жыццёвая восень, каб радасць ад чысціні белага снегу (гэткі каламбур, бо назва "Белы верш" датычыць не формы, а названага колеру) не знікла раптоўна, каб абвешчаная ўжо вясна прыйшла нарэшце насамрэч. На першы погляд, здаецца, што перад намі кандова традыцыйны паэтычны ход, афармлены ў імпрэсіўным ключы і належнай манеры. Але ён адмыслова ілюструе і перадае рух часу, выяўляе дынаміку нейкай скрушнай наканаванасці. А створаны і зафіксаваны імгненны настрой ад кожнай прыроднай "падзеі" змястоўна і метафарычным чынам звязаны з уступнай паэтавай дэкларацыяй. Адчуваецца, што вера героя выпрабоўваецца на трываласць і яна, бадай, можа пахіснуцца, а яму трэба захаваць упэўненасць у сабе, ва ўласнай мужнасці, не ісці на прыніжальныя маральныя кампрамісы. Таму дарэчным уяўляецца нават паўтарэнне ўзорна дэкадэнсага: "Між пальцаў апошняй вадой уцякаюць гады" ("Залатая восень").

Што карысці пераказваць вершы? Іх трэба чытаць, а то і перачытваць. Што і раю.

А Генадзя Раманава віншую і хачу пачытаць штокольвек яшчэ.

Ігар ЗАПРУДСКІ

# Эмоцыі з рознымі відамі сувязі



Новыя вершы М. Дуксы — класічныя пяцістопныя і не толькі ямбы з куляшоўска-пысінскай інтанацыяй, правакуюць на роздум пра час, пра шлях, пра свет. Паэты-філосафы сёння ўсё больш адыходзяць у цень, а новая паэзія прагне абнаўлення несур'ёзнасцю і хвошча філасофаў вярбой. Шкада.

Заканчэнне публікацыі асобных раздзелаў з рамана З. Дудзюк "Слодыч і атрута" падводзіць рысу публікацыі. Думаецца, галоўнае пакліканне кожнага творцы ў тым, каб сказаць новае слова. З. Дудзюк, на мой погляд, у вясковую прозу гэтым сваім творам нічога новага не ўнесла. Традыцыйнасць тут засланіла магчымае наватарства. Але гэта зусім не азначае, што твор кепскі. Проста ён не найвышэйшай пробы — гэта чарговы "кампрамісны" варыянт.

Падборка недрукаваных вершаў У. Марука "І перайсці нябачную мяжу…" працягвае маладосцеўскую падборку, ствараючы паралелі ў скразных вобразах спачылага паэта, працягвае, па сутнасці, ягоны лірычны маналог, які вершыцца ўжо нават і з тагасвецця. Яшчэ ў нумары — вершы Н. Гальпяровіча на інтымную і рэлігійна-філасофскую тэматыку.

Апавяданне Я. Крупы "Два боханы хлеба" таксама дае прыклад таго, як цудоўная фактура не ператвараецца, на жаль, у твор мастацтва. Расповед пра тое, як хлопчыкі ў галодны час купляюць у іншай вёсцы хлеб усхвалюе чытача, балазе, у творы сапраўды шмат трапных назіранняў, шчымлівых момантаў. Але сама арганізацыя твора кульгае на розныя ногі, і праз гэтую прыкрую кульгавасць апавяданне Я. Крупы моцна праіграе.

Пачатак публікацыі рамана С. Пясецкага "Пяты этап" у перакладзе Я. Янушкевіча — адна з найсур'ёзнейшых падзей у бягучым перакладчыцкім руху. Асобнай кнігай па-беларуску нядаўна выйшаў найбольш вядомы раман нашага земляка "Каханак Вялікай Мядзведзіцы". "Полымя" прапануе чытачу першы раман класіка польскай літаратуры С. Пясецкага "Пяты этап". Цікава, што ён быў напісаны аўтарам за 28 дзён!

Яшчэ з перакладных публікацый — нізка паэтычных твораў класіка беларускай і польскай літаратуры XIX ст. У. Сыракомлі ў перакладзе з польскай мовы У. Мархеля.

Аддзел публіцыстычных матэрыялаў красавіцкага "Полымя" прапануе артыкул "Рост якасці айчынных тавараў — шлях да спажыўца. "Круглы стол" Інстытута эканомікі НАН Беларусі", а таксама нарыс-успамін былога загадчыка арганізацыйнага аддзела Хойніцкага райкама КПБ В. Баранава "Попел Чарнобыля" — пра вядомыя трагічныя падзеі, пра ўмовы працы і эвакуацыю жыхароў забруджаных тэрыторый у 1986 г.

У раздзеле навуковых публікацый па літаратуразнаўстве і крытычных матэрыялаў — артыкул А. Марчанка "Спецыфіка стварэння мастацкіх вобразаў у літаратуры і жывапісе", праца М. Прохар "Чарнобыльскія матывы ў прозе ўкраінскіх аўтараў". У рубрыцы "Кнігарня" — рэцэнзіі "Літаратурна-краязнаўчы човен" М. Берлежа і "Свята памяці" М. Шамякінай на кнігі, адпаведна, І. Штэйнера "Дняпроўскія матывы" (Гомель, 2009) і У. Ягоўдзіка "Шчыраю ноччу" (Мінск, 2009). Друкуецца і працяг краязнаўчага нарыса П. Шпілеўскага "Мазыршчына" (у перакладзе з рускай мовы А. Вашчанкі). Завяршаецца нумар традыцыйным "Календаром памятных дат".



Красавіцкі "Нёман" адкрываецца раманам А. Андрэева "Адчужэнне". Твор напісаны праз маналог апавядальніка, ад першай асобы, імкнецца да эсэістычнасці. Хутчэй гэта эсэ з элементамі рамана: падзей у жыцці героя адбываецца зусім няшмат, у добрым апавяданні набярэцца іх значна больш. Па стылі твор нагадвае прозу А. Лосева, які некаторыя свае думкі любіў афармляць у выглядзе "маналогавых распаведаў". Зрэшты, у Лосева не было выхаду на інтымна-эратычную праблематыку, якою наскрозь працяты ўвесь раман А. Андрэева. Матыў адчужэння ўзнікае напрыканцы кожнай часткі, а дакладней — у апошнім сказе кожнай часткі, прычым, механізуючыся, гэты прыём становіцца занадта відавочным і муляе вока. Не ратуюць сітуацыю і мысленчыя вобразныя метафары-лейтматывы. Дзеля справядлівасці нельга не адзначыць, што некаторыя старонкі жыццёвай філасофіі, цікава і з гумарам аформленыя А. Андрэевым, маюць немалую каштоўнасць і, як пісаў Кузьма Чорны, "узбіваюць на патрэбныя і важныя думкі".

Падборка вершаў М. Купрыянава ўражвае колькасцю ўжытых мастацкіх тропаў, але, па шчырасці, на гэтым уся навізна і завяршаецца.

Апавяданні М. Наталіч напісаныя лёгкім паветраным стылем ды адлюстроўваюць нялёгкае чалавечае жыццё. Падобны стыль у сучаснай рускамоўнай прозе становіцца ледзь не агульным месцам — рамантычна-метафарычны флёр, імпрэсіі-параўнанні, "дзіцячы" спосаб мыслення. Зрэшты, і гэта таксама выйсце для стылю: трэба ж некуды хавацца ад бязлітаснай "скразняковай" прасторы сённяшняга літаратарскага становішча.

Лірыка Г. Каржанеўскай у перакладзе Г. Аўласенкі (адзін верш перастворaны самою аўтаркай) — роздум пра ўласны лёс, пра "цяперашні" час і пра тое, як у ім жыць. Адзначым верш "Пока грехи не выгорят дотла…"

Верш В. Куца "Песня ваўка" напісаны ў сінтэтычнай стылістыцы: форма лірычнай замалёўкі з натуры ўскладняецца баладнай міфапаэтычнай лініяй з выхадам на нацыянальна-вызваленчую гістарычную тэматыку паўстання К. Каліноўскага. Трэба сказаць, што сінтэз выйшаў "не камяком", старая тэматыка-праблематыка загучала абсалютна па-новаму.

Два апавяданні М. Левінай па-рознаму прадстаўляюць пісьменніцу. Першы твор адсылае да кафкіянскай сітуацыі "ператварэння" (зрэшты, гэтыя сітуацыі даўно апісаныя ў чарадзейных казках усіх народаў — матыў метамарфозы), звязанага з маральна-этычным выглядам героя. Другое апавяданне — пра пошукі жанчынай апірышча; яна знаходзіць яго ў тонкіх гульнях смаку тасканскага ружовага віна. Абодва апавяданні напісаныя ў гладкім сінтаксісе, з прастамоўнай "сказавай" інтанацыяй.

Яшчэ ў літаратурнай частцы — нізкі вершаў І. Міронава і А. Кузьмічовай, а таксама камедыя Г. Марчука "Багдан любіць Галю" (пераклад з беларускай Н. Марчук).

У раздзеле "Сусветная літаратура" ў "Нёмане" друкуецца шэраг эсэ французскага пісьменніка Жана д'Армесона (пераклад А. Чыжэўскай). Вядомы аўтар, член Французскай Акадэміі, доктар філасофіі разважае над праблемамі сучаснага еўрапейскага грамадства, перачытвае класіку, рэцэнзуе кнігі найноўшых французскіх аўтараў, многія з якіх будуць для чытача невядомымі, успамінае пра пісьменнікаў-раўналеткаў, што ўжо адышлі з гэтага свету. Тут жа — нізка паэтычных твораў балгарскага паэта Д. Дэбелянава (уступ і пераклад І. Галубнічага).

Адным з самых цікавых матэрыялаў нумару з'яўляецца, бясспрэчна, публікацыя лістоў В. Віткі ваеннага часу, падрыхтаваная яго ўнучкай культуролагам Ю. Чарняўскай. Чытачы могуць з першых вуснаў пачуць пра ўсе калізіі, умовы і быт пісьменнікаў, што працавалі ў часы вайны ў рэдакцыях грамадска-палітычных і літаратурных выданняў СССР: П. Глебкі, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, М. Лынькова. Асабліва часта на старонках лістоў з'яўляецца Кузьма Чорны, зямляк В. Віткі, які тады дажываў свае апошнія месяцы, упарта працуючы, тым не менш, над новымі творамі.

У рубрыцы "Да 65-годдзя Перамогі" — артыкул Г. Ануфрыева "Праз усё жыццё ўспамінаю тую батарэю" (пра палкоўніка ў адстаўцы А. Сідарэнку). А. Марціновіч у раздзеле "Асоба" прапануе разгорнуты нарыс пра начальніка аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама І. Дзермана.

Крытыка і літаратуразнаўства прадстаўлена артыкуламі дактароў філалагічных навук В. Максімовіча "Мастацкі эксперимент у паэме Т. Кляшторнага "Калі асядае муць"" і У. Гніламёдава "Паэзія, абпаленая Чарнобылем" (пра творчасць М. Мятліцкага). С. Юр'еў і М. Шумейка адгукнуліся рэцэнзіямі на кнігі Л. Турбіной "Огни на воде" і В. Скалабана, Л. Рублеўскай "Время и бремя архивов и имен" (абодва выданні выйшлі нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва"). Завяршаецца нумар аповедам-успамінам беларуса з Расіі П. Ліпскага пра раскулачванне ягонага дзеда, гаспадара з сённяшняй Светлагоршчыны.



У лірычным аддзеле — падборка А. Кузьміновай "Мара простай шчырасцю кранае", Я. Явіч "Лідэрства літары", У. Марука "Позняя квецень" і У. Мархеля "Маё чаканне стала культам".

Лірычны маналог А. Кузьміновай на сённяшняе адчуванне досыць неадназначны ў сваім тэмбры. Дэбютантка "Маладосці", па ўсім відаць, знаходзіцца ў стане пошуку і цікавіць яе больш за ўсё пошук фармальны, страфічны. Кожны верш яна спрабуе пісаць у новай манеры. Вельмі часта і змест у такіх выпадках робіцца ахвярай рытарычных фігур, што пакуль і назіраем. Чыстым фармальным эксперыментам захапілася і Я. Явіч: вершы складаюцца з лексем на абраную літару. Гэтая падборка, праўда, вылучаецца настойлівым імкненнем да натуральнага ўспрыняцця эксперыментальнага твора. Не заўсёды ўдала гэта атрымліваецца, але кожнаму зразумела, што чыстай гульнёй ці іроніяй падборка не абмяжоўваецца — вершы пераходнага кшталту, тым і цікавыя. Сэнсавымі сугуччамі цікавіцца і нядаўні юбіляр У. Мархель. А вось пасмяротная падборка У. Марука зусім дыстанцыянаваная ад падобнай стылістыкі. Усе вершы тут — шляхетныя, мудрыя, агорнутыя туманам ціхай лірычнасці і некрыклівай метафорыкі. Сёння гэтыя вершы, вядома, чытаюцца і глядзяцца па-іншаму, бо аўтара нядаўна не стала: "Яе, / мілосць, / я падару таполі, / Якой здавён пяе жаўрук асанну, / Бо дастае да неба, / як да столі, / Яна. / А я ніколі не дастану".

Змест новага выпуску часопіса ў часопісе "Фантаст" наступны: аповесць І. Клімянкова "Паядынак (фантазія на шахматную тэму)", фантастычныя апавяданні Г. Ануфрыева "Водблiскі" і С. Беляра "Жалезны воўк". Твор І. Клімянкова (які чамусьці анансуецца на бліжэйшыя нумары часопісам "Полымя") надзвычай цікавы па апрацоўцы. Нягледзячы на тое, што "ўваходзіць" у стыль гэтага празаіка заўсёды цяжкавата, пазней чаканні не падманваюцца. Аповесць "Паядынак" не ідзе за лёгкімі фантастычнымі "касмічнымі" сюжэтамі — творца прапаноўвае нам гісторыю героя з экстраардынарнай эмацыянальнасцю і тонкай нервовай арганізацыяй. І рухальнай сілай сюжэта тут з'яўляецца не падзейны шэраг, але ланцужок псіхічных паразаў і перамог героя. Станаўленне яго асобы адлюстроўваецца праз эвалюцыю ягонага светаадчування. Галоўная праблематыка аповесці — пошукі сэнсу жыцця, і дзякуючы таму, што герой валодае звышпачуццёвасцю, твор не засмечаны бытапісаннем і "шумам рэчаіснасці". Нервовая хвароба і падступнае вар'яцтва героя пры дапамозе аднаго з псіхатэрапеўтаў пераадольваецца… шахматнай гульнёй. У ёй герой знаходзіць часовае збавенне, а пасля і суладдзе з самім сабой і рэчаіснасцю вакол сябе. Апавяданне "Водблiскі" Г. Ануфрыева таксама паклікана аналізаваць псіхіку выбітнай асобы — мастака, які намагаецца намаляваць рухомыя блікі і водблiскі. Яму гэта не ўдаецца, але хвароба пераходзіць да спадкаемцы — сябра мастака. На мяжы квазіфэнтэзійнай і фантастычнай прозы знаходзіцца апавяданне С. Беляра, працятае (як гэта вельмі часта здараецца ў сучаснай літаратуры падобнага кшталту) тэасофска-этнакасмалагічнымі выкладкамі. Дзіўна, што разгорнутыя агрэсіўныя філасофскія маналогі праходзяць праз вусны героя, якога катуе інквізіцыя. Жалезныя былі людзі, што тут скажаш…

Таксама чытачу прапаноўваецца твор са старонак будучага выдання "Касмічная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў" — фантастычнае апавяданне для дзяцінай аўдыторыі Г. Аўласенкі "Вася Лайдачкін і іншапланецянін". Да гэтай жа тэматыкі адносіцца інтэрв'ю рэдактара часопіса Р. Баравіковай з вядомым вучоным-нейрахірургам А. Семяновічам — акадэмікам НАН Беларусі, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Распрацоўку гэтых жа "гатычных" па прыродзе сваёй падзей, якімі займаецца і фантастыка, працягвае І. Клімковіч у артыкуле "Ахвяры жахлівых абрадаў". Тут распавядаецца пра сярэднявечную традыцыю чалавечых ахвярапрынашэнняў пры пабудове камяніцаў. Яшчэ з публіцыстычных матэрыялаў красавіцкай "Маладосці" — матэрыял І. Занеўскай "Новыя тэхналогіі: над чым працуюць беларускія навукоўцы", гутарка Д. Гуштын з новым кіраўніком Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі І. Бузоўскім і артыкул К. Ладуцькі пра даволі вядомага савецкага філолага з беларускімі каранямі А. Лейтэса.

Працягваецца публікацыя аповесці Г. Пацыенкі "Пакуль куля ляціць", пераклад хронікі Я. Длугаша "Грунвальдская бітва" і краязнаўчага даведніка А. Мальдзіса і Д. Крывашэя "Літаратурныя мясціны Беларусі".

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



Анатоль ЗЭКАЎ

## Янка Купала

7 ліпеня 1882 года

Вязынка. Ноч на Івана Купалу.
Зорак мігценне. Чаканне свята.
Папараць-кветку дзяўчына шукала.
Папараць-кветка Купалу знайшла.

Матчыным словам
зямлі адгукнуўся
і захаваў яго —
як запавет.
Папараць-кветку
для ўсёй Беларусі
марыў знайсці акрылёны паэт.

28 чэрвеня 1942 года

Другі ваенны год.
Ахвярны год, гаротны.
У лесвічны пралёт
ляціць паэт народны.

Ляціць, нібыта ў сне.
Бывай, бывай, Айчына!
Імгненна прамільгне
жыццё перад вачыма.

Пра ўсё сказаць услых
не зможа і намёкам,
бо шмат вушэй чужых,
як і вачэй навокал.

То ж, пэўна, час такі:
шчыруюць — спіны ў мыле! —
энкусаўцы-шпікі
і на франтах, і ў тыле.

За тое, што Паэт,
за ім сачылі строга,
хадзілі след у след
з парога да парога.

Цяпер за ім глядзець
не трэба ставіць варту.

...Загадкай стане смерць —
і нам яе разгадваць.

* * *

Ці так жыву,
ці тых люблю?
Пражыўшы дзень,
гадаю ўвечар.
Дарогу лёсу цераблю,
а ён хаваецца ў гушчэчу.
Не запытаеш лёс:
— Куды?
Не папярэдзіш:
— Асцярожна!
Шукае сам ён
лес густы,
шыбуе сам
па бездарожжы.
Бывае, часам ускіплю, —
бо як трываць такое можна?
Дарогу лёсу цераблю,
а ён брыдзе па бездарожжы.

## Чарнавік

Жыві без скаргаў і ныцця.
Жывеш — і шчасце ў тым само.
А чарнавік свайго жыцця
перапісаць вам не дамо.
Збяры лепш волю ты ў кулак,
шчыруй — аж прыкусі язык.
Пакуль жывеш —
рабі ўсё так,
каб твой не сцёрся чарнавік.

## Шматкроп'е

Шматкроп'е стаўлю, каб далей
радкі расцягнута не доўжыць.
Тры кропачкі ўсяго,
але
як шмат хаваецца за кожнай.

А шмат чаго, дадумвай сам
і фантазіруй, колькі можаш,
хоць і надзеі ні на грам,
што я шматкроп'ем
верш стрыножыў,

бо думка вырвецца на свет
(не перашкода ёй — тры кропкі),
і з верша, мой чытач, як след
яе ты выціснеш да кроплі.

* * *

Я,
расхрыстаны лёсам
на астудных вятрах,
разумею, што позна
пачынаць новы шлях.

Сцежкі новыя можна
у жыцці пратарыць,
ды хвілінаю кожнай
век наноў не пражыць.

Не паправіць у лёсе
больш нічога ніяк.
Што было — адбылося,
і не зробіш інакш.

Што было — адбылося.
Толькі ёсць жа працяг:
трэба жыць, каб здалося,
што пачаў новы шлях.

## Вясна

Як сыдзе снег
з палёў туманам
і як адкрыюцца палі,
гляджу на іх зачаравана,
нібы адзін я на зямлі, —
і для мяне краса ўся гэта
прыадчыняецца вясной...
А рунь буяе на палетках,
каб каласіцца збажыной.

* * *

Я і таму, прызнацца, рады,
што зваць магу цябе на Вы.
А ты акінула паглядам
мяне ад ног да галавы.

Пра што падумала, адкуль мне
пра тое ведаць зараз, ды
на сэрцы стала так утульна,
бы ў час далёкі, малады,

калі пякло душу каханне,
нібы выпальвала датла,
і ты была са мной да рання.
Цяпер адно, на жаль, — была.

Была, і больш наўрад ці будзеш.
Свая сям'я ў цябе. Аднак
ранейшыя пачуцці будзіш —
і гэта, мусіць, добры знак.

І я, прызнацца, вельмі рады
сустрэчы нашай праз гады,
каб праз гады
пра час той згадваць,
які і сёння малады.



Васіль ЖУКОВІЧ

## Салдацкая дарога

У гадзіну вялікай айчыннай бяды,
Калі вораг напаў на краіну,
У паход адпраўляўся
салдат малады, —
Выпраўляла на фронт маці сына.

Шкадавала адзінага сына свайго,
Абняла перад дальняй дарогай.
І прамовіла, перахрысціўшы яго:
— Ты вяртайся, сынок,
з перамогай.

Сонцам, полем,
свабодай салдат даражыў,
Задушэўным,
ласкавым быў сынам —
Ён матулю ўсім сэрцам
гарачым любіў
І любіў — як святыню — Айчыну.

Воран чорны над лёсам
салдата кружыў,
Цень крыла свайго чорнага кінуў.
А салдат наш аддана
Радзіме служыў,
Біўся ён за свабоду краіны.

Найсвятлейшая мара
была у жыцці
Перад маці, Радзімай і Богам —
Каб хутчэй
да самога Берліна дайсці
І вярнуцца дамоў з перамогай.

## Дзіця з галоднымі вачыма

Дадому на пабыўку
З адкрытаю душой
Адважны воін ехаў,
Ад станцыі ішоў.

Дарогай быў стамлёны,
Даўно не піў, не еў,
Пад кучаравым клёнам
Перакусіць прысеў.

А побач, ля дарогі,
На пожні каласкі
Збіраў хлапчук убогі,
Маленечкі такі!

У пачуцці вялікім
Шчымела ўся душа —
І да сябе паклікаў
Вайсковец малыша.

Шкада малога стала!
Спагадная рука
Яму паёк дастала
З худога рукзака.

З галоднымі вачыма
Хлапчук гадоў сямі
Адзіны быў мужчына
У немалой сям'і.

Бег босымі нагамі
З крыламі за спіной
Малы дзяліцца з мамай
Цудоўнай навіной.

## Шумяць яліны

Зямляк ты наш, герой былінны,
У лес вялікі прыбылі мы.
Ты ў гэтым лесе партызаніў,
Вайною сэрца тут параніў.
Як і ў трывожную часіну,
Шумяць яліны.

Начамі выбухі грымелі,
Вагоны пад адхон ляцелі,
Ляцелі ў пекла акупанты, —
Ты вёў на подзвіг дыверсантаў,
Сам не хаваўся ты за спіны…
Шумяць яліны.

І партызанскія паходы,
І перамогі, і прыгоды —
Душа людская ўсё шануе.
Жыццё кіпіць, і мір пануе.

Над пушчаю — палёт арліны,
Над верасамі — звон пчаліны.
Вядуць да помніка сцяжыны.
Шумяць яліны.

## Медыцынская сястра

Былому байцу часта сніцца
Ў яго перарывістых снах
У белым халаце сястрыца,
Прасветлая, быццам вясна;
Яна ратавала салдата,
За доктара часам была, —
Спакойна сястра медсанбата
Нялёгкую службу нясла.

Дзявочыя ўмелыя рукі,
Спагадлівы, добры пагляд
І словы, што йшлі без прынукі, –
Выдатна лячылі салдат.
У пекле вайна гартавала
Суровую долю юнца,
І лоўка сястра бінтавала
Глыбокія раны байца.

Лячыўся салдат, папраўляўся
І, перш чым вярнуцца у строй,
Ў жыцці першы раз закахаўся,
Прываблены чыстай красой.
Ды дзеўчыне ён не прызнаўся —
Ты гэта як хочаш заві, —
Адважны ў баях, аказаўся
Нясмелы на фронце любві.
Жывы ён, той вобраз дзявочы,
Бо сэрца забыць не дае
Гаючыя рукі, і мілыя вочы,
І цёплыя словы яе.



Фота Марыны Весялухі

# Ярмарка с белорусским акцентом

Министерство информации Республики Беларусь получило официальное приглашение от Генеральной дирекции международных выставок и ярмарок и от Федерального агентства по печати и массовым коммуникациям России для участия в качестве почетного гостя Московской международной книжной выставки-ярмарки.

Московская международная выставка-ярмарка — крупнейший форум книжной отрасли на постсоветском пространстве, своеобразный смотр, где встречаются главные действующие лица книжной индустрии: издатели, писатели, библиотекари, книготорговцы, полиграфисты не только России, стран ближнего зарубежья, но и мира. В лучшие годы выставку посещали экспоненты более 80 крупнейших стран. За долгую историю существования ММКВЯ сложились определенные традиции ее проведения. Статус почетного гостя введен в 2005 году, когда центральным экспонентом стала Польша. Мы принимаем эстафету от Индии, которая, кстати, в прошлом году заняла площади в одну тысячу квадратных метров.

Смысл подобной акции — через книгу показать страну: её культуру, науку, образование.

Как сообщила начальник управления издательской деятельности и книжной торговли Министерства информации страны Елена Павлова, уже создан оргкомитет по подготовке к участию в выставке-ярмарке, определена исполнительная дирекция проекта. Члены оргкомитета — представители министерств информации, культуры, образования, издательств, Национальной библиотеки, Союза писателей Беларуси, Национальной академии наук, а также посольства Республики Беларусь в Российской Федерации. Возглавляет оргкомитет первый заместитель министра информации Беларуси Лилия Ананич.

К 1 июня 2010 года члены оргкомитета представят в Мининформ конкретные предложения по программе мероприятий. Очевидно, что она будет максимально насыщенной. Славная годовщина — 65-летие Победы в Великой Отечественной войне — станет одной из главных тем. Еще одно серьезное направление — образовательное. Участники через книгу постараются показать систему образования страны, новые технологии в образовании. Пока окончательно не решено, какую площадь на выставке будет занимать наша экспозиция. Российская сторона предоставляет бесплатно 200 кв м "Может быть, мы возьмем 300 кв м", — отмечает Елена Савельевна. Кроме того, планируется, что мероприятия будут проходить и на других площадках, а не только в павильонах выставки. Состоятся встречи и лекции в учебных заведениях, выступления в фойе и на открытых площадках танцевальных и песенных ансамблей. Запланировано возложение цветов к памятнику Янки Купалы в Москве. Программа "Республика Беларусь — почетный гость 23-й ММКВЯ" будет выстроена таким образом, чтобы встречи писателей, литературоведов, историков были дополнены выставками. Планируется подготовка фотовыставок под условными названиями "Республика Беларусь", "Зямля мая". Планируется также организовать на улице торговлю продукцией белорусских издательств — в палатках "Белкниги" или специально оборудованных фургонах. Не вызывает сомнений, что программа участия Беларуси на выставке-ярмарке будет насыщена литературными встречами. В состав большой творческой группы войдут известные писатели страны. Активное участие во всех проектах примет Союз писателей Беларуси. Традиционно состоятся международные "круглые столы", организатором и творческим вдохновителем которых являются журнал "Нёман", другие государственные литературно-художественные издания.

Рина НОВАК

Витрина

# На любой вкус и кошелек

(Окончание. Начало на стр. 9)

Книжный магазин "Светоч" предоставляет услуги по предварительным заказам книг, участвует во внемагазинной торговле — постоянно принимает участие в праздниках, фестивалях, проводимых в городе Минске и области, отправляет товар по почте, действует определенная система скидок.

Покупатель, студентка колледжа искусств Юлия, уверена, что даже очень хороший фильм не сможет заменить книгу: "Читая книгу, даешь волю фантазии или просто наслаждаешься самим процессом. Книга будет актуальной всегда".

Довольно широко в продаже представлены аудиокниги и фильмы, снятые по произведениям известных литераторов. Огромный выбор аудиокниг для детей и школьников.





— Спрос на книги подвержен времени: сейчас, например, востребована экзаменационная и литература по централизованному тестированию, чуть позже, в период отпусков и отдыха, какая-нибудь легкая беллетристика, "дорожная" литература. В августе будут раскупаться школьные пособия. Продукция представлена на любой вкус и кошелек, — отметила Елена Бондаренко.

Быстротечно время… Хорошеет облик нашей страны и ее столицы, но одно остается неизменным: о Доме книги "Светоч" говорят: "Мой любимый книжный!"

Владимир ПОДОЛЯК

На снимках: заместитель директора "Светоча" Елена Бондаренко знакомит покупателей с книжными новинками; поэт Владимир Матвеенко презентует книгу для детей.

Фото Константина Дробова

Анатацыі

# У вольную часіну

## Прапануем агляд папулярных кніг, на якія варта звярнуць увагу.

1. Ірына Масляніцына, Мікола Багадзяж. Беларусь далетапісная: гістарычныя нарысы; маст. Арлен Кашкурэвіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 224 с.




Легенды, паданні, міфы… Дзе праходзіць тая рыса, якая адмяжоўвае ў іх праўду ад выдумкі? Вядома ж, акрамя летапіснай гісторыі, кожны народ мае яшчэ і далетапісную, легендарную яе частку, якая на працягу многіх стагоддзяў складвалася з уяўленняў і вераванняў далёкіх продкаў. Верыць легендам ці не — кожны для сябе вырашае па-рознаму. Але ведаць іх трэба ў любым выпадку. Крыніцамі для напісання гэтай кнігі сталі працы гісторыкаў антычнасці, быліны, летапісы, хронікі, а таксама адна з самых загадкавых крыніц — "Вялесава кніга".

2. Тувэ Янсан. Маленькія тролі і вялікая паводка; пер. з швед. Насты Лабады; ілюстрацыі Тувэ Янсан. — Мінск: Зміцер Колас, 2010. — 56 с.




Героямі гэтага аповеду з'яўляюцца незвычайныя істоты: мумітролі, падарожнікі-хаціфнаты, загадкавая дзяўчынка Цюльпана… Маленькі Мумітроль і Мумімама шукаюць цёплае, сонечнае месца, каб пабудаваць прыгожы дом. Яны здзяйсняюць неверагоднае падарожжа па моры, трапляючы ў цудоўныя мясціны, сустракаючы на сваім шляху небяспечныя перашкоды. У час падарожжа здабываюць яны і сапраўдных сяброў. Узаемадапамога, шчырыя, цёплыя адносіны дапамагаюць героям пераадолець цяжкасці, знайсці выйсце з усіх складаных сітуацый. Кніга аздоблена цудоўнымі малюнкамі, зробленымі самой аўтаркай.

3. Джером Сэлинджер. Над пропастью во ржи. — Москва: Эксмо, СПБ: Домино, 2010. — 332 с.




Што аб'ядноўвае вядомага англійскага пісьменніка Джона Фаулза і знакамітага амерыканскага рок-музыку Курта Кабэйна? Захапленне менавіта гэтай кнігай Джэрома Сэлінджэра. Раман, над якім аўтар працаваў больш за 9 год, стаў сапраўды культавым. Абвостранае адчуванне рэчаіснасці, непрыманне агульных канонаў і маралі грамадства — рысы, характэрныя светапогляду Холдэна Колфілда, галоўнага героя. Кніга адносіцца да ліку тых, якія з першага прачытання цалкам зразумее не кожны. Яе трэба чытаць і перачытваць. Сёння раман знаходзіцца на новай хвалі папулярнасці, выклікаНай смерцю аўтара.

4. Фредерик Бегбедер. 99 франков. — Москва, Иностранка, 2009. — 395 с.




Усё прадаецца: каханне, мастацтва, планета Зямля, вы, я, — сцвярджае аўтар у самым пачатку кнігі. Але далей сам жа разбурае гэтую, як падаецца на першы погляд, трывалую аксіёму. Раман Фрэдэрыка Бегбедэра, сноба і эстэта, палкага прыхільніка калумністаў, прафесійнага рэкламшчыка, які напярэдадні публікацыі быў звольнены з рэкламнага агенцтва, стаў сапраўдным бестселерам. Гэты правакацыйны твор уяўляе сабой злую сатыру на рэкламны бізнес, на гэты вар'яцкі свет, у якім так бяздумна выкарыстоўваецца чалавечы рэсурс.

5. Дэн Браун. Утраченный символ. — Москва: АСТ, 2009. — 570 с.




Прыгоды бясстрашнага вучонага Роберта Лэнгдана працягваюцца. На гэты раз Дэн Браўн выпрабоўвае здольнасці галоўнага героя ў разгадванні таямніц сталіцы Злучаных Штатаў Амерыкі. Аказваецца, сакрэты і дзіўныя гісторыі можна знайсці не толькі ў Старым Свеце, у Еўропе, але і ў Новым, у ЗША. Асабліва «легендарным» у гэтым сэнсе з'яўляецца горад Вашынгтон, заснаваны масонамі. Многія канспіролагі сцвярджаюць, што айцы-заснавальнікі валодалі таямніцамі выключнай важнасці, а ў размяшчэнні вуліц Вашынгтона схавалі загадкавыя пасланні…

6. Павел Санаев. Похороните меня за плинтусом. — Москва: Астрель, АСТ, 2009. — 318 с.




Раман рэжысёра і пісьменніка Паўла Санаева хутка ўвайшоў у лік любімых твораў многіх людзей. У шэрагу аргументаў адзначаюцца яго праўдзівасць і прыналежнасць да сапраўднай літаратуры. Кніга насамрэч уражвае дэталёвасцю, праўдзівасцю аповеду, каларытнасцю характараў, глыбокім псіхалагізмам, супярэчлівасцю ўражанняў і высноў. Сямейныя войны — заўсёды сумная тэма, асабліва калі яны паказваюцца вачыма хворага хлопчыка.

7. Кейт ДиКамилло. Как слониха упала с неба; пер. с англ. О. Варшавер. — Москва, Махаон, 2010. — 144 с.




Амерыканская пісьменніца Кейт ДзіКаміла ўзнагароджана медалём Ньюберы за асаблівы ўклад у дзіцячую літаратуру. Героі яе кніг — зусім нетыповыя для дзіцячай літаратуры — у чымсьці няшчасныя. Яны адзінокія, забытыя, пакінутыя бацькамі. Вось і гэта незвычайная гісторыя — пра хлопчыка-сірату Пітэра, які шукае сваю сястрычку. Ён не ведае, жывая яна ці не і як яе знайсці. Аднойчы ён задае гэтыя пытанні варажбітцы і чуе дзіўны адказ: Пітэру дапаможа… сланіха. І сапраўды, у хуткім часе ў горадзе пачынаюць адбывацца зусім неверагодныя падзеі… Так сваімі кнігамі аўтарка быццам гаворыць чытачу: "Верце — і дзіва здзейсніцца! І насуперак усім перашкодам зоркі запаляцца… а ў канцы шляху вас чакае поспех".

З кнігамі знаёміла
Марына ВЕСЯЛУХА

# Вярнуцца і ўзарваць



Мікола ДУБОЎСКІ

Апавяданне

Мінск гарэў. Густы сівабелы дым ахутаў дахі забудоў, скрозь яго прабіваліся чырвона-жоўтыя пасмы агню. Нямецкія чорныя самалёты толькі што адбамбіліся, са страшным ровам праплывалі над палаючым горадам, знікаючы за даляглядам.

Галоўны механік мясакамбіната Іван Баўто ў гэты самы час прабіраўся дамоў, на свой ціхі ўскраінны Барысаўскі завулак. Ён мінуў Чэрвеньскі рынак, перайшоў рэйкі чыгункі і з палёгкай пакрочыў па сваёй вуліцы. Іван Пятровіч адчуваў сябе вельмі стомленым. Усю ноч грузілі ў эшалоны гатовую прадукцыю камбіната. На світанку саставы адзін за другім скіраваліся на Маскву. Баўто быў задаволены, лічыў, што за гэтыя дні панікі, разгубленасці, неразбярыхі ў сталіцы ён зрабіў нешта важнае і адказнае. Механік спяшаўся дамоў, каб убачыцца з жонкаю і дзецьмі, даць параду, як быць ім без яго, бо ён не затрымаецца дома — развітаецца і спешна вернецца на камбінат, адкуль на наркаматаўскай машыне разам з усім кіраўніцтвам пакіне сталіцу. Яму ўжо выдалі дарожны паёк і пісталет ТТ. Харч ён нясе сям'і, бо ведае, што запасаў дома мала… У галаве блукалі думкі: "З сям'ёю схавацца ў Дворышчы, у роднай сястры. Гэтая вёска ўбаку ад галоўных дарог і блізка ад сталіцы. Мо перасядзець гэты небяспечны час? А там будзе бачна: як і што складваецца".

Дома Баўто знайшоў жонку перапалоханаю, разгубленаю.

— Што здарылася, Каця? — з парога ўсхваляваўся гаспадар.

— Ты нас пакідаеш, а Пяцюха ўжо крычаў, што выдасць нас немцам як камуністаў. Крычаў, каб мы вымяталіся з хаты, бо яна збудавана на яго зямлі, якую ў яго адабралі камуністы. Нам трэба ўцякаць адсюль…

— Не плач, нікуды не паедзеце. Лепш збяры мне ў заплечнік змену бялізны, мыла, брытву і ўсё астатняе. А я на пару слоў заскочу да яго.

Баўто напрамкі, праз сад суседа, накіраваўся да старога дома. Пяцюха якраз быў на верандзе, гатаваў сабе салату. Быў вельмі задаволены, бо толькі аблізаў лыжку ад смятаны. І аслупянеў: на парозе стаяў з пісталетам Іван Пятровіч.

— Не чакаў? — узняў пісталет Баўто. — Думаў, што я драпануў? Спяшаешся, Пяцюха. Немцаў шчэ няма, а я шлёпну цябе, і ніхто не будзе шукаць твайго забойцу.

— Памілуй, даруй, — бухнуў у ногі Баўто Пяцюха.

— Значыць, праўда, падла, што сабраўся служыць немцам. Ладна, цябе павесяць самі немцы, калі даведаюцца, як ты пісаў даносы НКУСу на невінаватых людзей з нашай вуліцы. У цябе ратунку няма — ты ўжо труп. Хочаш выжыць — сядзі як мыш пад мятлою.

Пяцюха вішчэў, як свіння, дрыжаў, як у ліхаманцы.

— Усё, ён больш не будзе пагражаць, Каця, — сказаў Іван Пятровіч, вярнуўшыся ад суседа.

— Ты забіў яго? — усклікнула Кацярына Ціханаўна.

— Не, а трэба было б.

Магілёўская шаша, на якую выбраўся з Мінска наркаматаўскі аўтобус, нагадвала хутчэй людны кірмаш, чым магістраль. Тут усё перамяшалася: машыны, калёсы, натоўпы пешаходаў. Часам чалавечая лавіна збочвала, бо насустрач ёй на шалёнай хуткасці імчалі грузавікі з вайскоўцамі.

Пасля райцэнтра Беразіно рух на шашы замарудзіўся. Машыны, калёсы, пешаходы паўзлі, а праз некалькі сот метраў спыняліся. Наперадзе была нейкая перашкода. Іван Пятровіч са свайго аўтамабіля ўзіраўся наўсцяж дарогі, каб разгадаць, што на праезджым палатне прыпыняе, але нічога не ўбачыў. Так і прасоўваліся, са страхам паглядаючы на неба: а раптам наляцяць нямецкія самалёты? Але неба было ласкавым, летнім. Неўзабаве сярод уцекачой папаўзла чутка: наперадзе НКУС правярае дакументы, паклажу, клункі, валізкі. Пешаходы з двух бакоў стужкамі пацяклі лесам у абход яшчэ нябачнай праверкі. Баўто ўспомніў пра свой пісталет і захваляваўся, але тут жа супакоіўся, узгадаўшы, што дазвол на яго ў пашпарце.

Праз кіламетр ці больш узброеныя афіцэры НКУСа сапраўды запынілі наркаматаўскую машыну, адзін з іх – маёр – загадна сказаў:

— Дакументы? — ён быў высокі, мажны і белабрысы, падобны да белай свінні.

— А вашыя? — не разгубіўся Іван Пятровіч.

Маёр моўчкі дастаў з кішэні гімнасцёркі пасведчанне і разгорнутым паднёс яго да вачэй механіка. Іван Пятровіч паспеў прачытаць, што маёр Саўрасаў — асобаўпаўнаважаны НКУСа. Далей пералічваліся ягоныя паўнамоцтвы. Саўрасаў уважліва ўчытваўся ў пашпарт Баўто, глядзеў нейкі свой спіс і запрасіў ісці з ім у вайсковую палатку, якая стаяла побач. У палатцы ён спытаў:

— Камбінат замініравалі?

— Баўто кіўнуў галавою.

— Дзе план мініравання?

— У капітана сапёраў Сукачова.

— Узарвалі?!

— Не было загаду, — ціха прамовіў Іван Пятровіч.

— Не?! — наліўся чырванню Саўрасаў. — Я павінен за такое цябе расстраляць на месцы. Вярнуцца — і ўзарваць! З табою пойдзе мой баец Сінялёў.

Сінялёў падаўся Івану Пятровічу маўклівым, вельмі худым і касцістым, лёгкім на хаду: спрытна пераступаў карані, скакаў па купінах і ні на крок не адставаў ад яго. Іван Пятровіч аглядваўся на яго, бо думалася, што гэты нкусавец адвядзе яго падалей, углыб лесу, і прыстрэліць, як бадзяжнага сабаку. "І будзеш ты, Ваня, смярдзець тут уздутым, — падсумоўваў галоўны механік Мінскага мясакамбіната. — І чаму я павінен узрываць? Чаму не сапёры, якія ставілі міны? Чаму хоць бы не наш асабіст? Але ж ведаю, дзе схавана машынка "магнето". Крутанеш ручку — і ўзляціць у паветра палова важнейшых цэхаў прадпрыемства".

Яны моўчкі ішлі амаль цэлы дзень. Баўто быў упэўнены, што трымаецца правільнага кірунку — на паўднёвы захад, меркаваў, што там Мінск, уяўляў, што па левым баку павінна быць чыгунка на Асіповічы і ўрэшце на яе яны выйдуць. Даўжэлі цені дрэў, бо сонца ўжо садзілася на верхавіны высокіх бароў, рассыпалася залатымі пасмамі па прылесці. Стомленасць пачала адчувацца. Баўто не спыняўся, думаў адпачыць, калі выйдзе на ладную прагаліну між лесу. На змярканні Іван Пятровіч са сваім спадарожнікам-ахоўнікам выйшлі на сенажаць з капіцамі. Ля адной Баўто апусціўся на зялёную атаўку:

— Тут заначуем, баец Сінялёў?

— Заначуем, таварыш галоўны механік. Спаць будзем па чарзе, бо хто ведае, хто ходзіць тут па лесе, трэба быць пільным. Першым вартую я, вы, бачу, досыць стаміліся.

Баўто згадзіўся, бо сапраўды адчуваў салодкую стому, якая валіла з ног.

Баўто прачнуўся, сеў, агледзеўся. Сінялёва ля капіц не было. Над сенажаццю калыхаўся густы пунсовы туман, бо ранішняе сонца прабілася скрозь стромкія высокія сосны і высвеціла скошаную сенажаць.

— Дзе ж Сінялёў? — спытаў сам сябе Іван Пятровіч. Ля капіц стаялі яго юфтавыя, амаль новыя чобаты, ляжала гімнасцёрка, карабіна не было. На пасланым ягоным пляцаку, на газеце былі раскладзены лустачкі хлеба са шмальцам, кансерва "Кілька з гароднінай", пляшка напітку "Сітро".

— Сняданак на двух… — супакоіўся Баўто і стаў чакаць чэкіста. Хутка Сінялёў вымаляваўся з туману, босы, у сініх штанах, у белай нацельнай кашулі з карабінам у правай руцэ.

— Тут рачулка, вада цёплая… не жадаеце асвяжыцца? — задаволена ўсміхнуўся ён. — Я не стаў вас будзіць.

Снедалі няспешна, Сінялёў распытваў у Івана Пятровіча пра сям'ю, як апынуўся ў Мінску і чаму выбраў прафесію досыць адказную. Баўто адчуў, што Сінялёў цікавіцца шчыра, і таму ахвотна адказваў на яго пытанні. Яны засядзеліся. Сонца стала ўжо высока над лесам.

Сінялёў абуўся, апрануў гімнасцёрку.

— Іван Пятровіч, па-над рэчкай — грунтоўка. Па ёй і пойдзем…

Сінялёў ішоў першым, Баўто стараўся не адставаць. Чэкіст працягваў ісці хутка, быццам гэтая глухая лясная грунтоўка яму добра знаёмая. Баўто хацеў напомніць яму, што тут трэба ісці асцярожна, бо невядома, на каго пры такім тэмпе можна напароцца. У гэты момант Сінялёў азірнуўся на свайго спадарожніка:

— У вас зброя якая ёсць?

— Пісталет.

— Трымайце напагатове…

— А што? Нікога ж тут.

— Чую, матацыклы дзесьці блізка. Так што…

Далей Сінялёў ішоў цішэй, услухоўваўся, як нешта прадчуваў. Дарога наперадзе крута заварочвала ўправа і знікала з вачэй. Хадакі дайшлі да павароту і ўбачылі тры матацыклы і немцаў, якія збіраліся купацца ў рэчцы. Яны адразу кінуліся да сваіх аўтаматаў ля матацыклаў. Сінялёў крыкнуў:

— Страляйце!

І імгненна, не перахопліваючы карабін другой рукою, перастраляў усіх матацыклістаў. Яны, як снапы, падалі ля сваіх машын. Баўто аслупянела глядзеў на забітых, забыўшы пра свой пісталет. Сінялёў агледзеў адзенне сваіх ахвяр, знайшоў планшэтку, стаў вывучаць мапу, а потым сказаў разгубленаму Івану Пятровічу:

— Немцы яшчэ не ў Мінску.

— Адкуль ведаеш? — здзівіўся Баўто.

— Тут у мапе свежа адзначана нейкая савецкая 100-я часць. Полк, а мо і дывізія? Не пускае, відаць, калі нават у іх пазначана, — сказаў чэкіст з павагаю да гэтай часці.

— Адкуль гэтыя нясліся? — убачыўшы, як Сінялёў намерваецца завесці адзін з матацыклаў, запытаў Баўто.

— Гэтыя? Раз'яздны патруль, разведка, мусіць, з Маскоўскае шашы. Немцы спрабуюць акружыць сталіцу, а не ўдаецца. Сядайце, нам трэба праскочыць да Свіслачы, а там берагам можна непрыкметна дабрацца да вашае работы…

Магутны матацыкл шалёна імчаў па грунтоўцы. Сінялёў стараўся кіраваць ім адной рукою, другой, праваю, усё так жа трымаў свой карабін. Ехалі хвілін сорак, а потым чэкіст раптам затармазіў, спыніўся. Глянуў задуменна на пасажыра:

— Ну вось, Іван Пятровіч, Свіслач. Вунь, дзе кусціцца вербалоз. Пад яго прыкрыццём дойдзем да камбіната, і адкрывайце свой рахунак фашыстам, я свой адкрыў даўно, у Іспаніі.

"Пра што гэта ён?" — не зразумеў механік, але не стаў удакладняць, а запытаў:

— А ты што, не са мной?

— Не. Дарэчы, скажу, што Саўрасаў паслаў мяне, каб я расстраляў вас пры першай сустрэчы з немцамі. А цяпер ідзіце — і ўзарвіце. Бывайце!

Аслупянелы механік стаяў на грунтоўцы, гледзячы, як у марыве гарачага дня растае матацыкліст Сінялёў.

Іван Пятровіч ішоў берагам да Мінска амаль да змяркання. Месцы на заходнім баку ракі былі яму знаёмы. Тут з камбіната праходзіла ў горад цеплатраса, шляхі да ачышчальных палёў, фільтрацыі.

У горадзе было ціха, як быццам ён зусім апусцеў. Баўто падабраўся да камбіната, дзе была кацельная, вугальная яма і вядомая яму адна маленькая брама. Схаваны ад людскіх вачэй іваю, ён скрушна глядзеў на роднае прадпрыемства. "Цяпер ад мяне залежыць, ці стаць яму, ці ляжаць гарой бітай цэглы і непатрэбнага гнутага жалеза. А мо плюнуць на ўсё, прабрацца да свайго дому…" Але сонца зайшло, падрыўнік запоўз пад куст, лёг на ласкавую пахучую шаўкавіцу і заснуў.

Прачнуўся ад ранішняга сонца, якое прыемна лашчыла твар. Ён глянуў на двор камбіната і ўбачыў, што цэнтральная брама адчынена, ля ўваходу ў заводакіраўніцтва — легкавік і матацыкл, і зразумеў, што там ужо немцы. Ёкнула і зайшлося сэрца: "Цяпер, Ваня, выйсця табе няма, ідзі – і ўзарві. Не марудзь, Ваня, ідзі…" Баўто часта карыстаўся гэтым уваходам, праз вугальную яму — у кацельню, затым па галоўным калектары, дзе праходзяць усе галоўныя камунікацыі, механік трапляў у свой кабінет: толькі патрэбна было па прыступках падняцца ў фае цэнтральнага ўваходу.

Іван Пятровіч непрыкметна пранік у кацельную. Было надзвычай ціха. Ён дастаў са схову "магнета" і рашуча крутануў ручку. Выбуху не было. Крутануў яшчэ і яшчэ… Цішыня. Ціснула на вушы — і больш ніякіх гукаў. Ён раптам зразумеў, што "магнета" не падключана да ўзрывальнікаў закладзеных зарадаў. Баўто агледзеўся, убачыў вядро з мазутаю і пакляю, у кутку – бочку з саляркаю для маторнага цэха. "А калі падпаліць? Ці загарыцца?" — Івану Пятровічу зрабілася вельмі крыўдна, рызыкаваў жыццём, а апынуўся, як кажуць, перад разбітым карытам.

— Падпаліць. Толькі гляну, што можа гарэць у калектары, — вырашыў ён, выйшаў з кацельні і паступова дайшоў да прыступак, што вялі ў фае. Падняўся па іх, прыслухаўся: ціха і нікога, і раптам убачыў, што дзверы яго кабінета прыадчынены. "Няўжо забыў замкнуць?" — захваляваўся галоўны механік і рашуча зайшоў унутр. І аслупянеў: за яго сталом сядзеў Саўрасаў у форме нямецкага маёра.

— Майн гот! — ускрыкнуў той па-нямецку, але справіўся з роспачу і працягваў па-руску: — Дабро пажалаваць, Іван Пятровіч.

Баўто ахапіла злосць. Ён нейкае імгненне быў гатовы выхапіць з кішэні пісталет і застрэліць гэтага белабрысага парсюка, але стрымаўся, бо зразумеў: стрэл выкліча трывогу, тут дзесьці нямецкія аўтаматчыкі. Маёр цалкам справіўся з разгубленасцю, гаварыў ужо добразычліва:

— Вы спазніліся, Іван Пятровіч. Цяпер не трэба ўзрываць, цяпер камбінат і вы будзеце працаваць на Вялікую Германію. Я магу цяпер вас расстраляць. Але нам добрыя спецыялісты трэба. У мяне ёсць усе падставы, каб вы не збеглі да сваіх — яны вас расстраляюць за сувязь з намі. А пакуль, вось вам папера, аловак, садзіцеся і напішыце мне прозвішчы і адрас усіх спецыялістаў камбіната. Будзем працаваць, Іван Пятровіч?

Баўто імгненна зразумеў, што трапіў у пастку: "Не напішу — застрэляць, напішу — арыштуюць маіх таварышаў і пад страхам смерці прымусяць працаваць". Ён шалёна шукаў ратунку. Маёр задаволена вывучаў дакументы, якія знайшоў на паліцы. Іван Пятровіч узяўся за крэсла, каб сесці. І раптам убачыў на паліцы сваёй шафы вялікі ключ, схапіў яго і з размаху ўцяў ім белабрысага па галаве. Пачуўся трэск чэрапа, і мажнае цела кулем ссунулася з крэсла на падлогу.

Іван Пятровіч выглянуў у фае. Там нікога не было, ён хутка па прыступках спусціўся ў калектар. Прайшоў у кацельню, абліў мазутаю паклю і запаліў яе. Тым жа шляхам, як і прыйшоў, пакінуў камбінат. Прабег праз раку па дашчатым мосце, па якім праводзілі на забой скаціну, перайшоў на другі бераг ракі. Баўто разумеў, што немцы, знайшоўшы труп маёра, узнімуць трывогу. Так і здарылася: задыміла чорным дымам кацельня.

Механік шукаў якога-небудзь укрыцця, але наўкола — ні кусточка. Усюды голы поплаў, вытаптаны скацінаю. Іван Пятровіч туліўся ўсім целам да голай зямлі, прадчуваючы, што жыць засталося нядоўга: немцы, якія ўжо абстрэльвалі з аўтаматаў узбярэжжа, кусты, вось-вось убачаць яго. Ён шукаў вачыма ўкрыцця і раптам убачыў у некалькіх кроках ад сябе спалены нямецкі бронетранспарцёр з расчыненымі сталёвымі дзвярамі. Баўто ўскочыў унутр сталёвае труны і зразумеў, што ўратаваўся, тут шукаць не будуць. На лаўках машыны ўздуліся ад спёкі трупы немцаў, смярдзелі так, што ў яго ўзнялося ванітаванне, але ён цярпеў да ночы, а калі сцямнела, пайшоў у Дворышча да сястры. За яго плячыма палаў камбінат. З тае ночы для яго на ўсе гады акупацыі пачаліся яшчэ большыя выпрабаванні, чым у першыя дні нечаканай вайны.

Штогадовыя навуковыя чытанні сталіся неад'емным і надзвычай істотным складнікам асветніцкіх акцый у Нясвіжы — выдатным, унікальным цэнтры старажытнай і сучаснай айчыннай культуры. Гэта не толькі агляд працы ў галіне айчыннай музычнай думкі, але і стымул для яе далейшага даследавання. Вось і гэтым разам тут ладзілася навукова-практычная канферэнцыя "Далягляды беларускага музыказнаўства".

У сваіх дакладах навукоўцы закранаці самыя розныя тэмы: ад музычных жанраў і выданняў да творчасці асобных кампазітараў і музыказнаўцаў. Доктар мастацтвазнаўства прафесар Аляксандр Смагін развінуў "Тэму памяці пра вайну ў аўтарскай песні 60 — 70 гг. XX ст.". У беларускай культуры другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя дадзеная тэма знайшла годнае ўвасабленне ва ўсіх відах мастацтва. Адрознівае гэты пласт твораў індывідуальнасць прачытання падзей мінулага праз унутранае жыццё чалавека. У год 65-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне цікавасць да тэмы памяці пра вайну асабліва ўзрасла, у тым ліку і з пазіцыі актуальнасці патрыятычнага выхавання моладзі. Значнае месца ў патрыятычным выхаванні займаюць розныя віды мастацтва, дзе ў шэрагу твораў прафесійных аўтараў вылучаюцца ўзоры альтэрнатыўнай культуры, якая прадстаўляе для юнацтва асаблівую прыцягальнасць. Сярод разнастайных праяў альтэрнатыўнай музычнай культуры асобнае месца займае аўтарская песня, якая з перыяду хрушчоўскай "адлігі" 60-х гадоў і да нашых дзён не толькі не губляе сваёй папулярнасці, але і па-ранейшаму аказвае вялікі ўплыў на фарміраванне светапогляду маладых людзей.

Кандыдат філасофскіх навук дацэнт Данат Яканюк у сваіх даследаваннях акцэнтаваў увагу на музычнай тэлерэжысуры на Беларускім тэлебачанні ў другой палове XX стагоддзя. Справа ў тым, што 1 студзеня 2011 года наша грамадскасць адзначыць 55-годдзе Беларускага тэлебачання. Таму ёсць нагода абагульніць унікальны мастацкі вопыт айчынных тэлетворцаў, які месціцца ў кароткім азначэнні "музыка на тэлеэкране". Гэта блок надзвычай складанай, шматбаковай, псіхалагічна паглыбленай сферы творчай дзейнасці. Адаптацыя музыкі на тэлеэкране стала разам з адпаведнай тэлеадаптацыяй драматургіі стрыжнем новага тэхнагеннага віду мастацтва — мастацкага тэлебачання. А музычная тэлерэжысура ад пачатку рэгулярнага тэлевяшчання лічылася ці не самай складанай і запатрабаванай. Невыпадкова ў гісторыі айчыннага вяшчання тэлетрансляцый самых урачыстых, самых адказных палітычных, дзяржаўных святаў і падзей даручаліся менавіта музычным тэлерэжысёрам як найбольш прафесійным.

Музычныя тэлерэжысёры на БТ былі "прыпісаны" ва ўсіх рэдакцыях, у тым ліку ў дзіцячай, навукова-папулярных і маладзёжных праграм. Але галоўнымі структурамі, цэнтрам, дзе іх колькасць была найбольшай, аказаліся творчае аб'яднанне музычных і забаўляльных праграм і "Тэлефільм". Музычная прадукцыя гэтых аб'яднанняў у 1990-я гады была надзвычай запатрабаванай. Ад пачатку дзейнасці БТ музычнае вяшчанне і музычная рэжысура па важкасці ўздзеяння на свядомасць аўдыторыі пасля аб'яднанняў інфармацыйных і сацыяльна-прапагандысцкіх праграм былі ў сферы ідэалагічнай прапаганды. Традыцыйна ўсе ўрадавыя мерапрыемствы савецкага часу абавязкова транслiраваліся аб'яднаннямі інфармацыйных (афіцыйная ўрачыстая частка) і музычных праграм (урачысты канцэрт майстроў мастацтваў). Таму ў музычным "цэху", у тым ліку сярод тэлерэжысёраў, заўсёды былі спецыялісты найвышэйшага класа.

# Далягляды музычнай думкі

**Асветніцкі музычны фэст "Музы Нясвіжа", які ладзіўся па ініцыятыве Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста нашай краіны Міхаіла Фінберга пры падтрымцы Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама і Нясвіжскага райвыканкама, адбыўся сёлета ў пятнаццаты раз. Менавіта гэты фестываль паклаў пачатак маштабнаму праекту аднаўлення айчыннай музычнай спадчыны для тых малых гарадоў і паселішчаў, дзе ў розныя эпохі нараджаліся гэтыя цудоўныя творы. Па традыцыі свята мастацтваў аб'яднала музыку, жывапіс, навуку.**



Як зазначыла доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава, навукова-практычная канферэнцыя, па сутнасці, неад'емны складнік святаў "Музы Нясвіжа". Навуковыя акцыі штогод набываюць новы абрыс. За 15 год тут пабывалі даследчыкі ўсіх сфер мастацтваў Беларусі: архітэктурнага, выяўленчага, тэатральнага, літаратурнага... Апошнім часам, паколькі сярод "Муз Нясвіжа" галоўнай лічыцца музыка, гэтыя канферэнцыі засяродзіліся менавіта на сферы музычнага мастацтва. І ў гэтым ёсць свой плён, паколькі адметнасцю нясвіжскіх падзей з'яўляецца вельмі шчыльнае спалучэнне музыкалагічнай навукі і музычнай практыкі. З аднаго боку, канферэнцыі адкрываюць тыя новыя далягляды, якія потым будуць рэалізаваныя ў мастацкім руху. З іншага боку, мастацкі рух з'яўляецца моцным стымулам для навуковых даследаванняў, што надае сэнс фундаментальнай музыкалагічнай навуцы, якую часам беспадстаўна абвінавачваюць у адрыве ад рэчаіснасці.

Па сутнасці, строгія акадэмічныя даклады падкрэсліваюць, адкрываюць так званую антыпрыярытэтную пазіцыю, пры якой кожны твор і факт, незалежна нават ад яго мастацкай якасці, мае вялікую пазнавальную каштоўнасць. Гэта падобна да археалагічных выкапняў: нават знойдзены фрагмент якой-небудзь старажытнай рэчы ні з чым не параўнальны ў сваёй каштоўнасці як доказ самага факта існавання колішняй цывілізацыі, якая захавалася ў матэрыяльным аб'екце. У музыкалогіі тое ж самае: незалежна ад таго, шэдэўр гэта ці твор побытавага жанру, прыкладам, "Полацкі сшытак", але па сваёй каштоўнасці для беларускага мастацтва ён вельмі істотны і значны. Бо нясе інфармацыю пра існаванне ў XVII стагоддзі ў Беларусі еўрапейскіх традыцый у беларускім мастацтве, тых традыцый, якія супадаюць з агульнагістарычным фонам, і становіцца зразумела, што, калі захаваліся архітэктурныя помнікі: эпох барока, класіцызму, у паралелі з імі паўстаюць і помнікі музычнага мастацтва.

У працэсе шматгадовага вывучэння гісторыі музычнай культуры Беларусі (да XX ст.) было адшукана і даследавана шмат крыніц, якія адкрываюць асобую сферу гэтай культуры, звязаную з працэсам яе самапазнання, самаасэнсавання. Гэта навуковыя і метадычныя, крытычныя і публіцыстычныя працы, якія ў сукупнасці можна пазначыць тэрмінам "музычная думка". Некаторыя з дадзеных помнікаў былі вядомыя беларускім музыколагам і раней, іншыя ж толькі ўзгадваліся ў навуковай літаратуры.

У кола крыніц даследавання непазбежна ўцягваюцца помнікі, выдадзеныя ў Вільні, Варшаве і Пецярбургу, у сталіцах тых краін (Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі), у межы якіх калісьці ўваходзіла Беларусь. Усведамляючы, што ўсе гэтыя помнікі з'яўляюцца здабыткам некалькіх культур і народаў, іх можна аднесці і да гісторыі айчыннай культуры, паколькі іх аўтарамі былі музыканты, якія нарадзіліся ці пэўны час працавалі ў Беларусі, аказаўшы сваёй кампазітарскай і педагагічнай дзейнасцю ўплыў на развіццё айчыннага музычнага мастацтва.

У цэлым гісторыя музычнай думкі Беларусі вядзе свой радавод са старажытных летапісаў, хронік ды казанняў эпохі Сярэднявечча, доўжыцца ў тэкстах эпох Рэнесансу (выказванні Ф. Скарыны), барока (працы М. Дылецкага, А. Мезенца) і класіцызму (падручнікі А. Варанца, Я. Голанда). У сваёй большасці гэтыя помнікі маюць музычна-педагагічную скіраванасць і практычнае прызначэнне. У адрозненне ад іх, узоры музычнай думкі Беларусі эпохі рамантызму маюць больш шырокае змястоўнае поле: не толькі падручнікі і самавучыцелі, але і музычна-гістарычныя, эстэтычныя і тэарэтычныя працы, якія абгрунтоўваюць і адлюстроўваюць, падрыхтоўваюць і ахоўваюць музыкатворчы працэс, імкнучыся да вяршынь эстэтычных абагульненняў і спускаючыся ў даліны вузкапрафесійных праблем.

У адрозненне ад падручнікаў, музычна-эстэтычных і гістарычных прац, распрацоўкі выдатнага беларускага і польскага фалькларыста, філолага, лексікографа, музычнага дзеяча, выканаўцы і кампазітара Я. Карловіча пакуль не былі вядомыя айчыннай навуцы. А між тым Ян Карловіч пераклаў работы "Асновы гармоніі" Э. Рыхтэра, "Падручнік па музычнай кампазіцыі" Й. Лобе, а таксама стварыў арыгінальную працу — "Праект новага музычнага пісьма". Апошняя работа Карловіча заслугоўвае асаблівай увагі, паколькі яна з'яўляецца адзіным узорам даследавання айчынных аўтараў у галіне музычнай палеаграфіі. Малавядомай з'яўляецца і кніжка ўраджэнца Слуцка, скрыпача-віртуоза Гераніма Пamарнацкага "Даследаванне аб музыцы і скрыпках", выдадзеная ў Вільні ў 1835 годзе. Гэтая праца, напісаная ў традыцыях асветніцкага эсэ, уздымае шырокае кола пытанняў — ад прызначэння мастацтва ў цэлым да канкрэтных задач выканаўцы-скрыпача.

Другая палова XIX стагоддзя адзначана выхадам у свет надзвычай каштоўных публікацый, якія і сёння не страцілі сваёй вартасці і цікавасці як крыніцы інфармацыі і дакладных гістарычных звестак пра музычнае мінулае Беларусі. Друкаваліся яны, як правіла, у спецыялізаваных часопісах, што рэгулярна выходзілі ў той час у Варшаве. Адна з іх належыць вядомаму дзеячу айчыннай культуры, літаратару, біёграфу С. Манюшкі А. Валіцкаму, які пэўны час жыў у Мінску, меў тут кнігарню, а ў канцы стагоддзя служыў архівістам у Нясвіжскай бібліятэцы Радзівілаў. Яго артыкул "Мінская губернія з музычнага пункта гледжання", надрукаваны ў 1858 годзе, дае ўяўленне пра тагачаснае музычнае жыццё сённяшняй беларускай сталіцы, а таксама горада Слуцка.

У цэлым помнікі музычнай думкі Беларусі XIX стагоддзя, маючы несумненную прыналежнасць да айчыннага музычнага мастацтва, з'яўляюцца спадчынай некалькіх народаў і культур. Таму далейшае вывучэнне адкрытых і пошук новых крыніц па дадзенай тэме мае прынцыповае значэнне для навуковай рэканструкцыі гісторыі музычнай культуры не толькі Беларусі, але і шырокай еўрапейскай прасторы.

"Музы Нясвіжа" і разнастайныя іншыя асветніцкія праекты, якія ладзіць Нацыянальны канцэртны аркестр нашай краіны на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам, выконваюць не толькі грамадскую, але і навуковую задачу, бо ўзнаўленне спадчыны дзесяткаў айчынных кампазітараў дазволіла асэнсаваць, што адноўленая гукавая прастора — гэта феномен, тыповы для культуры Беларусі, сфарміраванай на скрыжаванні розных гісторыка-культурных плыней і адкрытай агульнаславянскаму і еўрапейскаму свету. Зразумела, што музыка колішняй і сучаснай Беларусі — неад'емная і важная частка гэтага свету, а айчынная музычная культура па сваім тыпе, па жыватворнай місіі ў еўрапейскай музычнай сістэме была і ёсць культурай еўрапейскага сумежжа, якая шчодра даравала свету таленты і мастацкія каштоўнасці. Магчыма, менавіта гэтая душэўная шчодрасць і ахвярнасць дапамагала ўраджэнцам і песнярам беларускай зямлі ў іх складаным жыцці захоўваць творчы імпэт і заставацца жывымі ў памяці нашчадкаў і суайчыннікаў.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Нясвіжская ратуша.

Фота аўтара

З падзеямі XV свята "Музы Нясвіжа" мы працягнем знаёміць чытача ў бліжэйшых нумарах газеты.

## Радуемся разам

Каля ста работ у розных тэхніках — гуаш, акварэль, шаўкаграфія, пастэль, выразанне выяў на цялячым пергаменце — экспануецца на выстаўцы сучаснай дзіцячай кніжнай ілюстрацыі "Жылі-былі...". Яна працуе ў Гомельскай карціннай галерэі Гаўрылы Вашчанкі і прадстаўляе творчасць мастакоў Беларусі, Германіі, Польшчы... Раней гэтая выстаўка,



да арганізацыі якой спрычыніліся Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Інстытут імя Ё. Гётэ ў Мінску ды Польскі інстытут у Мінску, пабывала ў сталіцы і ў Магілёве.

Мастацкім кіраўніком Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача стаў Уладзімір Савіцкі, які да гэтага часу працаваў рэжысёрам у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і набыў вядомасць сваімі пастаноўкамі не толькі на мінскай сцэне. На новую пасаду ён быў прызначаны пасля звальнення ранейшага галоўнага рэжысёра ТЮГа — Наталлі Башавай, у якой скончыўся працоўны кантракт, а дырэктар яго не прадоўжыў, не зважаючы на пратэст часткі акцёраў.

Фідэля Кастра ўражальна ўвасобіў у бронзе класік беларускага выяўленчага мастацтва народны мастак БССР Анатоль Анікейчык. Гэты выразны і манументальны скульптурны партрэт кубінскага лідэра, створаны ў 1973 годзе, захоўваецца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. А вось яго копія нядаўна з'явілася ў цэнтры Каракаса — сталіцы Венесуэлы, блізу будынка Нацыянальнай Асамблеі. Урачыстая цырымонія адкрыцця бронзавага помніка-бюста Фідэлю Кастра, створанага нашым выдатным скульптарам, прайшла на Бульвары 200-годдзя пачатку вызваленчай барацьбы ад іспанскага каланізатарства, дзе плануецца зрабіць галерэю скульптур знаных рэвалюцыянераў.

Сталічная галерэя сучаснага мастацтва, якая завецца гэтак непаўторна па-беларуску — "Ў", наладзіла выстаўку маладой эстонскай мастачкі Маарыт Муркі, якая знаходзіць тэмы для сваіх работ у рэальным уласным жыцці ды ў асабістых перажываннях. Незвычайную экспазіцыю "Hair power"



("Сіла валасоў") склалі візуальныя вобразы, у тым ліку інсталяцыі ды відэа, што адлюстроўваюць шматстайныя маніпуляцыі з чалавечымі валасамі як міфалагізаваным аб'ектам культуры. Выстаўка "Hair power" пабывала ў Санкт-Пецярбургу, а пасля паказу ў Мінску на яе падзівіцца публіка Кіева і Хельсінкі.

Лана ІВАНОВА

На здымках: Валерый Славук "Вадзянік"; работа з выстаўкі "Hair power".

Фота Віктара Кавалёва і аўтара

Калісьці, на самым пачатку XX стагоддзя, наватарская, а сёння ўжо класічная, вядомая ў некалькіх версіях (у тым ліку пад назваю "Сільфіды"), пастаноўка, увасобленая паводле лібрэта і харэаграфіі Міхаіла Фокіна, на аснове некалькіх фартэпіянных п'ес Фрыдэрыка Шапэна ў аркестроўцы Аляксандра Глазунова і Марыса Келера. На мінскай сцэне "Шапэніяну" ў 1952-м ставіў народны артыст БССР Сямён Дрэчын, а ў 1971 годзе — піцерскі педагог-рэпэтытар, вядомая ў свой час балерына Марыінскага тэатра Ніна Фёдарава. Сёлета над аднаўленнем гэтага рамантычнага бессюжэтнага аднаактовага спектакля працавалі яго колішнія выканаўцы — народныя артысты Беларусі Таццяна Яршова (як балетмайстар-пастаноўшчык) і Юрый Траян (мастацкі кіраўнік Беларускага балета, ён ажыццявіў мастацкае кіраўніцтва пастаноўкі), а таксама дырыжор-пастаноўшчык Алег Лясун, яго калега Андрэй Іваноў, аўтар сцэнаграфіі і касцюмаў Кацярына Булгакава. Прэм'ера "Шапэніяны" была паказана ў адзін вечар з аднаактовымі балетамі "Пахіта" (Вялікае класічнае па з балета Людвіга Мінкуса) і "Балеро" на музыку Марыса Равеля. Такія прэм'еры заўсёды праходзяць з аншлагам. Напэўна, таму, што класічны балет успрымаецца як сінонім ідэальнай прыгажосці, а людзям хочацца паглядзець на ідэал...

# Класіка як сінонім прыгажосці

**У мінулую пятніцу Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі парадаваў аматараў класікі прэм'ерай: адбыўся паказ аднаактовага балета «Шапэніяна».**



Ідэя паставіць "Шапэніяну" сталася надзвычай актуальнай сёлета, калі свет адзначае 200-гадовы юбілей геніяльнага кампазітара-класіка. Але ў нашым тэатры задума гэтай пастаноўкі нарадзілася значна раней.

"Два гады таму, калі была пастаўлена "Пахіта", узнікла думка ўзнавіць "Шапэніяну": яны арганічна спалучыліся б у класічнай праграме аднаго вечара, — гаворыць народны артыст Беларусі Юрый Траян. — Наогул жа, рамантычны балет на музыку Фрыдэрыка Шапэна вельмі запатрабаваны. Ён заўжды цёпла прымаецца публікай. І ён, што немалаважна, — мабільны: лёгка спалучаецца з класічнымі нумарамі канцэртных праграм, з аднаактовымі спектаклямі, зручны для гастрольных вандровак. "Шапэніяна" ў пастаноўцы Ніны Фёдаравай ішла на нашай сцэне каля дваццаці гадоў. Наша пакаленне артыстаў любіла гэты балет. Мы неаднаразова і з поспехам паказвалі яго за мяжой: у Венгрыі, Іспаніі, Францыі. Прытым не трэба было ніякіх адмысловых дэкарацый: рамантычную атмасферу стварала сцэна, упрыгожаная дэкаратыўнымі тканінамі або толькі кветкамі. Дарэчы, важным стымулам для новай пастаноўкі сталася падрыхтоўка НАВТ оперы і балета Беларусі да фестывалю ў Нясвіжы, які мае адбыцца гэтым летам. Як мяркуецца, "Шапэніяна" будзе паказана ва ўнутраным двары ку радзівілаўскага замка, дзе цяпер будуецца спецыяльная сцэна".

За некалькі гадзін да прэм'еры ў журналістаў была магчымасць, паглядзеўшы генеральны прагон, пагутарыць з пастаноўшчыкамі і ўдзельнікамі новай работы тэатра. "Гэта вельмі ўзнёслы, рамантычны, вобразны спектакль. І вельмі складаны. Уласцівыя "Шапэніяне" паветранасць і лёгкасць не дасягаюцца адразу. Ад першага прэм'ернага паказу павінен мінуць пэўны час, каб сышліся ўсе кампаненты: візуальны вобраз, мастацкае святло, натхнёны танец, і ўвасобілася цудоўная мара, народжаная музыкай", — так адказаў Юрый Траян на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" пра звышзадачу спектакля, вызначаную яго стваральнікамі. "Звышзадача ў гэтым спектаклі — станцаваць музыку, бо ў ёй ёсць усё, — мяркуе выканаўца адной з вядучых партый, заслужаная артыстка Беларусі Людміла Кудраўцава. — На сцэне паўстаюць тры па-рознаму афарбаваныя жаночыя вобразы. Адначу і асвоіць адметнасць стылістыкі, дасягнуць лёгкасці ды светласці, адарвацца ад зямнога прыцягнення — гэта досыць складана для выканаўцаў".

Класіка займае пачэснае месца і ў планах балетнай трупы. Як паведаміў Ю. Траян, у 20-11 годзе плануецца пастаноўка спектакля "Трыстан ды Ізольда" (гэты аднаактовы балет на музыку Рыхарда Вагнера быў у рэпертуары нашага тэатра з паўстагоддзя таму). Наконт балета Вячаслава Кузняцова "Клеапатра", прэм'еру якога планаваў і рыхтаваў маэстра Валянцін Елізар'еў, мастацкі кіраўнік балета Ю. Траян заўважыў, што ён неадпойны размаўляў з Валянцінам Мікалаевічам пра пастаноўку, але адказ быў літаральна такі: "Калі я не працую ў тэатры, я яго ставіць не буду". З класікай XIX і XX стагоддзяў звязаныя і сёлетнія гастролі: у жніўні мяркуецца невялікая творчая вандроўка ў Італію з балетам "Спартак"; у кастрычніку — саліднае турнэ па Мексіцы, дзе нашы артысты будуць паказваць у асноўным спектакль "Дон Кіхот"; у снежні (з пераходам на студзень наступнага года) — сустрэча з кітайскай публікай, якая падзівіцца на "Лебядзінае возера".

Паглядзеўшы аднаўленую "Шапэніяну", я міжволі ўспомніла пастаноўку такога ж кшталту, якую ажыццявілі ў сярэдзіне 1990-х вядомыя дзеячы беларускага мастацтва. Гэта быў балет "Паланез" на музыку нашага земляка Міхала Клеафаса Агінскага. Ідэя належала кампазітару Яўгену Паплаўскаму, харэаграфія і пастаноўка — педагогу Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа Галіне Сінельнікавай, аркестроўку фартэпіянных п'ес М. Кл. Агінскага зрабіў кампазітар Вячаслаў Кузняцоў (у партытуру для струннага аркестра былі ўведзены сольныя партыі флейты і фартэпіяна). Увасобілася гэтая кранальная гісторыя, падобная да рамантычнага ўспаміну, звязанага з першым юначым каханнем, першымі расчараваннямі, смуткам па былых і страчаных пачуццях, на канцэртнай сцэне. Балет "Паланез" выконвалі навучэнцы нашага харэаграфічнага каледжа (для іх спецыяльна былі пашытыя строі ў стылі XIX стагоддзя) ды Камерны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам маэстра Уладзіміра Перліна. Гэты арыгінальны твор з поспехам быў паказаны не толькі ў Беларусі (напрыклад, на вялікай сцэне сталічнай філармоніі), але і падчас гастроляў па гарадах Польшчы.

Дык, можа, варта звярнуць увагу на "Паланез" М. Кл. Агінскага — В. Кузняцова (дарэчы, сёння ўжо вядомага як аўтара некалькіх арыгінальных балетаў) і здзейсніць яго новую рэдакцыю ў творчым калектыве НАВТ оперы і балета Беларусі?

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: Людміла Кудраўцава, Алег ды Ірына Яромкіны ў сцэне з балета "Шапэніяна" (генеральны прагон).

Фота Віктара Кавалёва

# Свет вачыма дзяцей

**Цудоўныя краявіды нашай роднай Беларусі здзіўляюць сваёй непаўторнасцю і разнастайнасцю прыродных фарбаў, натхняюць на творчасць усіх, хто ўмее заўважаць прыгожае. Так з'яўляюцца палотны, на якіх занатаваны мясціны і імгненні для вечнасці, для тых, хто прыйдзе пасля, каб таксама славіць і захапляцца самай лепшай краінай свету — Беларуссю.**



А вось ці задумваўся хто: як, у які момант нараджаецца мастак? Калі ўзнікае жаданне занатаваць убачанае, дадаць свае фарбы ў створаны Богам каларыт?

У кожнага гэта імгненне сваё. Хтосьці імкнецца спасцігнуць усе прамудрасці выяўленчага мастацтва і толькі тады выносіць вынікі сваіх дасягненняў на суд гледачоў. А хтосьці адчувае сябе мастаком, толькі ўзяўшы ў рукі алоўкі і фарбы. Сапраўднымі творцамі лічаць сябе выхаванцы дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва, што працуе пры Цэнтры пазашкольнай работы г. Нясвіжа, Глеб Ванагель, Надзея Кухта, Уладзіслаў Матвееў, Настасся Сокал, Аляксей і Вікторыя Карпач, Радзіён Кукула, Раман Пармон, Дар'я Мякіш, Вікторыя Тарасава, Ганна Рудзяк, Дзіяна Белагурава, Аліна Пушачкіна, Кацярына Гладкая, Андрэй і Аляксандра Карачуны… Усіх не пералічыць: іх больш як восемдзесят. І ў здольнасцях кожнага з іх не сумняваецца іх выкладчык Алена Гаціла.

Сама Алена Генадзьеўна калісьці марыла стаць актрысай, захаплялася тэатрам, удзельнічала ў пастаноўках школьных спектакляў, дапамагала маляваць дэкарацыі. А яшчэ, схаваўшыся ад сяброў і выхавацеляў, яна малявала сям'ю. Бо так сталася, што да пятага класа жыла ў інтэрнаце, а пра шчаслівае жыццё ў шчаслівай сям'і толькі марыла…

Алена закончыла СШ № 2, Магілёўскае педвучылішча. Першае месца працы — Юшавіцкая базавая школа Нясвіжскага раёна, дзе яна арганізавала тэатр, у якім артыстамі былі бацькі яе выхаванцаў, а таксама настаўнікі школы. У 1992 годзе Алена Генадзьеўна перайшла на працу ў СШ № 1 горада Нясвіжа, дзе арганізавала школьны драматычны тэатр. Адна з яго пастановак — п'еса "Помнік каханню" К. Шышыгінай — была паказана падчас правядзення першага фестывалю камернай музыкі "Музы Нясвіжа".

У 1999-м атрымала запрашэнне фонду "Мы — дзецям" і некаторы час выкладала выяўленчае мастацтва ў Балгарыі. Затым удасканальвала свае веды на факультэце методыкі выяўленчага мастацтва ў БДПУ імя Максіма Танка. Аднача сова працавала настаўнікам выяўленчага мастацтва і сусветнай мастацкай культуры ў Гарадзейскай СШ № 2.

У Цэнтры пазашкольнай работы пад яе кіраўніцтвам працуе шэсць гурткоў, якія наведваюць дзеці, пачынаючы з 5—6 гадоў (гурток працуе пры дзіцячым садзе № 5) і заканчваючы навучэнцамі Нясвіжскага дзяржаўнага ліцэя. Навучанне вядзецца па аўтарскай праграме А. Гаціла, разлічанай на тры гады. Сярод асноўных мэт — даць уяўленне пра віды выяўленчага мастацтва, развіваць фантазію, творчы густ, асвоіць тэхніку акварэлі, гуашы, пастэлі. Алена Генадзьеўна старэцца звяртаць увагу на маральныя якасці, якія найлепшым чынам развіваюцца ў працэсе творчасці. Дзеці вучацца сябраваць, дапамагаць адно аднаму. Святы яны таксама сустракаюць разам. Магчыма, таму кожная работа выхаванцаў Алены Генадзьеўны — гэта падзея. Свята фантазіі, яркіх фарбаў і чысціні дзіцячых душаў: "Мая Беларусь" Дзіяны Гаравацкай, "Кветкі радасці", "У кожным малюнку — сонца" Ілоны Якаўлевай, "Ляцяць журавы" Настассі Санько, "Партрэт таты" Вольгі Барсукевіч, "Прагулка" Вікторыі Кунаш… Гледзячы на гэтыя работы, я яшчэ раз упэўніваюся, што сапраўдны свет менавіта той, які ўзнікае ва ўяўленні дзяцей. Вясёлы і непасрэдны, загадкавы і чароўны. Ён такі, бо нараджаецца ад шчырасці і дабрыні дзіцячых сэрцаў, у якія з пяшчотай і любоўю укладваюць гэтыя найлепшыя чалавечыя якасці настаўнікі і бацькі. А што да Алены Генадзьеўны, то яна ўвогуле лічыць, што неталенавітых дзяцей няма. Таму і прымае ў студыю ўсіх, як кажуць, і "малюючых", і "немалюючых", а вынікі не прымушаюць сябе чакаць. Выхаванцы студыі — частыя госці раённых, абласных і рэспубліканскіх конкурсаў і выстаў. Найлепшыя водгукі жыхароў горада атрымала выстава "Свет вачыма дзяцей", якая нядаўна экспанавалася ў Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. На абласным конкурсе дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і мастацкай творчасці "Скарбонка талентаў" Ілона Якаўлева атрымала дыплом першай ступені за трыпціх "Калядкі ў Нясвіжы". На гэтым жа конкурсе Дзіяна Белагурава за малюнак "Прагулка зімой" была адзначана дыпломам трэцяй ступені. На абласным конкурсе дзіцячай творчасці "Выратавальнікі вачыма дзяцей" Ілона Якаўлева атрымала дыплом другой ступені. Выхаванцы студыі ўдзельнічалі і ў міжнародным конкурсе на лепшую паштоўку "Арт-гарадок".

Але галоўная ўзнагарода для кіраўніка студыі А. Гаціла — гэта яе выхаванцы, якія на шчырасць умеюць адказваць шчырасцю, ствараючы пры дапамозе фарбаў цудоўны свет, яшчэ больш сапраўдны, чым наша рэальнасць.

Валянціна ШЧАРБАКОВА
г. Нясвіж

На здымку: Алена Гаціла са сваімі выхаванцамі.

Фота аўтара




# Байкапісец з вёскі Ляўкі

Пра Цімоха Карагу ўпершыню я пачуў ад намесніка старшыні Старадарожскага райвыканкама Альберта Міхайлава. На вялікі жаль, і яго ўжо няма сярод жывых. Чуйны да мастацкага слова, паэт-песеннік, ён так цікава расказваў пра літаратара-земляка, што не паехаць у Старыя Дарогі на сустрэчу з родным байкапісца проста нельга было. А ўжо перад самай дарогай завітаў у мінскую кнігарню па вуліцы Карла Маркса. У букіністычным аддзеле натрапіў на старую кніжку беларускага гумару на рускай мове. Сярод твораў знакамітых майстроў і дзве байкі Цімоха Карагі. Дык давайце разам узгадаем паэта-сатырыка з вёскі Ляўкі Старадарожскага раёна.

…І вось мы разам з Альбертам Міхайлавым у родных мясцінах Цімоха Карагі.

— Лёс бацькі ў многім падобны на лёс яго пакалення, — расказвае дачка паэта Любоў Цімафееўна (яна жыве таксама ў Ляўках і ў школе суседняй вёскі Церабуты выкладае беларускую мову і літаратуру. У Церабутах мы і сустрэліся). — Сам ён родам з Віцебшчыны, нарадзіўся 10 красавіка 1917 года ў вёсцы Малінаўка Чашніцкага раёна. Скончыў педтэхнікум. Напрыканцы 1930-х прыехаў працаваць настаўнікам у Ляўкі. У 1939 годзе прызвалі ў Чырвоную Армію. У салдацкім страі і застала тату вайна. Будучы цяжка параненым, патрапіў у палон. Пашчасціла выжыць. Адразу пасля вызвалення з палону працаваў у Чалябінску, рэдагаваў газету "Батуринский горняк". Вось тады, відаць, і атрымала найбольшае развіццё яго паэтычнае захапленне. Хаця вершы пісаў яшчэ ў час вучобы ў тэхнікуме…

Вярнуўшыся дадому, Цімох Карага працуе настаўнікам рускай мовы ў Ляўках (цяпер ужо колішняя васьмігодка зачынена). Выкладае і іншыя прадметы. Кіруе мастацкай самадзейнасцю, піша песні. Пад кіраўніцтвам настаўніка ладзяцца канцэрты ў мясцовым клубе. І вядома, шмат піша. Не толькі сатырычныя вершы, але і лірыку, творы, адрасаваныя дзецям. Часта друкуецца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. А болей за ўсё — у старадарожскай раённай газеце. У Ляўках, суседніх вёсках нумары мясцовай газеты з байкамі земляка зачытваліся, што называецца, да дзірак, перадаваліся з хаты ў хату.

— Часам тата меў і непрыемнасці, — расказвае дачка паэта. — Аднойчы пазнаў сябе і калгасны брыгадзір у адной з баек, хаця, зразумела, пісаў бацька вобраз абагульнены. Мясцовыя п'яніцы стараліся адзін другога падкузьміць: маўляў, шмат не пі, бо патрапіш на аловак Цімоха Карагі.

У пачатку 1960-х у Мінску выйшаў зборнік сатыры ляўкоўскага паэта "Братка Кандратка". Рыхтаваў байкапісец і яшчэ адну кнігу — "Раўнівая зайчыха". Марыў пра кнігу вершаў для дзяцей. Але задуманаму спраўдзіцца не ўдалося. Памёр Цімох Антонавіч 31 жніўня 1980 года. Пахаваны на могілках у вёсцы Ляўкі.

Паэта-земляка часта згадваюць на ўроках беларускай літаратуры, абавязкова расказваюць пра яго ў пярэдадзень Дня беларускага пісьменства. Некалькі гадоў назад у Старых Дарогах быў праведзены сапраўды грандыёзны вечар у гонар сатырыка. А вёў яго ўнук паэта — здольны арганізатар культурна-асветніцкай работы, ён і сам чуйны да мастацкага слова, спрабуе пісаць.

— Добра было б нам зрабіць традыцыйнае штогадовае свята паэзіі ў знак памяці Цімоха Карагі, — разважаў на развітанне ў тую нашу сустрэчу Альберт Міхайлаў. — А мо нават — свята сатыры і гумару. Мне здаецца, што людзі добра ўспрынялі б гэтую ініцыятыву. Варта парупіцца і пра выданне спадчыны ляўкоўскага самародка асобнай ёмістай кнігай. Думаю, што чытач у кнігі быў бы не толькі на Старадарожчыне.

У Старадарожскай раённай бібліятэцы захоўваецца машынапісны "том" паэзіі Цімоха Карагі "Споведзь без пакаяння". Берагуць яго старадарожцы як самую дарагую каштоўнасць. Чытаючы байкі "Зайдросны баран", "Пілі-пок і грыбок", "Конь і слон", "Асёл-дзівак", іншыя творы саматужнай кнігі, і я пранікаюся шчырай чытацкай зацікаўленасцю да зробленага настаўнікам з вёскі Ляўкі Старадарожскага раёна. Што ж, будзем спадзявацца, што час яшчэ паспрые — і будзе выдадзена кніга сатыры і гумару Цімоха Карагі.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

## Слова краязнаўцы



Анатоль Бутэвіч з Мінска разважае пра маральнасць, патрыятызм і карысць развіцця краязнаўства як невычэрпнай крыніцы радзімазнаўства, радзімалюбства:

— Для мяне краязнаўства — самая незвычайная і самая дэмакратычная навука. Яна, як і матчына мова, як усё роднае і блізкае, уваходзіць у свядомасць без прымусу і без выпускнога экзамена. Краязнаўства ўваходзіць у нашу свядомасць з расповедаў бацькоў, з фотаздымка на сцяне хаты ці кватэры, з сямейнага радаводу. Яно набывае асэнсаванасць у дзіцячым садку, у школе, дзе праз усе формы навучання і выхавання незаўважна праводзіцца лінія на веданне сябе, свайго роду, сваіх бацькоў.

Хоць, відаць, экзамен усё ж існуе — яго прымае ў нас само жыццё. Менавіта яно правярае нашу вернасць родным караням, нашу здольнасць быць дзецьмі зямлі-маткі. І мо таму ў беларускім краі так шмат людзей, апантаных прагай самавыяўлення ў абазнанасці ў сваёй мясцовай гісторыі. Хоць мясцовай назваць такую гісторыю можна ўмоўна, бо з гісторыі кожнай мясцінкі, кожнага роду і складаецца наша агульная гісторыя, наш агульны радавод, а калі далей — то і гісторыя чалавецтва наогул. Ці не таму краязнаўства называюць радзімазнаўствам? А яшчэ — радзімалюбствам.

Так, будзем ведаць свой край, то будзем і любіць яго. Ну а калі будзем любіць, то не ведаць яго проста не здолеем: грамадзянская прыналежнасць, натуральны патрыятызм не дазволяць.

На шчасце, у нашай старонцы заўсёды было і застаецца сёння шмат краязнаўцаў, сапраўдных прафесіяналаў сваёй справы. Дзякуючы іх руплівасці, багацее наша гісторыя на новыя адкрыцці, на вывучэнне яшчэ невядомага ці несправядліва забытага. І што самае важнае, гэтая захопленасць радзімалюбствам не прывілея адзіночак, яна становіцца сапраўды народным рухам, усеагульным памкненнем ведаць, шанаваць і берагчы свае карані. Пацвярджэннем гэтаму можа быць і неабыякавая да нашай гісторыі "Краязнаўчая газета".

А развіццё краязнаўства не погляд у мінулае, гэта памкненне ў будучыню, выхаванне і прывіццё моладзі важнейшай жыццёвай патрэбнасці як мага паўней ідэнтыфікаваць сябе. Калі так станецца сапраўды, то праз пашырэнне краязнаўства стане беларуская нацыя багацейшай, больш згуртаванай, а народ наш — сапраўды высокамаральным і свядомым гаспадаром свайго лёсу, сваёй зямлі, сваёй гісторыі.

## Уніяцтва: учора і сёння

У Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі прайшла сустрэча з уніяцкім святаром з Ліды Андрэем Буйнічам, прысвечаная стварэнню і распаўсюджанню на тэрыторыі Беларусі уніяцкай царквы.

Гісторыя грэка-каталіцтва пачалася пасля падпісання ў 1596 годзе Берасцейскай уніі. Богаслужэнне вялося на беларускай мове, а падначальвалася царква Папе рымскаму. Айцец Андрэй распавёў прысутным у зале школьнікам і дарослым пра распаўсюджанне гэтай рэлігіі на беларускіх землях, пачынаючы з 1596 года і заканчваючы яе адраджэннем у пачатку 1990-х гадоў.

Сёння уніяцтва зноў перажывае перыяд адраджэння, ствараюцца новыя парафіі, павялічваецца колькасць вернікаў. Айцец Андрэй паведаміў, што і ў Навагрудку ўжо плануецца стварэнне уніяцкай парафіі.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Брама з Пінска ў шырокі свет

З 1997 года выдаецца, спачатку ў Брэсце, а цяпер у Пінску, ілюстраваны паўгадавік "Гістарычная брама", прысвечаны мінуламу і сучаснасці Палесся, яго культурнаму патэнцыялу. Апошнія яго нумары падрыхтаваны да друку дзякуючы намаганням Палескага дзяржаўнага універсітэта.

Галоўным рэдактарам выдання з'яўляецца культуролаг Аляксандр Ільін, а ў склад рэдкалегіі ўваходзяць такія замежныя аўтарытэты, як акадэмік НАН Украіны Іван Дзюба, дырэктар Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства Расійскай акадэміі навук, доктар філалагічных навук Юрый Лабынцаў (Масква), віцэ-дырэктар Інстытута гісторыі, доктар гістарычных навук Войцех Слешыньскі (Беласток), вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славістыкі ПАН, доктар гуманітарных навук Анна Энгелькінг (Варшава), вучоныя з Брэста, Гродна і Мінска. Гэта забяспечвае часопісу шматграннасць. Зразумела, што на яго старонках друкуюцца цікавыя матэрыялы пра сувязі паміж культурамі розных краін, нашых суайчыннікаў і звязаныя з імі бібліятэчныя і архіўныя знаходкі.

У адным з мінулагодніх нумароў (№ 24) змешчаны матэрыялы аб трох такіх знаходках, звязаных з ураджэнцамі і жыхарамі Брэстчыны. У бібліятэцы "Асалінэум" (Вроцлаў) аказаўся машынапісны рукапіс "Паўстагоддзя ўспамінаў" ураджэнца маёнтка Мутвіца Пінскага павета Гераніма Тукальскага-Нелюбовіча (1901 — 1975), пасляваеннага жыхара Польшчы. Асабліва каларытна ён апісаў знакамітыя пінскія кірмашы. Пётр Ціхарацкі, які, відаць, знайшоў рукапіс, дадае да апісання нататку пра беларуска-літоўскі шляхецкі род Нелюбовічаў-Тукальскіх, вядомы з XVI стагоддзя. Васіль Туміловіч расказвае на старонках паўгадавіка пра невядомае раней апісанне вёскі Чудзін, зробленае ў 1934 годзе Рудольфам Ралецкім, ураджэнцам Ганцавічаў, у якасці дыпломнай работы Вышэйшай гандлёвай школы ў Варшаве. Аўтар падрабязна расказаў пра гаспадарчыя сувязі вяскоўцаў, іх побыт. Дарэчы, некаторыя звесткі шакіруюць — напрыклад, тое, што багатыя гаспадары бралі на вяселле жыво дзвесце паўлітэркаў гарэлкі, а мужчыны хадзілі летам "у палатняных спадніцах". Усё гэта і многае іншае патрабуе, як слушна піша В. Туміловіч, дадатковай праверкі этнографаў.




Сенсацыйнай мне здаецца архіўная знаходка самога галоўнага рэдактара часопіса — "Спіс будаўнічых работ, выкананых інжынерам М. Катовічам". У спісе тым аказаліся ажно 203 аб'екты — жылыя дамы ў Пецярбургу, цэрквы, прамысловыя прадпрыемствы, масты. Адных гмахаў тэатраў і кінатэатраў у паўночнай сталіцы і яе прыгарадах узведзена, паводле спісу, ажно 19. Хаця сціплы "інжынер", а на самай справе таленавіты архітэктар Мікалай Катовіч нарадзіўся ў Вільні, але мы маем усе падставы лічыць яго сваім суайчыннікам, бо паходзіў ён з сям'і беларускага праваслаўнага святара, многа будаваў у Пінску і яго ваколіцах.

З цікавасцю чытаюцца таксама матэрыялы пра беларускае паходжанне ўкраінскага пісьменніка Юрыя Алешы, старажытнаму роду якога належаў маёнтак Юнішча каля аднайменнай вёскі на Століншчыне.

З нецярплівасцю будзем чакаць наступных нумароў змястоўнай пінскай "Гістарычнай брамы".

Адам МАЛЬДЗІС

## Мінуўшчына

# Вандроўка праз... касцюм

Супрацоўнікі Мядзельскага музея Народнай славы вырашылі арыгінальна пазнаёміць наведвальнікаў з выставай "Беларускі касцюм: ад мінулага да сучаснага". Яны запрасілі школьнікаў не на звычайную экскурсію, а на тэатралізаваную.

— Мы з вамі ажыццявім вандроўку ў гістарычнае мінулае нашай Беларусі. І пачнём свой аповед з таго часу, калі з'явілася новае сацыяльнае саслоўе, якое называлася шляхта, — пачалі гаворку супрацоўнікі музея, апранутыя, натуральна ж, у даўнейшыя строі.

Падрабязна расказалі яны пра паходжанне шляхты, звычаі і традыцыі, разыгралі сцэнку з камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта". А яшчэ вучні маглі не толькі даведацца, як называюцца танцы шляхты, але і паглядзець адзін з іх. І вядома ж, шмат увагі надавалася тагачасным касцюмам. Найсмялейшыя з гледачоў маглі нават прымерыць іх. Даведаліся вучні не толькі пра вытанчаныя шляхецкія строі, але і пра больш сціплыя — народныя.

Амаль гадзіну доўжылася гістарычная вандроўка ў мінулае нашага народа, якая дазволіла маладому пакаленню пазнаёміцца не толькі з гістарычным адзеннем беларусаў, але і з іх побытам, традыцыямі, звычаямі.

Напрыканцы ўзгадалі ўсіх, хто дапамог арганізаваць выставу і імпрэзу. Сярод іх прадстаўнікі кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, пад кіраўніцтвам якіх студэнты выканалі рэканструкцыю адзення, Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі ды іншыя.

Алесь ВЫСОЦКІ

## Культура слова

# Крупнік

Гэтак жа, як і амлет, у сваім дзяцінстве я ніколі не чуў слова суп. У нас яно і сёння — чужое, беспатрэбнае. Як тлумачыць "Словарь русского языка", суп — гэта "жидкое кушанье, представляющее собой отвар (из мяса, рыбы, грибов и т.п.) с приправой из овощей, крупы и т.п." У нас гэтая страва, калі яна варылася з якімі-небудзь крупамі, называлася і цяпер называецца — крупнік (у іншых мясцінах Беларусі — крупеня): прасяны крупнік, ячны крупнік, грэчневы крупнік, аўсяны крупнік, рысавы крупнік і г.д. Рэдкая страва з бульбы ў нас завецца булён (а не бульбяны суп), з рыбы — юшка (або рыбная поліўка), з грыбоў — проста грыбы (або грыбная поліўка), з мукі — зацірка, з фасолі — фасоля (або фасолевая поліўка), з гароху — гарох (або гарохавая поліўка). І — ніякіх чужародных супоў, якія пачалі ўсё больш настойліва выцясняць з нашай мовы і слоўнікаў спрадвечныя беларускія назвы!

Кастусь ЦВІРКА

**У верасні 2010 года Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Яўхіма Карскага адзначыць 180-гадовы юбілей. Гэта найстарэйшая публічная бібліятэка Беларусі. Яна з'яўляецца метадычным цэнтрам для 455 публічных бібліятэк Гродзеншчыны. Па выніках работы за 2008 год калектыў скарбніцы ўзнагароджаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за значны ўклад у патрыятычнае выхаванне і арганізацыю бібліятэчнага абслугоўвання насельніцтва. Да 180-годдзя рыхтуецца шмат мерапрыемстваў: міжнародная канферэнцыя, прэзентацыі аддзелаў, выставы, экскурсіі, дні адчыненых дзвярэй, будуць выдадзены гісторыя бібліятэкі і буклеты.**



# …І домік Элізы Ажэшкі

## Адзін працэнт ад заробку

Матэрыялы архіваў сведчаць, што рашэнне аб адкрыцці бібліятэкі было прынята ў верасні 1830 года на нарадзе ў гродзенскага генерал-губернатара Міхаіла Бабяцінскага. Асновай бібліятэкі сталі дабрачынныя ахвяраванні дваран горада. Першапачаткова кнігамі карысталіся ўсяго 40 чытачоў. Рабочыя, сяляне, іншы просты люд не мелі магчымасці карыстацца публічнай бібліятэкай.

Спачатку скарбніца размяшчалася ў звычайным доміку губернскага бібліятэкара. Каб выправіць яе бедны стан, губернатар прапанаваў усім служачым горада ахвяраваць па адным працэнце ад месячнага заробку. Такім чынам, на сабраныя грошы былі выпісаны перыядычныя выданні і куплены некалькі дзесяткаў кніг. Людзі, якія грашова дапамаглі бібліятэцы, мелі права на бясплатнае карыстанне, а астатнія маглі стаць чытачамі толькі на платнай аснове (месячны абанемент карыстання фондамі каштаваў 50 капеек).

З 1940 года кнігі пачалі выдавацца чытачам бясплатна. Кніжны фонд тады складаў 35 тысяч адзінак, якім карысталіся каля 4 тысяч чалавек. Штодзённа бібліятэку наведвала больш за 450 чытачоў!

З Гродзенскай публічнай бібліятэкай цесна звязаны лёсы многіх цікавых людзей. Першым бібліятэкарам, напрыклад, быў Міхаіл Зелянко — сябар слыннага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі. А ў 1892 годзе бібліятэку ўзначаліў вядомы вучоны, педагог і грамадскі дзеяч, бацька Максіма Багдановіча — Адам Ягоравіч.

## Кнігі спальвалі на плошчы

У гады Вялікай Айчыннай вайны большасць фондаў была вывезена нямецка-фашысцкімі захопнікамі ці знішчана. Частку кніг захавалі супрацоўнікі бібліятэкі. Напрыклад, Мікалай Чарвякоўскі ўзгадваў: "22 чэрвеня ў бібліятэку прыйшлі толькі я і тэхнічка. Дзверы былі зачыненыя... На другі дзень у Гродна ўвайшлі немцы і занялі памяшканне бібліятэкі. Па загадзе фашыстаў была спалена частка кніг на Савецкай плошчы. У тым ліку — творы рускіх і савецкіх класікаў. Лепшыя друкаваныя выданні былі вывезеныя за межы краіны…"

Дарэчы, сам Мікалай Чарвякоўскі ў час вайны хаваў шмат бібліятэчных кніг у сваёй кватэры. Тыя, хто яго ведаў, бралі кнігі для дзяцей, каб малыя не забывалі родную мову. Бралі кнігі і партызаны… На жаль, пасля вайны М. Чарвякоўскага не абмінулі сталінскія рэпрэсіі. Сёння Чарвякоўскага ўзгадваюць у бібліятэцы як вялікага падзвіжніка і асветніка.

У пасляваенныя гады дзейнасць бібліятэкі аднавілася і значна пашырылася. У 1949-м створаны дзіцячы аддзел, шмат увагі надавалася краязнаўству.

У 1957 годзе бібліятэцы прысвоена імя першага беларускага акадэміка, заснавальніка беларускай філалогіі і мовазнаўства Яўхіма Карскага.



## Што ў фондах?

Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Карскага з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам кніг у рэгіёне. Расказвае яе дырэктар Лідзія Мальцава:

— Сёння фонд бібліятэкі налічвае каля 640 тысяч экз. дакументаў. 98 працэнтаў агульнага фонду абласной бібліятэкі адлюстравана ў электронным каталозе. На сайце бібліятэкі ўстаноўлена новая версія WEB-каталога. На камплектаванне бібліятэчнага фонду ў мінулым годзе выкарыстана больш як 20 працэнтаў ад сумы бюджэтнага фінансавання на ўтрыманне бібліятэкі, новыя паступленні склалі 18 тысяч адзінак. Трэба адзначыць, што з кожным годам расце колькасць чытачоў. Паслугамі бібліятэкі карыстаецца амаль 44 тысячы чытачоў, 7 тысяч з якіх — дзеці да 15 гадоў.

Сярод значных выданняў, якія папоўнілі фонд абласной бібліятэкі ў 2009 годзе – першы ў свеце рускамоўны звод навуковых і грамадскіх прац лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі за перыяд з 1901 па 2000 год. Гэта 60-томнае выданне, кошт якога склаў 19,5 мільёнаў рублёў.

Падкрэслю, што папаўненне фондаў адбываецца яшчэ і пры дапамозе аўтараў, якія звычайна дораць свае кнігі бібліятэцы. Таксама існуе абменны фонд, дзякуючы якому за мінулы год паступіла каля чатырох тысяч дакументаў.

Падтрымліваюцца цесныя сувязі з франка-беларускай залай інфармацыі пры Пасольстве Францыі ў Рэспубліцы Беларусь, Саюзам палякаў на Беларусі ў Гродне, публічнымі бібліятэкамі гарадоў Беластока і Масквы.

Універсальны па змесце фонд дакументаў на замежных мовах, які складаецца з 23 тысяч адзінак захоўвання. Мастацкая і галіновая сусветная літаратура прадстаўлена на англійскай, нямецкай, польскай і французскай мовах. У даведачным фондзе — выданні на 37 мовах, у тым ліку на ўсходніх і старажытных. У аддзеле выданняў на замежных мовах захоўваецца калекцыя старадаўняй мастацкай і гістарычнай літаратуры, якая ўключае прыжыццёвыя выданні Э. Ажэшкі, Б. Пруса, Г. Сянкевіча, Ч. Дзікенса, А. Дзюма, Дж. Эліёта.

"Цэнтральнае месца ў сістэме фондаў бібліятэкі займаюць краязнаўчыя і мясцовыя дакументы, у якіх адлюстроўваецца шматграннае жыццё Гродзенскага краю", — расказвае загадчыца аддзела краязнаўства Любоў Турмасава. Гонар аддзела і ўсёй бібліятэкі — выданні XIX — пачатку XX стагоддзяў. Сярод іх працы губернскага статыстычнага камітэта, рэдкія манаграфіі, агляды, памятныя кнігі Гродзенскай губерні, дакументы дарэвалюцыйнага і даваеннага перыядаў. Найбольш каштоўныя працы – "Обзор народного хозяйства Польши" (Варшава, 1927), А.Кайгародаў "Клімат Заходняй Беларусі" (Мінск, 1932), А.Зязюля "З роднага загону" (Вільня, 1931). Разнастайныя выданні аб гісторыі Гродзеншчыны вядомых гродзенскіх даследчыкаў: Б.Шведа, А.Госцева, В.Чарапіцы, А.Дабрыяна, А.Смалянчука, Я.Жабруна. Штогод краязнаўчыя фонды папаўняюцца, у тым ліку і пры дапамозе кніг, падараваных чытачамі бібліятэкі.

## Бібліятэкі-аўтобусы і Інтэрнет

На тэрыторыі Гродзеншчыны ў значнай ступені захавалася хутарская сістэма, а адлегласць паміж паселішчамі дасягае 30 кіламетраў! Абслугоўванне жыхароў аддаленых населеных пунктаў ажыццяўляецца з дапамогай 10 бібліятэк-аўтобусаў. Зона абслугоўвання аднаго такога аўтобуса — 30 вёсак і хутароў. Жыхарам аказваюцца бібліятэчныя паслугі, да таго ж супрацоўнікі перасоўнай бібліятэкі віншуюць іх з усімі святамі і значнымі падзеямі.

У цэнтры ўвагі — і людзі з аслабленым зрокам. Для гэтай катэгорыі наведвальнікаў сфарміраваны і выдзелены спецыялізаваны фонд дакументаў, абсталяваны спецыяльныя аўтаматызаваныя працоўныя месцы, штогод набываецца новая літаратура, праводзіцца шмат мерапрыемстваў.

Гродзенская абласная навуковая бібліятэка валодае сучаснымі тэхнічнымі сродкамі і найноўшымі камунікатыўнымі тэхналогіямі. Ва ўсіх аддзелах абслугоўванне чытачоў вядзецца ў аўтаматызаваным рэжыме, створаны 30 працоўных месцаў з выхадам у Інтэрнет. Працуе і віртуальная чытальная зала Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая прадастаўляе чытачам доступ да сусветных інфармацыйных рэсурсаў.

Чытачы бібліятэкі праз МБА маюць магчымасць доступу да інфармацыйных рэсурсаў іншых бібліятэк краіны — у першую чаргу НББ і Прэзідэнцкай. Карыстальнікі атрымліваюць не толькі кнігі, але і электронныя копіі дакументаў. Напрыклад, электронныя копіі артыкулаў і фрагментаў кніг аб'ёмам да 25 старонак прыходзяць у бібліятэку не больш чым за 36 гадзін.

Адзін раз у месяц у бібліятэцы працуе юрыст, які праводзіць для чытачоў бясплатныя кансультацыі па жыллёвых, сямейных, грамадзянскіх і іншых пытаннях.

## Як і сто год таму

У доміку, дзе раней жыла вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, створаны інфармацыйна-адукацыйны цэнтр, які дазволіў пашырыць спектр бібліятэчных паслуг з выкарыстаннем сучасных камп'ютэрных тэхналогій. Для ўсіх катэгорый чытачоў, у тым ліку для інвалідаў, існуюць роўныя магчымасці для атрымання інфармацыі.

У межах рэалізацыі Прэзідэнцкай праграмы "Дзеці Беларусі" распрацавана дабрачынная праграма "З надзеяй у будучыню" на 2008 — 2010 гг., мэта якой — аказанне падтрымкі і дапамогі сацыяльна неабароненым дзецям і падлеткам. Калектыў бібліятэкі актыўна супрацоўнічае з установамі адукацыі і медыцыны, Гродзенскай епархіяй, прадстаўнікамі праваахоўных органаў. Праводзяцца розныя мерапрыемствы, накіраваныя на маральна-духоўнае выхаванне юнакоў і дзяўчат. Традыцыйнымі сталі дабрачынныя акцыі і навагоднія святы для дзяцей-сірот, як гэта некалі рабіла сама Эліза Ажэшка.

Эліза Ажэшка была не толькі выдатнай пісьменніцай, але і актыўным грамадскім дзеячам, філантропам, эсэістам, асветніцай. У яе любілі гасцяваць творчыя людзі з усёй акругі, ладзіліся вечарыны, заўсёды гучалі песні на розных мовах.

…А непасрэдна мемарыяльныя пакоі складаюцца з малога салона "Пад баранамі" і рабочага кабінета пісьменніцы.

— Тут, як і сто гадоў таму: на кніжных паліцах стаяць яе прыжыццёвыя выданні, на сценах — любімыя карціны, стол, крэслы, дываны — усё выканана так, каб максімальна перадаць гістарычны каларыт. Нават той самы (яе!) камін, каля якога любіла сядзець Эліза Ажэшка, на тым жа месцы, — расказвае бібліятэкар юнацкага філіяла Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі Вера Матыс.

І сапраўды, у доміку Ажэшкі лунае пах, атмасфера, водар яе часу. Нібыта зараз адчыняцца дзверы і зойдзе сама гаспадыня. Гасцінна запросіць да стала, прапануе кубачак кавы, распачне цікавую гутарку…

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымках: дырэктар бібліятэкі Лідзія Мальцава; домік Ажэшкі.

Здымкі прадстаўлены супрацоўнікамі Гродзенскай абласной бібліятэкі

# Яўген Міклашэўскі



Пасля працяглай хваробы на 74-м годзе жыцця памёр вядомы паэт, празаік і перакладчык Міклашэўскі Яўген Васільевіч.

Нарадзіўся будучы пісьменнік у вёсцы Лыскі Беластоцкага ваяводства (Польшча) у сялянскай сям'і. У 1953 годзе паступіў у Нясвіжскае педвучылішча, у 1956-м перавёўся ў Пінскае педвучылішча, якое скончыў праз год. Працаваў загадчыкам Вялікавулькаўскай пачатковай (1957 — 1961), затым Чарнеевіцкай школ Пінскага раёна (1961 — 1962). У 1962 — 1966 гадах вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце замежных моў. З 1972 года — карэспандэнт, потым літсупрацоўнік, а з 1977-га — рэдактар часопіса "Родная прырода". З 1978 года старшы рэдактар аддзела прозы часопіса "Маладосць". З 1981 па 1991 год працаваў літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пасля — загадчыкам рэдакцыі драматургіі і публіцыстыкі часопіса "Тэатральная Беларусь".

Літаратурнай працай пачаў займацца з 1959 года. Актыўна друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Работніца і сялянка", "Вожык", у газетах. Аўтар кніг паэзіі "Свежасць", "Світальны водбліск", "У спрадвечным руху", "Зара-заранка", "Зара-вечарніца", аповесці "Чатыры дарогі", зборніка гумару "Ганна з Пухавіч", іншых твораў.

Пераклаў на беларускую мову асобныя творы Д. Уолеса, Э. Хемінгуэя, С. Маэма, Р. Кіплінга, О. Хакслі, М. Лермантава, С. Ясеніна, А. Кальцова, Б. Кежуна і многіх іншых вядомых пісьменнікаў. Пісаў таксама і для дзяцей.

Ад нас пайшоў таленавіты творца, сціплы чалавек, добры таварыш, паважаны калега. Створанае ім будзе яшчэ доўга запатрабавана чытачамі, працаваць на нашу літаратуру і культуру, на выхаванне новых пакаленняў беларусаў.

Светлая памяць пра Яўгена Васільевіча назаўсёды застанецца ў сэрцах прыхільнікаў яго таленту, калег і сяброў.

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі

Мікола МАЛЯЎКА

Ці чулі, як паэт на скрыпцы граў?..
Светлай памяці
Яўгена Міклашэўскага

Ці чулі, як паэт на скрыпцы граў?
Нібы ў самой прыроды браў урокі.
Душой сягаў высока, за аблокі,
Вяртаўся зноў да птушак, дрэў і траў.
Ды сцьмелі, анямелі родных з'яў,
І галасоў, і вобразаў вытокі:
Сярод любімых кніг ён, адзінокі,
Са скрыпкай побач ціха паміраў.

Нашчадкам творца перадаў у спадчыну
І ключ скрыпічны свой, і слова матчына.
Разгорнеш кнігу, што яшчэ маўчыць,
Кранеш вачамі верш — вясёлы, сумны, —
І музыка ў радках яго гучыць,
Як быццам гэта не радкі, а струны.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю пісьменніка Міклашэўскага Яўгена Васільевіча і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

# Для мяне мастацтва — душа

Любы творчы саюз — гэта аб'яднанне, дзе гуртуюцца прафесійныя, таленавітыя, апантаныя людзі. У нашай краіне налічваецца некалькі такіх саюзаў: дызайнераў, музыкантаў, пісьменнікаў, журналістаў, архітэктараў... Сённяшні ж наш суразмоўца — адметны мастак, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны і... старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір САВІЧ.



— Беларускі саюз мастакоў ці не самы буйны творчы саюз у нашай краіне. Якая яго структура і сфера дзейнасці?

— Так, саюз мастакоў самы вялікі — каля 1200 сябраў. Штаб-кватэра знаходзіцца ў Мінску, а ў кожным абласным горадзе ёсць аддзяленні, з якіх віцебскае самае вялікае. Структура аб'яднання звычайная, як і ў іншых творчых саюзах, — з'езд, рада (старшыня — Уладзімір Зінкевіч), прэзідыум і сакратарыят. Рада збіраецца два разы на год, а прэзідыум — кожны месяц. У мяне ёсць намеснікі: першы намеснік — Рыгор Сітніца, намеснік па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў і намеснік па эканоміцы і вытворчасці Яўген Гусеў. Створаны і працуюць разнастайныя секцыі: графікі, скульптуры, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, графічнага дызайну, афарміцельскага мастацтва.

Задача саюза мастакоў — папулярызацыя нашага мастацтва як у нашай краіне, так і за яе межамі. То бок, праца на развіццё нашай культуры. Штогод ладзім больш як сто выставак.

— Сёння саюз па знешніх праявах неаднародны. У Мінску існуюць творчыя суполкі "Верасень", "Пагоня", у абласных цэнтрах свае аб'яднанні. Як гэта спалучаецца з традыцыйнай структурай саюза мастакоў?

— Пры савецкім часе суполак не было. Першая з іх — "Верасень" — утварылася ў 80-х гадах мінулага стагоддзя. Потым была "Пагоня". Месяцы тры таму ўтварылася новая — "Традыцыя". Паводле нашага статута, суполка ствараецца тады, калі ёсць згода 20 сябраў БСМ. У ёй могуць гуртавацца людзі з розных секцый, чые погляды на мастацтва разыходзяцца. Пры Віцебскім абласным аддзяленні існуе праект "Абстракт", дзе таксама згуртаваліся блізкія па духу і поглядах людзі. Нічога страшнага ў гэтым няма, абы быў мір і спакой, як кажуць, у нашым доме і ўсё рабілася на карысць нашаму мастацтву і культуры.

Да таго ж, наш саюз — член Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў са штаб-кватэрай у Маскве. У яе ўваходзяць краіны былога Саюза акрамя прыбалтаў, хоць яны ўдзельнічаюць ва ўсіх выстаўках. Грузія з канфедэрацыі не выйшла, але з-за пагаршэння адносін з Расіяй пакуль трымае паўзу. Кожны год у маскоўскім Цэнтральным доме мастака ладзіцца буйныя выстаўкі, так званыя салоны, выдаюцца вялікія каталогі. Там кожная краіна-ўдзельніца прадстаўляе сваю выстаўку і яшчэ робіць па адным-два асабістым праекце. Такія мерапрыемствы вельмі карысныя: мастакі з былога Савецкага Саюза могуць сустрэцца, паказаць, чым яны цяпер займаюцца, паглядзець на творы калег.

— Уладзімір Пятровіч, цяперашняе кіраўніцтва саюза працуе ў добрым кантакце з Міністэрствам культуры краіны. Ці дапамагае яно ў правядзенні творчых конкурсаў, выставак, наладжванні замежных кантактаў?

— Міністэрства культуры —дзяржаўная ўстанова, мы — грамадскае аб'яднанне. Але адно другому не пярэчыць, і, безумоўна, мы працуем у цесным кантакце. Пры ранейшым міністры культуры У. Матвейчуку мы заключалі нават пагадненне пра сумесную дзейнасць: якія выстаўкі павінны разам зрабіць, абгаворвалі грашовыя стасункі... Прыкладам, у мінулым годзе мы правялі велізарную выстаўку да 65-годдзя вызвалення Беларусі сумесна з міністэрствамі культуры і абароны.

А да 65-годдзя Перамогі ў Палацы мастацтва адкрыліся адразу чатыры выстаўкі: тры экспазіцыі нашых мастакоў-ветэранаў І. Дмухайлы, І. Белановіча, Ф. Бараноўскага, якія, на жаль, ужо адышлі ад нас, і экспазіцыя на ваенную тэматыку сённяшніх мастакоў. Напярэдадні Дня Перамогі адкрылі асобную выстаўку нашых ветэранаў, якія, дзякаваць Богу, жывыя і здаровыя.

Увогуле разам з Міністэрствам культуры бяром удзел у разнастайных праектах. Добрыя стасункі ў нас з Міністэрствам замежных спраў. Напрыклад, падчас візіту прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага ў Лондан у галерэі Алы Булянскай зладзілі выстаўку, якая прайшла з вялікім поспехам і якую адкрываў сам прэм'ер-міністр. У часе візіту Прэзідэнта А. Лукашэнкі ў Літву мы таксама там ладзілі выстаўку. Нашы пасольствы заўсёды ідуць нам насустрач, дапамагаюць выстаўляцца.

— Саюз пастаянна папаўняецца маладымі творцамі. На працягу ўсяго жыцця мастак сутыкаецца з балючай праблемай атрымання грашавітага дзяржзаказу, каб было і цікава працаваць і на што жыць. У маладых жа яшчэ ёсць праблема размеркавання. На адной з выставак пару гадоў таму вельмі востра абмяркоўвалася гэта праблема. На афіцыйным узроўні закраналася пытанне, што моладзь не жадае ехаць па абавязковым размеркаванні ў глыбінку, у тым ліку ў забруджаныя раёны, выкладаць маляванне ў дзіцячых мастацкіх школах. Гучалі нараканні, што яны хочуць уладкавацца за мяжой, ладзіць кантакты з замежнымі галерэямі. Саюз мастакоў, зразумела, умяшацца не можа ў гэту справу, але якія вашы думкі на гэты конт?

— Праблема вялікая, і яна дзяржаўная. Яе, безумоўна, трэба вырашаць уладам сумесна з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў і БСМ. Я 35 год працую ў акадэміі, 20 год быў загадчыкам кафедры графікі. Падчас конкурсу "Зорка ўзышла над Беларуссю" ў складзе журы ездзіў у абласныя гарады. Бачна, што моладзь зацікаўленая і хоча маляваць. Але ж асноўная кола выкладчыкаў — непрафесіяналы. А дзецям трэба паказаць, расказаць, як падысці да мастацтва, што яно сабой уяўляе, як паглядзець вакол сябе, куды скіраваць свой позірк, якія акцэнты расставіць.

Цалкам згодны з дзяржаўнай палітыкай: да размеркавання трэба ставіцца прынцыпова. Калі дзяржава выдзяляе сродкі на адукацыю маладога чалавека, ён павінен аддаць ёй даніну павагі, паехаць па размеркаванні і папрацаваць. Заўсёды кажу студэнтам: вас вучылі, будзьце ласкавы, і вы павучыце, аддайце свае веды тым людзям, якія маюць у гэтым патрэбу.

На жаль, у нас ёсць праблемы з абласнымі аддзяленнямі акрамя віцебскага: не хоча туды ехаць моладзь, уся акумулюецца ў Мінску. Што датычыць кафедры графікі, дыпломныя творы выконваюцца на вельмі высокім прафесійным узроўні. Гэта не толькі маё асабістае меркаванне, пра тое сведчаць шматлікія дыпломы, якія атрымліваюць гэтыя работы на міжнародных выстаўках. У мастацтве нядобра гаварыць пра працэнты, але каля 80 працэнтаў здольных студэнтаў потым не працуюць. Гэта мой вялікі боль як выкладчыка. Мы ж гаворым з імі не толькі пра тое, як маляваць, а як трэба любіць сваю зямлю, мову, культуру, літаратуру, этнаграфію, фальклор. Гаворыш пра ўсё тое, што ў цябе самога баліць у душы. Калі пытаюцца, ці ёсць у мяне таленавітыя вучні, я слова "таленавіты" адносна студэнтаў не ўжываю. Магу толькі сказаць, наколькі студэнт падрыхтаваны прафесійна. А першая прыступка да таленту пасля заканчэння акадэміі — калі чалавек пачынае працаваць сам, без прымусу.

Усё ідзе ад душы, калі ёсць ідэі, думкі, якія хочацца выказаць, давесці да іншых. А мы чым выказваем: мовай пэндзля, алоўка, фарбаў... Як прафесіянал мастак можа намаляваць, напісаць, скампанаваць, але гэтага мала, ён не становіцца з-за гэтага творцам. Кожны, каму дадзены Божы дар выяўляць сябе на палатне, кардоне ці паперы, павінен разважліць на мове сваёй зямлі, увасабляць тое адзінае, адметнае, што ёсць толькі ў нашай краіне і нашага народа. Толькі тады гэта будзе цікава для ўсіх.

Прыкра, што цяперашняя моладзь не вельмі актыўна бярэ ўдзел у нашых выстаўках. Памятаю час, калі ставілася зусім іншае пытанне, нават галасавалі: прымаць ці не студэнтаў на выстаўкі. У нас створана секцыя маладых мастакоў са сваім старшынёй і бюро. Для паступлення ў яе кандыдат павінен удзельнічаць у пяці рэспубліканскіх выстаўках. Ён выстаўляе свае творы, прадстаўляе альбом, тры характарыстыкі сяброў БСМ. Прэзідыум разглядае дакументы і рэкамендуе на Раду БСМ, і там ужо адбываецца галасаванне. Па дасягненні 35-гадовага ўзросту (у гэтым узросце аўтаматычна вызбываюць з маладзёжнай секцыі), з умовай, што ў ягоным багажы ёсць удзел у дзесяці рэспубліканскіх выстаўках, ён зноў праходзіць поўную працэдуру па прыняцці ўжо ў сталы БСМ. Існуе яшчэ адна ўмова —чалавек павінен мець вышэйшую спецыялізаваную адукацыю. Бывае і так: выпускнік якой-небудзь мастацкай вучэльні, ліцэя або каледжа жадае ўступіць у саюз, а ісці вучыцца ў БДАМ не хоча, апелюючы тым, што гэта яму не трэба, ён і так усё ведае і ўмее.

— Мабыць, яшчэ адно з балючых пытанняў — гэта майстэрні і арэндная плата за іх...

— Гэта так. У саюза мастакоў ёсць уласныя майстэрні. Мастак, які мае майстэрню БСМ, не плаціць арэндную плату, яе аплачвае саюз, а толькі камунальныя паслугі. Каля 160 майстэрань мы арандуем у горада. Тут творца-субарандатар ужо аплачвае і арэнду. У кастрычніку 2009 года выйшаў новы закон аб арэндзе. Але ён недасканалы, яго можна прачытаць па-рознаму: на карысць мастакоў або арэндадаўцаў.

— Творчасць мастака — індывідуальны працэс, але некаторыя ахвотна бяруць удзел у сінтэтычных творчых праектах: афармленне НББ, Нясвіжскай ратушы, Мірскага замка... Староннія людзі часам чуюць крыўды, што нехта нахапаў заказаў. Як саюз мастакоў уплывае на іх атрыманне і размеркаванне?

— Гэта яшчэ адна з праблем саюза мастакоў. Раней саюз быў манапалістам: калі дзяржзаказы ішлі, то яны абавязкова праходзілі праз наш мастацкі фонд. Потым усё развалілася. Знайшліся людзі, якія хуценька перабудаваліся, а нашы структуры, на жаль, не так хутка гэта зрабілі. Цяпер трэба рупіцца самому. Ёсць творцы, якія маюць сувязі з архітэктарамі, і яны першыя бяруць сабе заказ або некалькі, а іншым не застаецца нічога.

Шчыра кажучы, мне балюча за афармленне, за роспісы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Тое ж чуў ад дзесяткаў людзей, што зроблена вельмі нецікава. Як сябра манументальнага савета выступаў катэгарычна супраць скульптур на Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета нашай краіны. Лічу, што гэта няправільна, што мастакі штучна залезлі ў помнік архітэктуры, у твор І. Лангбарда, і сапсавалі яго. Трэба вельмі адказна ставіцца да помнікаў, якія ўзводзяцца калі не на вякі, то на дзесяцігоддзі. Тут адказнасць мастака і ўсіх датычных асоб узрастае шматкроць.

— Наведваючы выстаўкі, часам з жалем назіраеш за тым, што сапраўды высакакласнае мастацтва еўрапейскага ўзроўню нашых творцаў застаецца незапатрабаваным шырокай публікай, для якой і ладзяцца экспазіцыі. Увогуле, ці ўяўляе мастак, для каго ён стварае: для сябе, для душы, для даволі прафесійнага кола сваіх калег, мастацтвазнаўцаў...

— Часта задаю пытанне: што ёсць мастацтва? Для мяне яно — душа. У кожнага свой погляд на гэта. Але душа, розум і майстэрства — тры звёны аднаго ланцуга таленавітага творцы. Для мяне галоўнае і заўсёды пераканаўчае, калі бачу ў творы шчырасць. Безумоўна, мастак робіць і для сябе, і для людзей, і для зямлі, на якой жыве. Калі працуеш, не думаеш: гэта для гэтага, а гэта для чагосьці іншага. Трэба рабіць шчыра, і гэтым можна захапіць больш шырокую публіку. Таму што цікаўнасць да мастацтва ніколі не зробіць нічога благога людзям, а толькі будзе спрыяць развіццю чалавека.

Выстаўкі павінны быць разнастайныя — акадэмічныя, сюррэалістычныя, інсталяцыйныя, — для кожнай знойдзецца свой глядач. Сваімі персанальнымі выстаўкамі я не імкнуся некага здзівіць: глядзіце, маўляў, вось я такое зрабіў. Гэта своеасаблівая вучоба — вынесці свае творы з майстэрні і паказаць людзям, сустрэцца з гледачом, паразважаць з ім. Іншым разам пытаюцца: я не разумею, што вы тут напісалі. Адказваю: а як вы можаце адразу зразумець, калі вы не ведаеце мой унутраны свет, мой настрой, чым я дыхаю, як я гляджу на сонца, на зямлю.

— Нядаўна ў Гродне адкрылася новая галерэя, дарэчы, вашымі работамі. Увогуле, за апошнія гады новыя галерэі з'явіліся і ў сталіцы. Ёсць дзе выстаўляцца, але выставачных плошчаў, на вашу думку, дастаткова для таго, каб годна прадставіць творчасць мастакоў?

— Нядаўна быў у Берліне, бо там ладзіцца наша выстаўка ў кунстхаўзе "Тахелес". Гэта цэнтр Берліна, а побач знаходзяцца дзве вуліцы, на якіх размешчана каля сарака мастацкіх галерэй. Мы з маім намеснікам наведалі трыццаць. Не думаю, што без дзяржаўнай палітыкі можна на такой невялікай плошчы адкрыць столькі галерэй.

На жаль, галерэй у Мінску вельмі мала. У саюза іх дзве — "Мастацтва" і "БелАрт". На першым паверсе будынка БСМ плануем адкрыць новую мастацкую галерэю. Упэўнены, дзяржава ні ў чым бы не пацярпела, калі б паменшыла плату за гэтыя памяшканні. Галерэй шмат не можа быць. Мастакі жадаюць, каб у Мінску іх было як мага болей, бо, па-першае, нам ёсць, што паказваць. Па-другое, больш людзей спрыяніцца да мастацтва. Па-трэцяе, калі прыязджаюць турысты, іх вядуць куды — у нашы музеі, галерэі, паказваюць нашу спадчыну, культурныя набыткі.

— Не сакрэт, што ваша асноўная галерэя "Палац мастацтва" выклікае неадназначныя пачуцці…

— Цалкам з вамі згодны. Палац мастацтва быў пабудаваны ў 1973 годзе, і з таго часу ў ім рабіліся толькі касметычныя рамонты. Бюджэтныя грошы не могуць быць на яго адпушчаны, бо гэта маёмасць грамадскага аб'яднання. Цяперашняе кіраўніцтва саюза мастакоў прыняло рашэнне: паступова самім рабіць рамонт, чым мы і займаемся. Каб такой пазіцыі прытрымлівалася былое кіраўніцтва, цяпер Палац мастацтва быў бы на вельмі прыстойным узроўні. Нягледзячы на работу, у ім ладзіцца выстаўка за выстаўкай. Будынак, як вядома, знаходзіцца ў цэнтры горада, і на яго шмат хто кладзе вока. Ёсць шматлікія жадаючыя, так званыя інвестары. Некаторыя хацелі яго перабудаваць, нават знесці і перанесці бліжэй да праезджай часткі. Але ў чужую маёмасць ніхто за так грошы ўкладаць не будзе. Надзея ў нас толькі на саміх сябе.

— Старшыня Беларускага саюза мастакоў, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, вы ў першую чаргу творца. Калі не сакрэт, над чым вы цяпер працуеце? І ці не перашкаджае такая нагрузка і грамадская дзейнасць творчасці?

— Пераканаы, што такую пасаду як старшыня БСМ павінен займаць чалавек, які сам актыўна займаецца творчасцю. Бо толькі тады ён ведае ўсе праблемы, якія бываюць у мастакоў. Так, гэта адымае шмат часу. Іншы раз "становішся" мастаком толькі ў выхадныя дні. Але мне крыўдаваць няма на каго: сюды, на гэту пасаду, сілком мяне ніхто не цягнуў, я сам даў згоду балатавацца. Як цяжка ні было б, я працую. І пацвярджэннем таму — мая персанальная выстаўка ў галерэі "Мастацтва". Гэта мая невялічкая справаздача, што я не толькі кірую саюзам, займаюся адміністрацыйнымі пытаннямі, выкладаю ў акадэміі, але і працую творча. Таму што творчасць — галоўнае для мяне.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Уладзімір Савіч.

Фота аўтара

# Таямніцы акварэлі

У Аршанскай гарадской мастацкай галерэі В. А. Грамыкі ладзілася выстаўка вядомага майстра акварэлі, прафесара кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Уладзіміра Рынкевіча “Яе вялікасць Акварэль”.

Мастак наладзіў маштабную прэзентацыю сваіх твораў, падчас якой распавядаў гісторыі кожнай работы, шчыра дзяліўся сакрэтамі незвычайных жывапісных эфектаў. А ўдзельнікі майстар-класа, што адбыўся пазней, маглі паназіраць за працай У. Рынкевіча і нават паўдзельнічаць у таямнічым працэсе нараджэння прывабнага нацюрморта, настрой якога адпавядаў атмасферы старажытных муроў былога езуіцкага калегіума, дзе цяпер месціцца мастацкая галерэя.

Аршанцы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю мастака падчас пленэра ў межах рэспубліканскага мастацка-прапагандысцкага праекта “Нашчадкі Міхала Падалінскага”, які праходзіў у Оршы летась. Менавіта У. Рынкевіч выступіў ініцыятарам гэтага цікавага праекта, у якім узялі ўдзел лепшыя мастакі Беларусі, і прэзентаваў аршанцам сваю кнігу “Міхал Падалінскі”, якая сталася вынікам даследавання творчай біяграфіі аднаго з першых беларускіх мастакоў-графікаў, нашага земляка. Так мы ўбачылі шырокі спектр інтарэсаў У. Рынкевіча, які паспявае паралельна з заняткамі жывапісам займацца навукова-даследчай работай, педагагічнай дзейнасцю, прапагандаваць сучаснае беларускае мастацтва.



Уладзімір Іванавіч — нястомны падарожнік, які добра ведае і любіць гістарычныя мясціны Беларусі. На выставе быў прадстаўлены шэраг яго работ з выявамі велічных збудаванняў Мірскага замка, Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, Маламажэйкаўскай царквы. Аршанцы пазналі і вобраз Ільінскай царквы на малюнку “Востраў”, створаным падчас леташняга пленэру. Не пакінулі абыякавымі іншыя работы: віртуозна выкананы “Танец перфокусаў”, дзе няспынны рух фантастычных істот прыцягвае позірк і вядзе за сабой у бязмежную глыбіню карціны; дыптых “Зімовы букет”, у якім аўтар выкарыстаў шэраг незвычайных акварэльных прыёмаў, дабіўшыся дзівоснага сумяшчэння матэрыяльнасці і фантасмагарычнасці выявы. Акварэлі У. Рынкевіча вельмі разнастайныя па ідэйна-тэматычных і стылёва-вобразных характарыстыках. Тут прысутнічае віртуальная гульня пачуццяў, розуму і фантазіі мастака, якія зыходзяць з самой прыроды акварэлі і матэрыялізуюцца сродкамі спецыфічных самакаштоўнасных эфектаў вадзянога жывапісу. Колеравая гармонія, структура тонавых плямаў, суадносіны фактур, ілюзія прасторы выступаюць не толькі аб’ектамі адлюстравання, але і з’яўляюцца зместам і сэнсам карціны.

Вераніка МІТРАКОВА,
старшы навуковы супрацоўнік
галерэі В. А. Грамыкі

На здымку: Уладзімір Рынкевіч “Востраў”.

г. Орша



Трое мастакоў Гомельшчыны, аб’яднаўшы свае творы ў адзіную экспазіцыю, прадставілі яе ямкам усіх раённых цэнтраў вобласці. Роберта Ландарскага, Генадзя Говара і Дзмітрыя Папова, якія ажыццявілі гэты праект, злучаюць даўнія, больш як трыццацігадовыя, сяброўскія стасункі. Выстаўка адбылася дзякуючы сумеснай ініцыятыве ўпраўлення культуры Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта і Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў.

# Вандроўнікі. Асветнікі…

Першая перасоўная выстаўка “Па гомельскім Палессі” складалася з твораў асноўных відаў выяўленчага мастацтва: жывапісу (Р. Ландарскі), графікі (Г. Говар) і скульптуры (Д. Папоў). Сярод экспанатаў былі цяжкавагавыя скульптуры з каменю, металу. Таму прадбачыліся тэхнічныя праблемы ў дастаўцы твораў з аднаго пункта ў другі. Але дзякуючы падтрымцы і зацікаўленаму ўдзелу мясцовых улад, пераезды экспазіцыі ажыццяўляліся практычна без затрымак. Яна стартавала ў маі 2007 года і пабывала ў 21-м раённым цэнтры Гомельшчыны.

Нагадаю, што мастацкая выстаўка як спецыфічная форма культурнага спажывання з’явілася ў Францыі. А ў XIX стагоддзі менавіта ў Расіі яна атрымала новае, больш дэмакратычнае развіццё пры самым актыўным удзеле мастакоў-перасоўнікаў і некаторых дзеячаў расійскай асветы. У савецкі перыяд феномен мастацкай выстаўкі не быў забыты, хаця тады экспазіцыі, падпарадкоўваючыся агульнай ідэалогіі, мелі адукацыйны і выхаваўчы характар.

У наш час, нягледзячы на трывожныя сімптомы ў выставачным жыцці, цікавасць публікі да мастацкіх выставак можна актывізаваць, арганізаваўшы нешта не зусім традыцыйнае. Вось і гомельскія мастакі, зітаваўшы ў адной экспазіцыі тры асноўныя віды выяўленчага мастацтва, вырашылі прапанаваць свае творы ўвазе гледача.

Роберт Ландарскі, Дзмітрый Папоў і Генадзь Говар шмат агульнага перажылі, усе прыкладна аднаго ўзросту. Але яны не падобныя адзін да аднаго ні па творчай манеры, ні па тэмпераменце.

Творчасць заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Роберта Ландарскага грунтуецца на рэалістычных традыцыях. Але, і





створаныя ў імпрэсіяністычнай манеры, яго палотны надзвычай паэтычныя, у іх заўсёды адбываецца адкрыццё рамантычнага светаадчування. Ён адзін з заснавальнікаў гомельскай школы жывапісу, для якой характэрныя радасныя, каларыстычныя інтанацыі. Палотны напоўнены паветрам, сонечным святлом. “Чалавек і прырода — мая асноўная тэма”, — кажа мастак. Яго творы злучаныя з успамінамі вясковага дзяцінства, з палескімі краявідамі. Сярод палотнаў Р. Ландарскага, прадстаўленых у першым перасоўным праекце, не толькі пейзажы, але і тэматычныя карціны. Мастакам Гомельшчыны наканавана жыць і ствараць у цэнтры экалагічнай катастрофы. Таму асабліва вылучаецца работа Р. Ландарскага, прысвечаная трагічным наступствам Чарнобыля, — “Яблыкі на снезе”. Ледзь крочыць сівая старая жанчына, якая засталася адна ў зоне адсялення. А на дрэвах і на снезе — велізарныя ружовашчокія яблыкі, такія прывабныя, але нікому непатрэбныя…

Генадзь Говар — адзін з нямногіх, хто выкарыстаў гэтую нагоду, каб велічна і пранікнёна ўявіць і выявіць у дваццаці графічных аркушах “Рысы Эры” рысы дваццаці стагоддзяў ад нараджэння Хрыста. У яго кампазіцыях эпохі разгорнуты філасофскай дыярамай. Мазаіка лёсавызначальных падзей, знакамітых асоб, шэдэўраў сусветнай архітэктуры і мастацтва нараджае хвалі асацыяцый. Іх рытм узмацняецца аўтарскімі вершамі, якія ўзбагачаюць сэнс кожнага графічнага аркуша і скіроўваюць гледача на тое, што не любаванне, а праца розуму — ключ да спасціжэння аўтарскай задумы. Графічны цыкл Г. Говара “Рысы Эры” ўсёй пабудовай парушае звыклыя ўяўленні пра трохмерную прастору, бо вось яна — бачная глыбіня часу, глыбіня стагоддзяў, глыбіня космасу. Чалавек асэнсоўваецца не толькі як сведка падзеі, а як творца ўсяго, што адбываецца на планеце, у яго роднай хаце, у лёсе. Чалавек — як гэта разумее Г. Говар — найперш стваральнік прыгажосці, той самой, якая ратуе святло і жыццё.

Уражвае разнастайнасць творчых дасягненняў Дзмітрыя Папова: тут і станковая, і манументальная, і дэкаратыўна-паркавая скульптура. Сярод яго манументальных твораў — помнік княгіні Ірыне Паскевіч, помнік вязням канцлагера ў Азарычах Калінкавіцкага раёна, барэльеф вязням канцлагера ў Гомелі, бюст Кірылы Тураўскага, помнікі-бюсты Ф. Паскевічу, Г. Жукаву, І. Мележу, А. Макаёнку, І. Шамякіну ды іншыя. Прызнаны сталы майстар псіхалагічнага і гістарычнага партрэта, Д. Папоў вырашае свае задумы і праз выразныя шматфігурныя кампазіцыі. Прадстаўленыя ў азначаным праекце творы хвалююць то сваёй эмацыйнай дынамічнасцю, то шчырым лірычным спакоем, то ўнутраным драматызмам. Захапляе і дыяпазон стылявых пошукаў. У выявах воінаў-вызваліцеляў, знакамітых навукоўцаў, вайскоўцаў, пісьменнікаў скульптар можа быць рэалістам-патрыётам, рэалістам-філосафам. А ў пластычных вобразах простых людзей, дарагіх сэрцу жанчын раскрываецца як рамантык.

Праект быў задуманы як дыялог паміж тымі, хто рознымі мастацкімі сродкамі стварае выявы палескага краю, і тымі, хто знаёміцца з арыгіналамі твораў і іх аўтарамі, магчыма нават, упершыню ў сваім жыцці. Мастакі былі зацікаўленыя і ў тым, каб пачуць шчырае меркаванне непрактыкаванага гледача. Перасоўная выстаўка для жыхароў раённага цэнтра зазвычай адзіная магчымасць далучыцца да выяўленчага мастацтва. Таму сярод гледачоў можна было сустрэць прадстаўнікоў усіх узростаў, прафесій, узроўняў адукацыі. Прадстаўленыя творы землякоў месцічы ўспрымалі з непадробнай цікавасцю і хваляваннем, уважліва ўслухоўваліся ў словы мастакоў, якія імкнуліся пазнаёміць са спецыфікай жывапісу, графікі і скульптуры, са сваімі творчымі задумамі і планамі.

У Беларусі, як і ва ўсім свеце, вядома ж, адбываюцца выстаўкі, у якіх спалучаюцца розныя віды мастацтва. Але панарамныя праекты, якія ахопліваюць глыбінныя рэгіёны адной краіны, — з’ява, мабыць, унікальная. Дарэчы, вынікам яе правядзення стаўся акт дарэння мастаком Генадзем Говарам усіх сваіх 20-ці графічных работ “Рысы эры” Гомельскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна.

А тым часам на Гомельшчыне ажыццёўлены новы мастацкі праект: у раёны вобласці выправілася вандроўная выстаўка твораў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі.

Алег АНАНЬЕЎ,
мастацтвазнаўца, член Саюза
пісьменнікаў Беларусі, адказны
сакратар Гомельскай абласной
арганізацыі Беларускага саюза мастакоў

На здымках: Роберт Ландарскі “Вечар на Бесядзі”; Генадзь Говар “Памяць”; Дзмітрый Папоў “Піета”.

Фота Віктара Кавалёва
і Святланы Берасцень

# Каб шанавалі мір

У барысаўскай мастацкай галерэі “З’ява” Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева адкрылася выстаўка “Палітра памяці”, прысвечаная 65-й гадавіне Вялікай Перамогі.



На выстаўцы прадстаўлена 20 палотнаў з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Многія з іх аўтараў пранеслі пакуты і жахі вайны ў сваім сэрцы, бо былі ўдзельнікамі тых трагічных падзей.

На карцінах вядомых беларускіх мастакоў — не толькі батальныя сцэны і гераічныя вобразы нашых франтавікоў, але і партрэты партызан, напісаныя ў 1944 — 1945 гг., ёсць работы паводле эскізаў, выкананых у гады вайны. Пачуццё далучанасці да векапомнага авалодвае наведвальнікамі, калі яны сустракаюцца з творчасцю народных мастакоў Беларусі — Гаўрылы Вашчанкі, Міхася Савіцкага і Віктара Грамыкі. Насамрэч, палотны такіх выбітных майстроў пэндзля не так часта трапляюць у маленькія галерэі кшталту барысаўскай “З’явы”.

Што да Міхася Савіцкага, дык гэты мастак яшчэ пры савецкай уладзе атрымаў званне Народнгага мастака СССР, стаў акадэмікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР і тройчы — Дзяржаўнай прэміі БССР. У гады суверэнітэту атрымаў высокае званне Героя Беларусі. Яго знакаміты цыкл “Лічбы на сэрцы” ўсхваляваў увесь свет. Былы вязень канцэнтрацыйнага лагера, Міхась Андрэевіч здолеў паказаць у гэтых палотнах боль і трагедыю крывавай вайны. Супрацоўнікі барысаўскай галерэі ганарацца тым, што адна з карцін М. Савіцкага прадстаўлена на выставе. Яна не такая трагічная, як іншыя яго ваенныя творы, на ёй увасобленыя стратэгі аперацыі “Баграціён” — маршалы К. Ракасоўскі і Г. Жукаў і генералісімус І. Сталін.

Кранаюць душу сваёй пранізлівай шчырасцю і работы такіх вядомых беларускіх мастакоў, як Мікалай Гуціеў, Мікалай Назарчук, Віктар Варламаў, Зянон Паўлоўскі, Леанід Дударэнка, Міхась Карпук, Віктар Пратасеня, Сяргей Раманаў ды іншых.

На адкрыцці выстаўкі выступілі мастацтвазнаўца Галіна Глебава, член Савета ветэранскай арганізацыі Барысаўскага раёна Ларыса Белая, дырэктар ЦРБ імя І. Каладзеева Галіна Слесарэнка. Прамоўцы адзначылі, што “Палітра памяці” — выдатны падарунак барысаўчанам, і яна патрэбная для таго, каб памяць пра вайну жыла, каб людзі шанавалі мір — самае галоўнае, што ў нас ёсць сёння. Заслуга супрацоўнікаў галерэі ў тым, што яны адабралі з фондаў музея менавіта тыя работы, якія могуць запасці ў нашы душы. Старшыня раённай арганізацыі РГА “Белая Русь” Наталля Мяркулава падзякавала галерэі “З’ява” за плённую працу ў галіне духоўнага, эстэтычнага і патрыятычнага выхавання моладзі.

Анатоль МАЗГОЎ

На здымку: падчас адкрыцця выстаўкі — Ларыса Белая, Галіна Глебава і радыёжурналіст Алена Лычагіна..

Фота аўтара

г. Барысаў

# Пэндзлем і пяром

Калі я пераступаю парог кватэры майго сябра Анатоля Бароўскага, пэўна не ведаю — прыйшоў да пісьменніка ці мастака. То яго магу заспець за раманам, які ён піша ўжо некалькі год, а то яго пакой ператвараецца ў майстэрню мастака — у руцэ пэндзаль, і ён стаіць ля мальберта...

Некалі Віктар Казько, прадстаўляючы апавяданне чытачам "Звязды", у прадмове напісаў: "Анатоль Бароўскі — празаік, публіцыст, паэт і мастак, — а яшчэ проста харошы чалавек".

Ведаючы, што ён не любіць, калі да яго завітваюць без папярэджання, асмеліўся пазваніць у дзверы — цікава было, у якім вобразе прадстане ён цяпер...

Незадаволенасці не заўважыў, і тое абрадавала.

— Анатоль, а як адбываецца гэтае пераўтварэнне — з адной прафесіі ў другую? Ты ж учора казаў, што пішаш фантастычна-дакументальную прозу — пра вынаходніка Юніцкага, нашага земляка, а сёння ты пішаш… фарбамі.

Ён усміхаецца, адкладвае ўбок пэндзлі, адыходзіць ад мальберта. Міжволі кідаю позірк на тое, ад чаго яго адарваў, — ад жоўтага поля, ад збажыны, якая даспявала… Бачу яго казачна-фантастычны свет, начное зімовае неба, а побач у паменшаным памеры стаіць манах з дарожным кіем-посахам каля разбуранага некалі храма…

— Дык ты пытаеш, як я пераходжу ад аднаго поля да другога? — перапытвае сябар. — У творчасці гэта мае два паможнікі — пяро і пэндзаль. Пры гэтым пяро галоўнае. Пяро — умоўна, бо мы з табой ужо даўно палоннікі камп'ютэра. Раней вельмі любіў пісаць кітайскімі ручкамі, запраўляючы іх чорным чарнілам. У мяне іх з дзесятак, як напамін пра той час, калі выцярэбліваў дарогу ў літаратуру. Як, дарэчы, і фотаапараты. Сёння лічбавыя і люстраныя камеры, перакінуў здымкі ў камп'ютэр — і рабі з імі што хочаш...

— Так, вялікая палёгка і з наборам тэксту, і з фота... — згаджаюся, бо і мне тэхніка дапамагае: свае п'есы магу пасылаць у любую краіну свету.

— Калі сядзіш па дзесяць-дванаццаць гадзін за клавіятурай, ды і не адзін дзень, то наступае аднойчы такі перыяд, калі боязна падступацца да друкавання... Адчуванне такое, як быццам пераесі, перап'еш… Адчуваеш самую сапраўдную стому — і фізічную, і псіхічную. А мозг ужо працуе па інерцыі — яму трэба даваць страву, "карміць"... Вось тады перабягаю ў іншую сферу, радуюся, што ў мяне ёсць запасны аэрадром, ціхая гавань, дзе я магу схавацца і быць глухім да ўсяго навакольнага... У адным з вершаў пісаў:

*Калі стамляецца пяро,*
*за пэндзаль я тады бяруся...*
*Іду паслухаць шэпт бароў,*
*яшчэ — звон дзідаў ваяроў, —*
*пачуць, як б'ецца сэрца Беларусі...*

— Што ты любіш маляваць, што бліжэй тваійму сэрцу?

— А я і сам не ведаю, што мне даспадобы. Люблю прыроду.

— Ездзіш на эцюды?

— Ды не, лічу, я не мастак, бо ніхто мяне не вучыў гэтаму, хаця ў школе выпісваў па пошце цюбікі фарбаў, але не ведаў, як з імі абыходзіцца, як грунтаваць тканіну... Добрая школа для мяне была, калі знаходзіўся побач з мазырскім казачнікам — Міколам Пушкаром, керамістам, геніяльным гліняным мастаком. Назіраў, як ён ляпіў свае брэйгелеўскія мініяцюры, як таленавіта абыходзіўся з палескай чырвонай глінай.

У яго майстэрні створаны музей, я і кніжку напісаў пра яго.

— Але, на жаль, яго імя яшчэ не набыло імя Мастака Беларусі. Гэта будзе, веру. Люблю бываць у майстэрні скульптара Зміцера Папова і ў яго сына — Янкі. Выдатныя майстры! Падабаюцца мне сваёй настраёвасцю і таямнічасцю працы Валеры Дрыгі.

— У якасці вучобы капіраваў каго-небудзь?

— Не люблю капіраваць, выпісваць нешта да драбніц... Магу нешта прыблізнае "напэцкаць" і адставіць убок. А назаўтра, пільна прыглядзеўшыся на адлегласці, магу нечакана ўбачыць у выпадковых мазках нешта няўлоўнае, але якое можна лёгка дапісаць... Я не малюю, проста хаваюся ад напісаных радкоў, якія патрабуюць працягу. Не заўсёды "кладзецца карта" і ў стварэнні малюнкаў. Не мой дзень, значыць, не маё натхненне... І тады я зноў уцякаю — на трэцяе ўжо, на паэтычнае, поле. Гэта як спроба знайсці раўнавагу — душэўную і фізічную. Могуць прыйсці да мяне тры-чатыры радкі, але потым — як і з тымі фарбамі, рассыпаюцца словы, як картачны дамок, якія спрабаваў узвесці ў сваіх мроях...

— І куды ж твае ўцёкі далей?

— Тады ўжо імкнуся на прыроду, магу гадзінамі слухаць пошум лесу...

Слова за слова — і мы кранаемся праблем творчасці, — як у літаратуры, так і ў мастацтве. Прыходзім да высновы, але не адкрываем ісціну, што чалавек, надзелены Вышнім здольнасцю ці талентам тварыць, ніколі не павінен адступаць ад сваіх жыццёвых прынцыпаў, перакананняў і правілаў. Ён кіруецца тым шляхам, у які выправіў яго Вышэйшы Творца. І тады ён не здольны будзе сфальшывіць, схлусіць, пісаць няпраўду — не асмеліцца ўзяць на сябе такі грэх...

Мой позірк міжволі спыняецца на працы "Вяртанне". Чамусьці чуецца халоднае завыванне ветру ў званіцах паўразбуранага храма, цяжкі ўздых манаха. А мо і не манаха, а толькі духу яго, які прыйшоў з таго свету. Прыйшоў, каб памаліцца. Памаліцца, дараваўшы нават і тым, хто адправіў яго ў гады ваяўнічага атэізму на той свет. Глыбокі і патаемны сэнс у гэтай мажорна-мінорнай карціне...

А вось "Завіруха". Трывожная карціна. Зламанае дрэва напамінае нейкую пачвару, якая ашчэрвае зубы. Завіруха згінае да зямлі дрэвы, і яны ўпарта процістаяць напорыстаму ветру. Мелодыя з майго дзяцінства, калі я хадзіў праз поле ў школу, а па дарозе сустракаў вось такія зламаныя дрэвы. За імі, недзе ў гушчары, вылі ваўкі...

Затрымаўся каля карціны "Казка для ўнука". Яшчэ раней казаў мне аўтар, што ўнук Андрусь папрасіў напісаць для яго казку пра чараўніка. Але сталася так, што Анатоль напісаў яе не пяром, а пэндзлем. Чараўнік у капелюшы з шырокімі брылямі. У брылі зроблена дзірка. А ў тую адтуліну з пляча прыстаўлена драбіна. Па той драбіне падымаюцца людзі, якія прыплылі на казачным караблі. Падняўшыся, становяцца на лыжы і едуць у казачную зіму. На вільчыку капелюша сядзяць унук і варона, перагаворваюцца між сабой. У адной карціне ўсе поры года: лета і восень, зіма і вясна. Пазней, як прызнаваўся Анатоль, унук ужо сам складаў казку па той карціне. І кожны раз яна атрымлівалася новая...

Можна было б расказваць і расказваць пра іншыя карціны мастака-паэта, бо толькі паэт мог так увасобіць літаратурныя сюжэты алейнымі фарбамі. Не будзь мастаком, Анатоль, напэўна, не змог бы напісаць такі выдатны раман-фантасмагорыю "Спакушэнне" пра мастака, які заблудзіўся ў жыцці. Ці ён пісаў з сябе, ці са сваіх сяброў-мастакоў, але вобраз галоўнага героя празаіку ўдаўся.

Карцін у Анатоля не так і шмат — больш чым паўсотні. І над рабочым сталом нязменна знаходзяцца гліняныя "Ясь і Яніна", якіх некалі падараваў яму Мікола Пушкар — як талісман, што і натхняе яго ў працы.

На развітанне мы паціснулі адзін аднаму рукі. Хацелася спытаць у яго пра апошняе — ці думае ён калі-небудзь наладзіць выстаўку сваіх карцін, але перадумаў. Ведаў загадзя адказ — ён крытычна адносіцца да другога свайго занятку.

Васіль ТКАЧОЎ







На здымках: "Казка для ўнука", "Завіруха", "Стажок".

Фота аўтара

# У наступным нумары

Культура памяці народа вызначаецца яго імкненнем да стварэння архіваў, музеяў, бібліятэк. Дзяржаўная апека над гэтымі ўстановамі гарантуе іх скарбам захаванасць і годнае служэнне навуцы і чалавеку. Калі ў другой палове 1950-х гадоў была прапанавана ідэя стварэння ў Беларусі літаратурнага архіва, яе прыхільнікамі сталі многія пісьменнікі і вучоныя. Сёння, калі на рахунку Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ўжо пяцьдзесят гадоў руплівай працы, з гонарам можна сказаць: Беларусь мае найкаштоўнейшую скарбніцу рукапісных помнікаў і дакументальных крыніц па гісторыі нацыянальнай літаратуры і мастацтва. У наступным нумары ўвазе чытачоў прапануецца знаёмства з гісторыяй утварэння і сучаснымі набыткамі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

З глыбінкі

## Карагоды. З якой нагоды?

Веткаўшчына — прыгожы куточак, дзе жывуць вясёлыя, працавітыя і таленавітыя людзі. Тут звонка спяваюць не толькі птушкі, але і самі насельнікі незвычайнага краю, якія шануюць сваю культурную спадчыну.

Паводле ўяўленняў мясцовых жыхароў, кожнае паданне, кожны абрад валодаюць незвычайнымі сіламі і ўласцівасцямі.

Як адзначыў начальнік аддзела культуры Веткаўскага райвыканкама Уладзімір Мельнікаў, у раёне налічваецца ўжо 11 калектываў мастацкай самадзейнасці, якія маюць званне "Народны калектыў". Сярод лепшых можна назваць і фальклорны гурт "Стаўбунскія вячоркі", якім кіруе Святлана Парашчанка. Гэты адметны калектыў дзейнічае з 1982 года. Самадзейныя артысты з вёскі Стаўбун пабывалі нават у Маскве, Волагдзе, Пецярбургу, Вільнюсе, Навазыбкаве.

Паводле слоў вядучага метадыста абласнога Цэнтра народнай творчасці Людмілы Мельнікавай, фальклорны гурт "Стаўбунскія вячоркі" пастаянна дэманструе любоў да ўсяго роднага, прывівае мясцовым школьнікам пашану да гістарычнага мінулага.

Традыцыйна акурат на праваслаўнае свята Ушэсце на Веткаўшчыне адбыўся народны абрад ваджэння і пахавання стралы. Сюды прыехала шмат гасцей. Разам з мясцовымі жыхарамі і школьнікамі "Стаўбунскія вячоркі" дэталёва выканалі абрад. Жанчыны і дзяўчаты з песнямі пайшлі ў поле, да зялёнай нівы з жытам, дзе таксама спявалі абрадавыя песні, вадзілі карагоды. Менавіта там і адбылося сімвалічнае пахаванне стралы для таго, каб урадзіла жыта, каб пярун не пашкодзіў ніводнай хаты.

Ганна АТРОШЧАНКА

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3068
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.05.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2484
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4666